Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Ліm

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 27 (4673) 6 ліпеня 2012 г.

Янка КУПАЛА

## З кутка жаданняў

*З цэлым народам*
*гутарку весці,*
*Сэрца мільёнаў*
*падслухаць біцця —*
*Гэткай шукаю*
*цэлы век чэсці,*
*Гэта адно мне*
*падпорай жыцця.*

*Песню стварыці ясну,*
*як неба,*
*Ў кожнай з ёй хаце*
*быць мілым гасцём —*
*Гэтакіх толькі скарбаў*
*мне трэба,*
*Гэткім я толькі жыву*
*пачуццём.*

*Што не загубяць*
*крыўды жывую*
*Душу народа,*
*што ўстане са сну, —*
*Гэткай надзеяй*
*толькі жыву я,*
*Гэткую толькі чакаю вясну.*

*К яснаму сонцу з цьмы,*
*з беспрасвецця,*
*К славе з бяссłаўя*
*ўсім нашым людзям —*
*Гэткай шукаю*
*сцежкі на свеце,*
*Гэткаму богу*
*і душу аддам.*

*За лепшу долю*
*роднага краю,*
*За сваіх брацціяў*
*ў святой барацьбе —*
*Гэтакай толькі*
*смерці жадаю,*
*Памяткі гэткай*
*чакаю сабе.*

*1912 г.*

# А хто там ідзе?..

Янка Купала



*Фота 1912 г.*

## Пункцірам

✔ Падчас цырымоніі адкрыцця XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" будуць уручаны прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва лаўрэатам 2011 — 2012 гадоў — мастаку Георгію Паплаўскаму і паэту Глебу Гарбоўскаму.

✔ У Мінск дастаўлены спісак праслаўленага абраза Божай Маці "Усецарыца" з афонскага манастыра. Абраз лічыцца цудадзейным, яму моляцца за тых, хто пакутуе на анкалагічныя захворванні. Спісак быў зроблены спецыяльна для беларускай сталіцы, дзе будзе захоўвацца ў храме, які плануецца ўзвесці ў гонар святыні "Усецарыца". Пакуль ён часова змешчаны ў Лядзенскім Свята-Дабравешчанскім мужчынскім манастыры.

✔ Двухдзённае свята "Александрыя збірае сяброў", якое традыцыйна ладзіцца ў вёсцы Александрыя Шклоўскага раёна на Купалле, распачалося сёння на беразе Дняпра. Акрамя насычанай канцэртнай праграмы з удзелам артыстаў эстрады Беларусі, Украіны, Расіі і выступленнямі калектываў народнай песні і танца, наведвальнікаў чакае святочна-абрадавая праграма "Купальская казка", выступленні лаўрэатаў Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Залатая пчолка", выстаўка-кірмаш народных рамёстваў "Купальскі карагод", кніжная выстаўка-продаж, авіяшоу.

✔ Купалле ў Міры адзначыцца сёння тэатралізаваным канцэртам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча "У ноч на Купала", які пройдзе ва ўнутраным дворыку Мірскага замка. Калектыў упершыню прадстаўляе публіцы адроджаныя традыцыйныя абрадавыя карагоды і гульні ў спалучэнні з вакальна-харэаграфічнымі кампазіцыямі. Кульмінацыяй свята стануць скокі праз агонь і варажба на вянках ля возера.

✔ Выстаўка твораў беларускіх і літоўскіх майстроў выяўленчага мастацтва "Карані" праходзіць у Вільнюскай гарадской галерэі "ARKA". Выстаўка, прысвечаная "аб'яднальнай" для беларусаў і літоўцаў тэме — тэме лесу, — сумесны праект Мінскай гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва, Гомельскай карцiннай галерэі Г. Вашчанкі і Вільнюскай галерэі "ARKA".

✔ Беларускіх і замежных танцораў збярэ на "Славянскім базары ў Віцебску" маладзёжны фестываль "Агонь танца-2012". Фестываль пройдзе на плошчы Перамогі 14 ліпеня. Да танцораў, што пакажуць класічны эстрадны і народны танец, далучацца больш як 500 прадстаўнікоў маладзёжных субкультур, якія правядуць для ўсіх, хто жадае, майстар-класы па брэйкдансе, хіп-хопе, скейтбордзе, ролерспорце, графіці, бодзі-арце.

✔ Кансервацыя фрагментаў Крэўскага замка распачнецца ў 2013 годзе. Пакуль на гэтыя работы мяркуецца выдаткаваць 5 мільярдаў рублёў. Аднак калі станецца магчымым аднаўленне гэтак званай Княжацкай вежы, то аб'ём расходаў можа вырасці.

✔ Афорты індыйскага графіка, дацэнта факультэта выяўленчых мастацтваў Курукшэтрскага ўніверсітэта Ракеша Бані будуць выстаўлены ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Фантастычны свет чалавечага ўяўлення пра зямлю і нябёсы, мінулае, сапраўднае і наканаванае — галоўная тэма творчасці майстра.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Прэс-канферэнцыі

# Юбілей Купалы — усенароднае свята

**Напярэдадні святкавання 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў літаратурным музеі класіка прайшла прэс-канферэнцыя з удзелам першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч, намесніка міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуша Стружэцкага, начальніка аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама Аляксандра Рамановіча і дырэктара музея Алены Ляшковіч.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Журналістаў пазнаёмілі з планам правядзення галоўнага з шэрагу юбілейных мерапрыемстваў — свята паэзіі, песні і народных рамёстваў "З адною думкаю аб шчасці Беларусі" на радзіме Купалы ў Вязынцы. Маштаб яго будзе нават большым, чым падчас памятнага для ўсёй нашай краіны святкавання 100-годдзя Песняра: гасцей у Вязынку, нават паводле самых сціплых падлікаў, прыбудзе не менш як 10 тысяч чалавек.

Тадэуш Стружэцкі нагадаў прысутным пра тое, што, уласна, юбілей беларускага класіка ўжо адзначаецца. У кастрычніку мінулага года быў падпісаны адпаведны ўказ Прэзідэнта і зацверджаны план юбілейных мерапрыемстваў. У плане значыліся вечарыны, прысвечаныя творчасці Купалы ў розных кутках Беларусі і за яе межамі, рэспубліканская акцыя "Чытаем Купалу разам", перавыданне твораў Купалы і кніг, прысвечаных вялікаму паэту, стварэнне шэрагу літаратурна-мастацкіх і публіцыстычных праграм на тэлебачанні, ажыццяўленне новых тэатральных пастановак паводле твораў Купалы на сцэнах айчынных тэатраў…

Лілія Ананіч падзякавала журналістам за своечасовае і падрабязнае асвятленне ўсіх "купалаўскіх" і "коласаўскіх" мерапрыемстваў, якія сёлета праводзяцца ў рэспубліцы, і спынілася на кнігавыдавецкіх дасягненнях, заклікаўшы, між іншым, прадстаўнікоў СМІ не прапусціць маючай хутка адбыцца ў сценах купалаўскага музея прэзентацыі выдання "Мастацкай літаратуры" "Янка Купала. Успаміны. Эсэ".

Аляксандр Рамановіч распавёў, што Вязынка прыме гасцей 7 ліпеня. За дзень да гэтага ў Мінску адбудзецца ўскладанне кветак да помніка Купалу.

Усіх, хто любіць і шануе Купалаўскае слова, у Вязынцы на галоўнай канцэртнай пляцоўцы чакае вялікая відовішчная праграма "Малюся я небу, зямлі і прастору…" з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча, артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, салістаў Дзмітрыя Качароўскага, Андрэя Усанава і Андрэя Скарынкіна, фольк-медыя групы "Неруш" Белдзяржуніверсітэта, фальклорных ансамбляў "Грамніцы" і "Талака" Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў і Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята". Яшчэ адна пляцоўка будзе аддадзена паэтам і чытальнікам. Тут жа выступяць фіналісты конкурсу аўтарскай песні "Купалаўскія вакацыі". Пазнаёмяць прысутных са сваёй творчасцю і шматлікія самадзейныя калектывы і выканаўцы з Мінска і Маладзечанскага раёна.

А яшчэ падчас свята ў Вязынцы аматары беларушчыны змогуць ацаніць творчасць народных майстроў і ўзяць удзел у майстар-класах па ткацтве, вышыўцы, бісерапляценні, кавальскай справе, наведаць выстаўку малюнкаў паводле твораў Купалы, выкананых рускімі дзецьмі з Данскога рэгіёна, і выстаўку работ беларускіх падлеткаў, якія займаюцца мадэліраваннем самалётаў (яе дзеці прысвячаюць любімаму вершу "Хлопчык і лётчык").

Святкаванне Купалавага юбілею мае выліцца ў свята ўсенароднае, заўважыла Алена Ляшковіч, якая падкрэсліла ролю Янкі Купалы ў аб'яднанні нацыі. І між іншым — анансіравала адкрыццё першай чаргі новай музейнай экспазіцыі, якая мае адбыцца ў канцы ліпеня, і прэзентацыю кнігі Міколы Труса "Янка Купала ў Славакіі".

Юбілейныя мерапрыемствы ў гонар Купалы будуць доўжыцца ў краіне да канца года. А наша пашана вялікаму чалавеку і творцу будзе аддавацца незалежна ад даты ў календары. Бо гэта — Купала, ён для нас УСЁ, ён у нас адзін такі. Гэтаксама, як адзіны ў нас Колас, Багдановіч, Танк, Караткевіч… Яны зрабілі беларусаў беларусамі. І гэта варта павагі і любові.

## Прынятыя ў СПБ



**Маліноўская Марыя Юр'еўна**
***Паэтэса***

Нарадзілася 6 красавіка 1994 года ў г. Гомелі. Студэнтка філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны.

Друкавалася ў часопісах "Нёман", "Новая Немига литературная", "День и ночь" (Красноярск) і інш. У 2009 годзе выйшаў першы паэтычны зборнік "Луны Печали", у 2011 годзе — другая кніга паэзіі "Под прозрачной рукой".

Марыя Маліноўская — уладальнік Гран-пры рэспубліканскага конкурсу маладых пісьменнікаў у 2008 годзе. Сёлета стала лаўрэатам расійскай прэміі імя Дзмітрыя Ліхачова, міжнароднага конкурсу "Чароўны радок" імя Мікалая Рубцова. На лонданскім фестывалі рускай паэзіі і культуры "Пушкін у Брытаніі" М. Маліноўскай уручаны прыз імя Рымы Казаковай за лепшы верш пра каханне.



**Чыгрынаў Пётр Гаўрылавіч**
***Празаік***

Нарадзіўся 29 чэрвеня 1938 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў гісторыка-геаграфічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, аспірантуру Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Прафесар, доктар гістарычных навук, заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, працуе ў Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь.

Аўтар дзесяці навукова-папулярных кніг, сотні публікацый у перыядычных выданнях. Ён аўтар двух гістарычных раманаў. У 2010 годзе выйшаў першы раман "Тайна Великого князя", у 2011 годзе — другі раман "Под тремя коронами".

## З нагоды

# На шляху да саміх сябе

Вольга НОРЫНА

28 чэрвеня на Вайсковых могілках сабраліся прыхільнікі творчасці Песняра, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, супрацоўнікі музеяў, каб засведчыць: слова Купалы і памяць пра яго жыве ў нашых сэрцах.

Місіяй паэта было сказаць беларускаму народу пра яго высокую годнасць. "Творчасць Купалы стала духоўным апірышчам нашай нацыі — беларусаў на шляху да саміх сябе", — так пра ролю Песняра сказаў намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь пісьменнік Анатоль Бутэвіч падчас мітынгу ў дзень 70-годдзя трагічнай смерці паэта.

Аддаць даніну павагі сапраўднаму сыну зямлі беларускай палічылі сваім ганаровым абавязкам намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі пісьменнік Георгій Марчук. Спадар Стружэцкі адзначыў: "Янка Купала сваім словам і любоўю да радзімы ўпісаў сваё імя не толькі ў гісторыю роднай краіны, але і ў сусветную гісторыю — як грамадзянін, патрыёт, выбітны паэт, публіцыст. Год, прысвечаны паэту, насычаны цікавымі мерапрыемствамі, што прайшлі не толькі ў Беларусі — у Літве, Польшчы, Расіі і іншых краінах свету". Георгій Марчук падкрэсліў: "Наша задача — не даць загінуць роднаму слову, і сцягам гэтага руху будзе творчасць Купалы". Старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы доктар філалагічных навук прафесар Вячаслаў Рагойша ўсклаў да помніка паэта кветкі, прывезеныя з Ракава (вёсачка Паморшчына, дзе жылі бацькі Купалы, калі чакалі нараджэння сына, стала часткай гэтага горада). Навум Гальпяровіч — паэт, публіцыст, галоўны дырэктар радыё "Беларусь", якое расказвае свету пра нашу краіну на сямі мовах, распавёў: "Купала нам будзе патрэбны ва ўсе часы як запавет любові да роднай зямлі".



*Слова мае Тадэуш Стружэцкі.*

Узяў слова і Георгій Ляховіч, дырэктар сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 19, што носіць імя Янкі Купалы. Згадала пра названыя ў гонар паэта навучальныя, тэатральна-відовішчныя, культурна-адукацыйныя ўстановы, прадпрыемствы, вуліцы гарадоў і вёсак, плошчу ў ізраільскім горадзе Ашдод вядучая мітынгу дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч.

Пранікнёна гучалі вершы Навума Гальпяровіча і намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Уладзіміра Мазго, прысвечаныя Купалу, радкі Песняра ў выкананні мастацкага кіраўніка тэатра аднаго акцёра "Зьніч" Галіны Дзягілевай і ў перакладзе на карацінскую паэта Хізры Асадулаева, што адкрыў для сябе Беларусь праз творчасць класіка.

## Літабсягі

# "Мудрай прамовы мёд залацісты..."

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

**"Чытаем разам, чытаем па-беларуску" — пад такім дэвізам у Год кнігі актыўна супрацоўнічаюць выдавецтвы і кнігарні, абуджаючы цікавасць чытача да літаратуры на роднай мове. Сталічная "Кнігарня пісьменніка" і выдавецтва "Мастацкая літаратура", якое сёлета адзначае саракагадовы юбілей, паклапаціліся пра тое, каб стварыць для наведвальнікаў сапраўднае свята. Назваў чарговай сустрэчы з беларускай прозай і паэзіяй, што адбылася тут напрыканцы чэрвеня, сталі словы Максіма Багдановіча "Мудрай прамовы мёд залацісты…"**

Загадчыца кнігарні Святлана Цішкевіч расказала: "Калі выдавецтва прапанавала нам правесці такую акцыю, мы адразу згадзіліся. Хаця ў нас, як у той вядомай казцы, "королевство маловато, разгуляться негде", на палічках прадстаўлены не толькі творы, што ўбачылі свет у "Мастацкай літаратуры", але і прадукцыя ўсіх дзяржаўных і недзяржаўных беларускіх выдавецтваў". На пытанне, чаму выбралі гэту кнігарню, супрацоўнік выдавецтва Зося Кустава распавяла: "«Кнігарня пісьменніка» — намоленая, находжаная нашымі славутымі творцамі. Ідучы з Саюза пісьменнікаў, яны заўсёды заходзілі сюды паглядзець, якія навінкі іх і іх калег з'явіліся на палічках, ці карыстаюцца попытам іх творы.

Выдавецтва праводзіць некалькі соцень прэзентацый сваёй прадукцыі ў год — і на кожнай прапагандуем беларускую кнігу. Наша мэта — дайсці да кожнага чытача, каб тая калыханка, якую спявае маці, гучала па-беларуску, на роднай мове. Таму кнігі выдаём для ўсіх узростаў, пачынаючы ад тых, каму яшчэ няма і трох гадоў, хто пачынае вучыць літары, спасцігаць мову. Штоквартал плануем праводзіць такія сустрэчы ў нашых апорных кнігарнях".



*Пра свае творы маленькім чытачам расказвае Галіна Пшонік.*

Падчас "Мудрай прамовы…" адбылося 20 прэзентацый кніг, з адзінаццаці гадзін раніцы да васьмі вечара афіша кнігарні запрашала на сустрэчу з вядомымі і маладымі аўтарамі. У мерапрыемстве ўдзельнічалі Уладзімір Гніламёдаў, Навум Гальпяровіч, Алесь Камоцкі, Таіса Трафімава, Ніна Галіноўская, Уладзімір Мацвеенка, Алена Масла, Уладзімір Ліпскі, Аксана Спрынчан, Арцём Кавалеўскі, Анатоль Зэкаў, Наталля Бучынская, Алена Мальчэўская, Юрась Пацюпа, Людміла Цінякова і іншыя літаратары.

Супрацоўнікі "Кнігарні пісьменніка", натхнёныя вынікамі мерапрыемства, вырашылі сістэматычна праводзіць сустрэчы такога кшталту.

## Артлінія

# Ад афіш — да эмоцый

**Домам, дзе захоўваюцца і адраджаюцца глядацкія эмоцыі, называюць Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Сапраўды: ціхае прэм'ернае ўзрушэнне залы, адыходзяць у былое нашумелыя спектаклі, змяняюцца пакаленні артыстаў, гледачоў, слухачоў — а кранальная экспазіцыя ў музейным кутку праз дакументальную праўдзівасць рэальных прадметаў здатная абудзіць у кожнай чулай душы чараду жывых эмоцый ды настроіць на роздум. Повязь са складаным і глыбокім творчым светам адчуваеш, аглядаючы і новую выстаўку музея "Купалаўскія вобразы на беларускай сцэне".**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

Экспазіцыю, прымеркаваную да юбілею песняра, падрыхтавалі супрацоўнікі двух дзяржаўных устаноў: музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі ды літаратурнага музея Янкі Купалы, частка матэрыялаў прадстаўлена Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. Пажоўклыя рарытэтныя праграмкі ды сучасныя маляўнічыя афішы, макеты сцэнаграфіі ды эскізы касцюмаў і дэкарацый, факсімільныя выданні "Нашай Нівы" і п'ес "Паўлінка" ды "Раскіданае гняздо", мемарыяльныя рэчы вядомых творчых асоб і шматлікія фотаздымкі... Што тут "самае-самае"? Унікальнае ўсё. Сціплая абвестка: "Адчыненне сезона 1939 — 1940 г. Першага беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра. Прымаюцца заяўкі на сталыя месцы". Эскізы Б. Малкіна да спектакля "Прымакі" (1944) з радкам касцюмаў адмыслова на Б. Дакальскую і Р. Шашалевіч. Жывапісны Купалаў партрэт (1945), намаляваны В. Волкавым. Эскізы П. Масленнікава да спектакля купалаўцаў "Шчасце паэта" паводле В. Віткі (1952). Фота Ядвігі Юрэвіч (прататып Паўлінкі); сцэн са спектакля Беларускай люцынскай гімназіі; незабыўных Г. Глебава, В. Полы, С. Станюты, Г. Макаравай... Упершыню экспануюцца рэчы П. Мядзёлкі (здымкі, у тым ліку з Купалавымі сёстрамі; лісты да сваякоў, ноты, шахматы).



*Клара Мізгайла (справа) перадае каляндар дырэктару ДМГТіМК Зінаідзе Кучар.*

На адкрыцці выстаўкі дырэктар МГТіМК З. Кучар, дырэктар музея Янкі Купалы А. Ляшковіч, захавальніца музея НАТ імя Янкі Купалы К. Мізгайла распавядалі пра сцэнічны лёс творчасці песняра: драматычных паэм "Адвечная песня", "Сон на кургане", "На папасе", п'ес "Паўлінка", "Тутэйшыя", "Раскіданае гняздо", сцэнічнага жарту "Прымакі", драматычнага абразка "На Куццю". Абедзве музейныя ўстановы атрымалі ў падарунак насценны каляндар "Жывая гісторыя", выпушчаны тэатрам пры падтрымцы ААТ "Банк БелВЭБ" да 130-годдзя двух беларускіх песняроў. Старонкі новага выдання ўпрыгожваюць фотапартрэты артыстаў у вобразах з твораў Купалы і Коласа. Жывых тэатральных эмоцый дадаў у атмасферу вернісажу і відэапаказ "Паўлінкі" — спектакля купалаўцаў, запісанага ў 1982 годзе.

## Повязі

# Парыж у люстэрку кіно

**Экран мінскага кінатэатра "Ракета" з 22 чэрвеня па 22 ліпеня стаў акном, праз якое можна ўбачыць сённяшнія спадзяванні і клопаты сталіцы Францыі. З праграмай фільмаў "Парыж сёння" мінчане і госці горада атрымалі магчымасць азнаёміцца дзякуючы праекту CINEMASCOPE, арганізаванаму пры падтрымцы Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і Французскага Інстытута (Парыж).**

Вольга ПАЛОМЦАВА

Кожны з фільмаў праграмы прапанаваў свой погляд на адзін з аспектаў паўсядзённага жыцця французскай сталіцы — ад побыту моладзі квартала Сэн-Дэні ("Увёртка", рэжысёр Абдэлатыф Кешыш) да закулісных сакрэтаў палаца Гарнье ("Танец. Балет Парижской оперы"), у якім мэтр дакументальнага кіно рэжысёр Фрэдэрык Уайзмэн са сваёй камерай пранікае ў святая святых — балет Парыжскай оперы — і адкрывае гледачу яе жыццё, ад швейнай майстэрні да шыкоўнага выхаду прымы-балерыны на сцэну. Фільм расказвае таксама пра выбітных мастакоў, што спрыяюць стварэнню ўнікальных пастановак Парыжскай оперы.

Перадаць нюансы і адценні павеваў думак аднолькава добра змаглі і лёгкі сентыментальны мюзікл пра любоўны трохкутнік ("Все песни только о любви", рэжысёр Крыстафер Анарэ), і інтэлектуальная камедыя пра каханне настаўніка музыкі да сваёй вучаніцы ("Перемена адреса", рэжысёр Эманюэль Мурэ), і абсурдысцкі фарс ("Андалусия", рэжысёр Ален Гомес). Не пакінуць абыякавымі перажыванні падлеткаў у стужцы "До… Но после" (рэжысёр Тоні Маршал) і выпадковая сустрэча маладой жанчыны Эдыт і яе сына Сезара з чалавекам, які парушае іх размеранае жыццё ("Люксембургские парусники", рэжысёр Ніколя Анжэль). Цікава парашнаць, як вырашаюць свае праблемы маладыя людзі розных слаёў Парыжа. Аналіз любоўнага вер-



*Кадр з фільма "Танец. Балет Парижской оперы".*

ша Віктора Гюго дапамагае сямнаццацігадоваму Серылу прызнацца ў пачуцці сваёй настаўніцы французскай мовы ("Частный урок", рэжысёр Рафаэль Шэвенман). Зусім іншы настрой у фільма рэжысёра Саміра Гесмі "В воскресенье", герой якога — трынаццацігадовы Ісмір — падманвае бацьку, што на днях атрымае атэстат, хаця ўжо даўно кінуў школу.

У люстэрку кіно адбілася аблічча сённяшняга Парыжа — дынамічнага, непрадказальнага, супярэчлівага. Усе стужкі дэманструюцца на мове арыгінала з рускімі субцітрамі.

## З-пад пяра

➤ Урачыстае мерапрыемства, прысвечанае 20-годдзю ўсталявання дыпламатычных сувязей паміж Беларуссю і Расіяй, адбылося ў Доме дружбы. Удзел у ім узялі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў, першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Ігар Петрышэнка і старшыня таварыства "Беларусь — Расія" Раіса Баравікова. За гэты час здзейснена нямала агульных мерапрыемстваў, у тым ліку і ў галіне культуры і літаратуры. Ёсць планы па падрыхтоўцы і выданні калектыўнага зборніка маладых аўтараў абедзвюх дзяржаў. Як зазначыў Аляксандр Аляксандравіч, ідэя цікавая. І калі будзе канкрэтная прапанова, пасольства абяцае яе падтрымаць, і тады ўжо можна будзе вырашаць, за якія грошы выдаваць кнігу.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

➤ Вы таксама думалі, што летам тэатры зачыняюцца? Цяперашняе лета стане асаблівым. У гэтым годзе з 2 па 6 ліпеня ў Мінску праходзіў IX Сусветны кангрэс Міжнароднай асацыяцыі ўніверсітэцкіх тэатраў. Сёння вы яшчэ можаце паспець на спектаклі "Чыстае каханне" (Тэатр універсітэта Атэнэа г. Маніла, Філіпіны) і "Ілюзіён" (Тэатр "МОСТ", Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт). Першы пройдзе на сцэне ПК Прафсаюзаў, пачатак у 19.00, другі — у Ліцэі БДУ ў 21.00. Квіткі можна набыць у касах горада і на сайце ticketpro.by

**Алена ШАНДРАК**

➤ "Я сэрцам табе прысягаю", — пад такой назвай прайшло 3 ліпеня паэтычнае свята ў сталічным парку імя Максіма Горкага. Арганізаванае Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ, яно было прысвечана Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і вызваленню г. Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Перад жыхарамі і гасцямі сталіцы выступілі вядомыя паэты Міхась Пазнякоў, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Мазго, Аліна Легастаева, Мікола Шабовіч, Таццяна Лейка, Лізавета Палеес. У іх выкананні прагучалі вершы, прысвечаныя роднай зямлі, мужнасці і працавітасці беларускага народа, нашаму мірнаму, шчасліваму часу. Вёў паэтычную імпрэзу старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў.

**Павел КУЗЬМІЧ**

➤ У межах святкавання 125-годдзя з дня нараджэння беларускага мастака Марка Шагала ансамбль салістаў "Класік-Авангард" і Міжнародны сацыяльна-эканамічны фонд "Ідэя" запрашае на музычна-сцэнічную дзею "Сны над Віцебскам", якая адбудзецца заўтра ў Белдзяржфілармоніі. Непаўторнае і незабыўнае сугучча шагалаўскіх фарбаў і рыфм абяцае гледачам "Класік-Авангард". Пачатак а 19-й гадзіне.

**Алеся БАЦЮСЬ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, Ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі ДАВЫДЗЕНКІ Ніны Васільеўны і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

# Сюрпрызы карнавальнай Ніццы

## Неспадзяваная сустрэча з Маркам Шагалам


*“Аўтограф” Марка Шагала.*

**Паўстагоддзя таму давялося мне пабываць у захапляльнай вандроўцы па Францыі ды Італіі. Адпаведна рашэнню калегіі Міністэрства замежных спраў БССР мы разам з яшчэ адным прадстаўніком Беларусі як стыпендыяты ЮНЕСКА былі накіраваныя ў камандзіроўку з 14 студзеня па 26 красавіка 1962 года — для знаёмства з мастацтвам гэтых краін.**

**Сяргей ГАЛОЎКА,**
**фота Святланы Берасцень**
**і з архіва аўтара**

Больш як тры месяцы знаходзіліся мы ў далёкім замежжы. Наведалі многія музеі, выстаўкі найноўшага на той час жывапісу, графікі, скульптуры, прыкладнога мастацтва; глядзелі тэатральныя спектаклі, канцэртныя праграмы розных музычных жанраў, рэвю, модныя і папулярныя эстрадныя імпрэзы.

Пасля некалькіх дзён знаходжання ў Парыжы з прыемнасцю даведаліся, што ў план нашага падарожжа ўключаны і Лазурны бераг, у тым ліку Ніцца — вядомая як горад курортаў, кінафестываляў, знакамітых вясновых карнавалаў, куды з’язджаецца эліта капіталістычнага свету.

Прыехаўшы ў Ніццу, мы выправіліся ў музей, дзе, як нам паведамілі, Марк Шагал рыхтаваў выстаўку афіш для чарговага, 78-га тамтэйшага карнавалу. Даведаўшыся, што сярод гледачоў музея знаходзяцца двое беларусаў-стыпендыятаў ЮНЕСКА, мастак падышоў да нас і пасля кароткай гутаркі запрасіў на ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі афіш, падрыхтаваных ім да гэтага свята. Запрашальныя карткі разам з наборамі чорнабелых фотарэпрадукцый гуашавых афіш М. Шагала нам уручыў мэр Ніццы, спадар Жан Медасэн.

У першай палове таго ж дня мы паспелі наведаць і Музей мадам Лежэ, размешчаны на прыгожым сонечным пагорку ў прыгарадзе Ніццы — Біёце. Спадарыня Лежэ пазнаёміла нас з выдатнымі творамі свайго мужа Фернана Лежэ, добрага сябра Беларусі, і са сваімі ўласнымі работамі. (Цудоўная мастачка і, як вядома, беларуска Надзея Пятроўна Хадасевіч-Лежэ падаравала савецкім музеям нямала каштоўных твораў сусветнага мастацтва, дзякуючы ёй і Музей Марка Шагала ў Віцебску атрымаў калекцыю каляровых літаграфій гэтага майстра).

> ***Магічнаю купальскаю парою зоркі сышліся над Беларуссю і падарылі свету двух геніяў, якія нарадзіліся ў адзін і той жа дзень, толькі з розніцаю ў пяць гадоў. Але што значыць пяць гадоў для Вечнасці? Што значыць узрост для Творцы? Песняра зямлі нашай, вялікага сына Беларусі Янку Купалу і “грамадзяніна планеты” Марка Шагала, навек спакроўленага з Віцебскам, мы памятаем, спазнаём, асэнсоўваем, шануем незалежна ад юбілейных дат. А каляндар нам толькі нагадвае: яны ж нарадзіліся ў адзін дзень, 7 ліпеня паводле сучаснага летазлічэння. І заўтра будзе ўжо 130 гадоў, як прыйшоў на зямлю наш Паэт. І таксама заўтра спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння мастака Марка Шагала.***
>
> ***Вядома, шагалаўскі юбілей — падзея для розных краін і народаў. Але для Беларусі — асаблівая. Пра гэта, дарэчы, нагадаў і знаёмы нашым чытачам асветніцкі артпраект “Мастак і Горад”, дамінантай якога сталася агульнадаступная выстаўка рэпрадукцый мастака, разгорнутая да сярэдзіны верасня ў цэнтры Мінска. Пра гэта сведчыць і маштабная праграма святкавання 125-годдзя М. Шагала ў Віцебску. Да шматлікіх юбілейных згадак пра нашага славутага земляка дадае свае нататкі даўні сябар “ЛіМа” Сяргей Галоўка.***
>
> **Аддзел мастацтваў “ЛіМа”**

Ніцца наогул вельмі ажыўлены горад, а ў дні карнавалу — асаблівa. На гэтае свята з’язджаецца заможная публіка не толькі з усёй Францыі, але і з іншых заходніх краін. Паўсюль чуваць англійскую, італьянскую, нямецкую гаворкі. Гатэлі ў такія дні перапоўненыя, па вуліцах гарадскога цэнтра і ўзбярэжжа шпацыруюць мажныя мужчыны і пажылыя дамы, рэстараны і бары ледзве паспяваюць абслугоўваць сваіх наведвальнікаў. І за шмат дзён да адкрыцця карнавалу газеты і светлавая рэклама настройваюць на свята, распавядаючы пра яго праграму: шэсце масак, ігру аркестраў, выступленні артыстаў і гэтак далей. Даўшы веры такой рэкламе, можна было падумаць, што нічога лепшага на свеце вы не ўбачыце. І вось доўгачаканы час наступіў. Натоўп людзей, якія загадзя купілі карнавальныя білеты, рынуўся на цэнтральную плошчу Ніццы, дзе былі ўсталяваныя спецыяльныя ўзвышэнні, з якіх можна было назіраць за маляўнічым шэсцем. Шматлікія паліцэйскія ледзве спраўляліся з сваімі абавязкамі, ладзячы парадак сярод шумнага натоўпу.

Першы дзень карнавалу пачаўся шэсцем масак, якое працягвалася больш як тры гадзіны. І тут я адчуў першае расчараванне. Мноства крывых фізіяномій, група “п’яная ля кадушкі”, жанчыны з голымі грудзьмі, з неразумным і пустым выразам вачэй… Уражваў вельмі добры тэхнічны ўзровень гэтага паказу, але брыдкага тут было настолькі многа, што яно зацёрла ўсё сапраўды прыгожае. Магчыма, на мяне тое шэсце зрабіла адмоўнае ўражанне яшчэ і таму, што мне добра помніўся карнавал у Маскве, наладжаны падчас шостага Сусветнага фестывалю моладзі — там была сапраўдная дэманстрацыя зграбнасці, маладосці, харастваа.

А вось што сапраўды мне спадабалася на карнавале ў Ніццы — само афармленне горада. Вуліцы былі ўпрыгожаныя гірляндамі папяровых кветак, сцяжкоў, адмысловых фігурак, а ўвечары ўсё гэта аздабляў зіхоткі феерверк рознакаляровых агнёў. Уся праезная частка вуліц шчыльна засыпана, літаральна “засцелена” серпанцінам і канфецi — па самыя “берагі” тратуараў. У дні карнавалу была распрададзена і рассыпана вялікая колькасць гэтых забавак, якія дазвалялася кідаць у каго заўгодна і як заўгодна: першаму сустрэчнаму ў твар, за каўнер. Але больш за ўсё гарэзы імкнуліся пацэліць камунебудзь... у рот: гэта выклікала смех і агульнае задавальненне ў навакольных. Я гэта добра адчуў на сабе, бо як чалавек, не абазнаны ў тамтэйшых карнавальных традыцыях, пабываў у ролі “ахвяры”...

А якім запомніўся мне Марк Шагал падчас кароткай сустрэчы ў Ніцы? Пэўна, у мяне цяпер не атрымаецца напісаць лепш, чым гэта зрабіў у сваёй кнізе савецкі пасол у Францыі В. Зорын. (Дарэчы, ён ведаў і віцебскага настаўніка Шагала — Ю. Пэна). А напісаў ён так:

“«Вы ведалі Пэна? Раскажыце пра яго, калі ласка, падрабязней...» Мой суразмоўца, вядомы ўсяму свету мастак, раптам страціў усялякую цікавасць да навакольных, адмахнуўся ад дакучлівых прыхільнікаў і, моцна ўхапіўшы мяне за руку, павёў у адзін з пакояў, пасадзіў у старасвецкі скураны фатэль. (...) Мастак, які распытваў мяне пра Пэна, быў Марк Шагал. Некалі Шагал вучыўся ў Пэна. Затым вырашыў, што вучыцца яму ўжо няма чаму, і з’ехаў, атабарыўшыся ў Францыі”.

Дазволю сабе працягнуць цытату з кнігі В. Зорына: “І ўспомнілася, як часам стары Пэн казаў: «Шагал таленавіты, вельмі нават таленавіты, але як бы ён там не збіўся з тропу ў гэтай Францыі, як бы не пачаў пісаць на патрэбу “грашовых мяшкоў” усялякіх там козачак у аблоках.... Я ж яго вучыў рэалізму, і я веру ў яго, да сённяшняга дня веру — ён гэтак адораны ад прыроды». Марк Шагал... Сурвэтка, на якой ён жартам ці ўсур’ёз пакідае свой аўтограф — пысачку казы, некалькі штрыхоў гарадскога краявіду, дасціпны малюнак вёскі, — каштуе на “рынку маршалаў” нямала. Пасля Пікасо ён, напэўна, самы вядомы і самы “дарагі” мастак на Захадзе. Над абедзенным сталом на віле Шагала я ўбачыў карціну з выявай знаёмых мне яшчэ з дзяцінства гарбатых вуліц нашага горада. Над лядашчым дамком сіняя шыльда «ЛАФКА». — Чаму праз «ф», Марк Захаравіч? — Малады чалавек, калі ласка, не вучыце мяне, якія былі тады шыльды! — па-старэчы буркліва, з нейкім нават выклікам адказаў Шагал, а ў вачах яго таялі слёзы... Слёзы настальгіі — тугі па далёкай, пакінутай у цяжкія гады Радзімы”.

Вось і паводле маіх кароткіх уражанняў Марк Шагал запомніўся мне як чалавек, чые сусветная слава і бязбедпае доўгае жыццё ў далёкім замежжы (мастак пражыў 98 гадоў) не заглушылі ў ім любоў да радзімы, тугу па ёй і шчырую цікавасць да землякоў.


*“Русалка і рыба”.*


*“Русалка-спакушальніца з паэтам”.*

# Сімвалы жыцця беларускага

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

*Рагойша, В. П.*
*Мой Трыглаў: Кніга пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча / Вячаслаў Пятровіч Рагойша. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 340 с.*

Па-першае, чаму менавіта Трыглаў у назве?.. Вячаслаў Рагойша, з самага пачатку сваёй літаратуразнаўчай дарогі засведчыўшы цікавасць да ўкраіністыкі, і ў прадмове да новай кнігі "Мой Трыглаў" згадвае характарыстыку Янкі Купалы, выдадзеную Паўло Тычынам: "Першая вяршыня беларускага Эльбруса паэзіі".

Эльбрус — з дзвюх вяршынь. Пад другой, падкрэслівае В. Рагойша, "Тычына ўяўляў творчасць Якуба Коласа". І далей: "Аднак сёння мы ўсё часцей кажам не пра дзвюхвяршынную, а пра трохвяршынную найвышэйшую «гару» беларускай паэзіі ХХ ст., якую можна ўявіць у вобразе Трыглава (самая высокая гара ў Юлійскіх Альпах, Славенія). Да самых высокіх творчых вяршынь — Янкі Купалы і Якуба Коласа — арганічна далучаецца і вяршыня Максіма Багдановіча. Калі б ён пражыў столькі, колькі Янка Купала, то, як кажуць, невядома яшчэ, хто быў бы нашым Купалам. Менавіта таму ў гэтай кнізе сышліся — на роўных — тры волаты нашай літаратуры, тры яе аднолькава вартыя вяршыні. Тым больш, што яны не замяняюць, не засланяюць, а толькі ўзаемадапаўняюць, узаемападтрымліваюць адна адну. Побач роўнавяліка ўзвышаюцца адухоўлена-нябесны лірык і драматург, гербоўны шляхціц Іван Луцэвіч, глыбока зямны ліраэпік і эпік, сялянскі сын Канстанцін Міцкевіч і адмысловы паэт-неакласік, энцыклапедычна ўгрунтаваны літаратуразнавец, патомны інтэлігент Максім Багдановіч. Усе яны нам аднолькава дарагія. Як, зрэшты, і ўсе іншыя вяршыні і храбты горнага кража беларускай літаратуры шматпакутнага ХХ стагоддзя…"

Па-другое, у кнізе "Мой Трыглаў", раздзеленай на тры асноўныя часткі — "Янка Купала", "Якуб Колас" і "Максім Багдановіч", сабраны новыя артыкулы і эсэ Вячаслава Пятровіча пра малавядомыя старонкі жыцця і творчасці трох класікаў, пра шляхі вывучэння, засваення іх творчай спадчыны. Даследчык звяртае ўвагу і на тыя яркія асобы, дзякуючы якім напісанае Купалам, Коласам, Багдановічам становіцца больш адкрытым і зразумелым новым пакаленням чытачоў у Беларусі і свеце.

Пра класікаў напісаны дзясяткі кніг, сотні артыкулаў, здавалася б, сабраны ўсе факты з іх біяграфіі, улічаны ўсемагчымыя акалічнасці іх стасункаў з навакольным светам. Але гэта толькі на першы погляд. І кніга В. Рагойшы пераканаўча даводзіць, што прастора для даследаванняў яшчэ дастаткова шырокая. І яшчэ. Купала, Колас, Багдановіч — тыя лёсавызначальныя для народа, нацыі постаці, з якімі Беларусь можа і павінна крочыць у свет, па ўсёй планеце. Тым больш што яны, нашы класікі, надзвычай сучасныя і блізкія сённяшнім чытачам.

З цікавасцю чытаюцца старонкі артыкулаў "Купалава сябрына", "А хто там ідзе?» і яго пераклады на мовы свету". В. Рагойша расказвае пра тое, як рэалізоўвалася ідэя па выданні аднаго верша на самых розных мовах. Яшчэ на пачатку 1970-х гг. аўтар задумаў укласці кнігу аднаго верша Янкі Купалы "А хто там ідзе?" у перакладах на розныя мовы. Вячаслаў Пятровіч ажыццявіў творчы праект, які запатрабаваў немалых высілкаў. Літаратуразнаўца з'яўляўся старшынёй секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў БССР і ўваходзіў у склад усесаюзнага Савета па мастацкім перакладзе пры Саюзе пісьменнікаў СССР. Бываючы на пасяджэннях Савета ў Маскве, Вячаслаў Пятровіч імкнуўся да знаёмства з паэтамі-перакладчыкамі з розных краёў і абласцей СССР. І калі даведваўся, што "А хто там ідзе?" яшчэ не перакладзены на іх мову, то ўручаў калегам пакет з арыгіналам верша, яго рускім падрадкоўнікам і перакладам на рускую мову Максіма Горкага. А на міжнародных творчых сімпозіумах дадаваў яшчэ і наяўныя тагачасныя пераклады на найбольш вядомыя сусветныя і рэгіянальныя мовы. Гэта паспрыяла з'яўленню перакладаў на арабскую мову Абдурахмана аль-Хамісі, валійскую Гарэт Джонс, грэчаскую Яніса Рыцаса, іспанскую Хуана Рамона Масалівера, італьянскую Альда Севярыні, карэйскую Лі Гендзіна, каталонскую Перэ Гімферэра, малагасійскую Эстэр Рандрнамамоні, Малаялам Гапалакрышнана Найяра, нарвежскую Марціна Нага, нямецкую Элізабет Котмаер, партугальскую Мануэля дэ Сеабры, румынскую Іона Драганою, сінгальскую Сірыла Перэра, Тамілі Сома Сундарана, турэцкую Атаала Бехрамаглу, урду Хайдэра Такі, хіндзі Мадана Лала Мадху, японскую Дзіра Кітанікада. Свае складанасці ўзнікалі і пры перакладах вершагімна на мовы нешматлікіх народаў Расіі. Але ў першым выданні зборніка, які быў прымеркаваны




да 100-годдзя Я. Купалы, галоўныя ідэолагі Беларусі ўгледзелі надзвычайную правіну: "пераклады пададзены ў алфавітным парадку назваў тых моў, на якіх верш «А хто там ідзе?» узноўлены". Правілы тэксталогіі не парушаны. Затое былі парушаны правілы рабалепскай ідэалогіі. Рускі пераклад мусіў быць першым. Да чаго прывяла такая заўвага — пра гэта таксама расказваецца ў артыкуле.

Якуб Колас пайшоў з жыцця пазней за Купалу, ужо пасля вайны. І здавалася б, яго біяграфія ў большай ступені адкрыта, знаёма. Шмат намаганняў па публікацыі невядомых раней матэрыялаў прыклаў старэйшы сын народнага песняра — Даніла Міцкевіч. Працягвае цяпер гэту працу малодшы сын Коласа — Міхась Міцкевіч. І ўсё ж, і ўсё ж… Адкрыццём літаратуразнаўцы можна па праву лічыць артыкул "«Я не кахаю Вас. Я Вас люблю»: Святлана Сомава ў жыццёвым і творчым лёсе Якуба Коласа". Са Святланай Аляксандраўнай пісьменнік пазнаёміўся ў Ташкенце, моцна пасябраваў, часта сустракаўся, прысвяціў жанчыне шмат вершаў. Здаецца, нешта пра яе ведаюць аўтары жыццяпісу Коласа, музейшчыкі, ды і чытачы таксама. Але менавіта "нешта"… Вячаслаў Рагойша настойліва шукаў сляды Сомавай. Спярша — у Ташкенце, затым — у Маскве. Пашчасціла, удалося "скантактавацца з ёй, а ў другой палове 1980-х гг. — і сустрэцца ў невялікай яе «хрушчоўцы» на адной ціхай, зялёнай маскоўскай вуліцы". Высветлілася шмат цікавых момантаў. Стаў больш зразумелым характар адносін Коласа і Сомавай. Пра гэта В. Рагойша і расказвае ў артыкуле. Лісты Я. Коласа да ташкенцкай паэтэсы капіраваліся і раней. Але ў 13-м і 14-м тамах 14-томнага збору твораў народнага песняра яны друкаваліся з купюрамі, некаторыя зусім былі абыдзены ўвагай. В. Рагойша прывёз у Маскву тамы збору твораў і па іх звяраў публікацыі з арыгіналамі. "Я зачытваў і перакладаў, — піша Вячаслаў Пятровіч. — На яе твары спачатку была цікаўнасць, потым адбілася незадаволенасць. «Интересно, кто взял на себя смелость выступить в качестве цензора? Я же позволила печатать все письма Якуба Коласа ко мне. А здесь они опубликованы избирательно, причём в публикациях — масса не отмеченных пропусков. Даже все обращения Константина Михайловича ко мне сняты… Как и посвящения на стихотворения». Незадаволенасць перайшла ў раздражненне, нават гнеў…"

А звароты шматслоўныя: "Милая, дорогая Светланочка, мой далёкий прекрасный друг!", "Мой дорогой друг, радость и печаль моя!", "Мой чудесный, неповторимый друг!", "Далёкая, но дорогая и милая Светлана!", "Милая, дорогая Светочка, Краса Узбекистана!", "Дорогая Светланушка", "Милая, дорогая Свет-Ла-ночка!", "Светлая-Лана, далёкий мой и неповторимый друг Светлана!" і інш. Вячаслаў Рагойша аднаўляе справядлівасць, расказвае пра вершы, прысвечаныя Сомавай, друкуе поўны тэкст лістоў. Цытуе ў артыкуле і верш С. Сомавай, які яна адрасавала Я. Коласу:

*А завтра снова день,*
*И встречу я его*
*На том тридцатилетнем*
*перевале*
*Дней человеческих.*
*Неужто это всё?*
*Как мало прожито,*
*как много пережито!*
*Ведь сердце ещё*
*не начинало жить,*
*Ведь всё оно готовилось*
*к полёту,*
*К расцвету.*
*А расцвет не наступил…*
*Любовь я отдаю*
*бегущим буквам,*
*И верю словам несказанным.*
*И дальше снова так —*
*Ещё не раз, не уставая*
*за ночь,*
*Сварю я в поэтическом*
*мартене*
*Сталь скоростную*
*звонкого стиха.*
*Ещё с ночными звёздами*
*поспорит*
*Якубом Коласом подаренная*
*лампа*
*На книгами заваленном столе.*

Максім Багдановіч, яго неўміручая паэзія — асобная любоў, асобнае захапленне Вячаслава Рагойшы. Кожны з тэкстаў, які ўваходзіць у раздзел "Максім Багдановіч", напісаны не толькі розумам, але душой і сэрцам. Нельга без хвалявання, перажываючы чытаць эсэ "Васілёк на магілу Багдановіча: з успамінаў". Важкім, надзвычай актуальным падаецца артыкул "Сустрэча ўкраінцаў з беларускім Ікарам: пра Рамана Лубкіўскага, які арганізаваў гэту сустрэчу". Актуальнасць яго і ў тым, што па сутнасці ў тэксце выкладзена сапраўдная праграма засваення спадчыны М. Багдановіча ў іншанацыянальным свеце. Ва Украіне гэтая задача ў многім вырашана дзякуючы творчай ініцыятыве Рамана Лубкіўскага. Відавочна, што і беларускі бок павінен у іншых краінах і культурах шукаць прыхільнікаў, мастакоў слова, якія б уважылі Багдановіча, Купалу, Коласа, іншых вартавых беларускага прыгожага пісьменства.

Завяршаюць кнігу "Мой Трыглаў" вершы В. Рагойшы, прысвечаныя класікам, і бібліяграфія "Даследаванні, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча". Адно шкадаванне, якое, канечне ж, ніяк не адносіцца да аўтара, а хутчэй — да нашага часу. Тыраж у кнігі — усяго 200 экзэмпляраў. А мець "Мой Трыглаў" у сваіх фондах — гэта ж, паверце, гонар для любой бібліятэкі краіны. І не толькі нашай.

*Сцяжынамі памяці*

# Летапісцы лёсу народа

**Тамара КАЛІНІНА,**
**загадчыца аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

*Купала і Колас, вы нас гадавалі!*
*Вы звалі на волю*
*З цямноты, з прымусу,*
*Каб горда насілі імя беларуса…*
*Дык дзякуй Вам, Колас,*
*Дык дзякуй, Купала!..*

**Пятрусь Броўка**

Да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Магілёўскай абласной бібліятэцы разгорнута кніжна-ілюстрацыйная экспазіцыя "Тваё Песняры, Беларусь!", якая падрыхтавана супрацоўнікамі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры.

Арганізатары выстаўкі мелі на мэце мэтай прадставіць творчую спадчыну беларускіх песняроў праз максімальна поўны рэпертуар выданняў розных гадоў. На жаль, у бібліятэцы няма ўсіх выданняў паэтаў, сярод якіх асаблівую рэдкасць прадстаўляюць дарэвалюцыйныя творы і прыжыццёвыя выданні, але, каб наведвальнікі бібліятэкі мелі ўяўленні пра іх выгляд, дэманструюцца копіі вокладак, а таксама фотаздымкі класікаў у розныя перыяды іх жыцця. Сем твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа з'яўляюцца кнігамі-юбілярамі.

Матэрыялы экспазіцыі згрупаваны ў раздзелы. Творы Янкі Купалы, літаратуразнаўчыя працы пра яго змешчаны ў раздзеле "Несмяротная душа Беларусі". Сярод шматлікіх выданняў паэта верш "Касцу", які быў надрукаваны 11 мая 1907 г. у газеце "Наша Ніва", першы зборнік "Жалейка" (1908), паэма "Магіла льва", якой сёлета спаўняецца 85 гадоў. Яна не была апублікавана адразу пасля творчага завяршэння і выйшла асобным выданнем у 1927 г. у Мінску тыражом 3000 асобнікаў. Сёння гэта выданне з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. У фондзе бібліятэкі яно з'явілася ў 2007 г., калі адзначалася 125-годдзе з дня нараджэння класіка, — Нацыянальная кніжная палата перадала копію першага выдання.

У раздзеле "Летапісец лёсу народа" прадстаўлена творчая спадчына Якуба Коласа. Ёсць і рэдкія кнігі: першы зборнік вершаў "Песні жальбы", які адзначае сёлета сваё 100-годдзе, зборнікі апавяданняў "Водгульле" (1922), "На рубяжы" (1928), падпісаныя псеўданімам Тарас Гушча, паэма "Адплата" (1946) і інш.

Творчасць беларускіх песняроў заслужыла сусветнае прызнанне — пра гэта сведчаць шматлікія пераклады, прадстаўленыя ў раздзеле "Янка Купала і Якуб Колас на мовах народаў свету". Сярод іх выданне "А хто там ідзе?" (1983), у якім адпаведны верш Янкі Купалы перакладзены на 87 моў свету.

Раздзел "Янка Купала і Якуб Колас у творчасці пісьменнікаў Магілёўшчыны" знаёміць з паэтычнымі і літаратуразнаўчымі працамі нашых землякоў, прысвечанымі беларускім паэтам. Найбольш поўна інфармацыя пра іх творы адлюстравана ў бібліяграфічным паказальніку "Янка Купала, Якуб Колас і Магілёўшчына", складзеным супрацоўнікамі аддзела ў 2007 г. да 125-годдзя з дня нараджэння паэтаў, і ў якім змешчана 750 дакументаў за 1921 — 2007 гады.

Юбілейная экспазіцыя будзе дзейнічаць у бібліятэцы да канца года.

# У плыні мадэрнізму

**Янка Купала пераадолеў устаноўкі рэалістычнага (праўдападобнага) мастацтва, уласцівага яго музе жалейкаўскага перыяду. Пра гэта сведчаць многія творы, што ўвайшлі ў зборнікі паэзіі "Гусляр" (1910), "Шляхам жыцця" (1913), "Спадчына" (1922). Пераадоленне ішло ад вострага адчування таго, што слоўнае мастацтва Беларусі пакуль не дасягнула ўзроўню, на які ўзняліся суседнія (руская і польская) еўрапейскія літаратуры.**

Мікола МІШЧАНЧУК

Жывучы доўгі час у Пецярбургу (1909 — 1913) і наведваючы агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева, Янка Купала сам-насам сутыкнуўся з прыхільнікамі мадэрнізму, засвоіў прынцыпы ненарматыўнага, больш актыўнага ў пошуках новых прынцыпаў, адметных выяўленчых сродкаў пісьма. У сферы яго інтарэсаў, несумненна, аказаліся творы В. Брусава, Л. Андрэева, А. Блока. Вынікам пэўнай пераацэнкі раней набытых каштоўнасцей сталася яго паэма "Адвечная песня" (1908), сугучная драме Л. Андрэева "Жыццё чалавека", творам трагедыйнага гучання рускіх сімвалістаў, паляка С. Выспяньскага, заходнееўрапейскіх мадэрністаў. Сувязь паэзіі Янкі Купалы пазнейшай пары ("паэма-трагедыя", паводле вызначэння І. Навуменкі, "Сон на кургане", песімістычныя, роспачныя творы 1918 — 1922 гадоў "Паязджане", "Буралом", "Перад будучыняй", "Голад", іншыя) з сімвалізмам і імажынізмам як мадэрнісцкімі плынямі дэкларуецца ў новай акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры: "Янка Купала не прайшоў міма пэўных мастацкіх форм, выпрацаваных паэтамі-сімвалістамі і імпрэсіяністамі, яны мелі на яго бясспрэчны ўплыў" (І. Навуменка).

Далучанасць творчасці класіка беларускай літаратуры да мадэрнізму, найперш яго плыні — экспрэсіянізму, сцвярджаецца таксама ў манаграфіі В. Максімовіча "Эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя": "Для эстэтыкі экспрэсіянізму першаступеннай, бадай, галоўнай праблемай <…> заставалася праблема сусветнага зла. Чалавек у жорсткім, адчужаным свеце, яго зямная і інфернальная экзістэнцыя <…> — усё гэта яскрава праступае ўжо ў ранніх купалаўскіх паэмах «Зімою», «Нікому», «Адплата кахання», «За што?», «Калека», «У пілігпаўку»". Можна спасылацца і на іншых даследчыкаў, развіноўваючы праблему "Янка Купала — мадэрніст". Такім чынам, устаноўлена дэ-факта сімвалісцкая і экспрэсіяністцкая скіраванасць паэзіі аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. У межах узнятай праблемы заслугоўваюць увагі пытанні сувязі Купалавай творчасці з іншымі плынямі мадэрнізму — акмеізмам, імажынізмам, а таксама з будучым сац-артам.

Днямі "са смакам" чытаў-перачытваў паэму Янкі Купалы "Яна і я", захапляўся тым, як хораша (пластычна-аб'ёмна) вялікі майстар падае карціны звычайнага чалавечага побыту, як ён узносіць звычайныя дзеі і пачуцці безыменных героя і гераіні паэмы — спадчыннікаў Адама і Евы. Думалася пра Купалаў адамізм (акмеізм) і імажынізм, пра сувязь яго выдатнага твора з традыцыямі сусветнай літаратуры: старагрэчаскіх "Іліяды" і "Адысеі", скандынаўскага эпасу — "Калевалы", агульнаўсходнеславянскага "Слова аб палку Ігаравым". У гэтым і ў многіх іншых творах паэта ўсё пачынаецца з побыту, з апісання рэчаў, звычайных дзеянняў герояў. Параўнаем урыўкі з паэмы "Яна і я" класіка нашай літаратуры і з "Калевалы" (пераклад Алеся Салаўя). Чытаем радкі "Калевалы":

*Мне мароз намовіў песняў,*
*нанасіў мне песняў дожджык,*
*мне навеяў песняў вецер,*
*хвалі водныя прынеслі,*
*словы мне складалі птушкі,*
*гукі мне стваралі дрэвы.*

А на памяць прыходзяць Купалавы:

*Гэй, ажыло зямлі старое папялішча!*
*Зайгралі рэчкі, плечы выраўнаваў бор,*
*Спраўляе птушак жвавы рой ігрышча*
*І падлятае з радасцю чуць не да зор.*

Адзінства аўтарскага настрою (захапленне гармоніяй побыту, суладдзе душы чалавека і стану прыроды), стылю (рэалістычнае ўзнаўленне дэталяў жыцця на ўзроўні абагульнення, іх празрыстасць), жанру (ліра-эпас) у двух працытаваных урыўках відавочнае.

Такім чынам, здаўна ў слоўным мастацтве адбываецца своеасаблівая пераклічка, якой не замінаюць вялікія часавыя адлегласці. Яе ў свой час дасягалі (ці імкнуліся дасягнуць) рускія акмеісты, што невыпадкова іменавалі сябе яшчэ і адамістамі, сярод іх М. Гумілёў, Г. Ахматава ды іншыя таленавітыя аўтары. М. Гумілёў сцвярджаў "рэчыўнасць" знешняга свету, яго "атамаў" як аснову мастацтва новага тыпу больш катэгарычна і радыкальна, чым прыхільнікі рэалістычнага тыпу творчасці. І ў паэтычнай практыцы сваёй ён прытрымліваўся ўстаноўкі на тое, што прыгожае ствараецца рознымі шляхамі, але ні ў якім выпадку не можа быць "паўзучым", што сваёй прадметнай, часам экзатычнай, першаасновай яно павінна выхоўваць у рэцыпіента эстэтычны густ, любоў да гармоніі і прыгажосці. Таму, як у адначассе з ім Янка Купала і Якуб Колас, М. Гумілёў апранаў звычайныя з'явы ў вопратку незвычайнасці, яскравасці, шукаў найбольш вартае і значнае ў тым, што акаляе чалавека і чалавецтва, — у прыродным свеце, у побыце.

Янка Купала сваёй паэмай "Яна і я" сцвердзіў і такі (акмеістычны) прынцып пісьма ў беларускай літаратуры. Як і ў акмеістаў, у яго паэзіі рэаліі дарастаюць да ўзроўню міфалагізацыі, абагульнення, ачалавечвання ў духу старажытнага слоўнага мастацтва. Варта прыгадаць у сувязі са сказаным і вось гэтыя радкі Купалавага твора:

*За кросны ненаглядная сесці трэ было*
*Ядваб-кужэль сівенькі ткаць,*
*Але для гэтага прыладаў не было, —*
*Прылады стаў я майстраваць.*

*З бярозы вычасаў ставы ёй новыя,*
*Набіліцы кляновыя зрабіў,*
*А панажы выстругаваў кляновыя,*
*Навой, як трэба, зарубіў.*

*Узяўшы дзічку-яблыньку крамнястую,*
*Стругаў чаўнок гладзей ад шкла.*
*Купіў на рынку берда густа-частае,*
*Ніты сама яна спляла.*

Паэма "Яна і я" — не адзіны Купалаў твор, у якім вызначыліся адзнакі акмеізму. Яны ёсць і ў хрэстаматыйным вершы "Жняя", і ў вершах "Лясная царэўна", "Як у лесе зацвіталі…", "Песня", "Абнімі…", інш.

У творах падобнага тыпу адбываецца відавочная трансфармацыя мовы: нейтральнае слова атрымлівае павышаную эмацыянальную нагрузку, становіцца своеасаблівым вобразам-дэталлю. Адраджаюцца такія даўнія прыёмы, як паралелізмы, унутрана напружаныя, часам да шматлікіх паўтораў-пералічэнняў, адухаўлены, спецыяльная лексіка, "бяруць на сябе" павышаную ідэйна-эстэтычную нагрузку архаізмы, больш важка і значна прэзентуюцца ампліфікацыя, алегорыя.

У працытаваным намі ўрыўку з Купалавай паэмы "Яна і я" можна знайсці ўсе адзначаныя намі асаблівасці мастацкай мовы, што — паўторым — асабліва выразна раскрылiся дзякуючы ўстаноўкам творчасці не толькі рэалістаў, але і акмеістаў. Звычайная моўная плынь узмацняе, надае адзнакі экспрэсіі плыні вобразнай, у якой кожная рэалія набывае рысы жывой істоты. У передапошнім катрэне раздзела паэмы "За кроснамі" — мастацка-вобразная моўная стыхія "паглынае" і ўздымае на высачэзны ўзровень слоўную плынь:

*Няхай ад берда часта ўток калоціцца,*
*Кладзе шырокі гладкі сцяг,*
*А доўгі — як рака, што ў мора коціцца,*
*Як між прысад гасцінец-шлях.*

Паралельна раскрываюцца, ажыўляюцца прадметы, з'явы і настрой, духоўнасць героя, які майструе прылады для "ткалі", якая "набіліцамі громка б'е", у якой "кроў… узыгралася" і рухамі якой ён "украдкаю любуецца". Звернем увагу і на тое, што "мастацкасць" тэксту надае спецыяльная лексіка: пачэсны кут, кроквы, латы стрэх ("У хаце"), ядвабкужэль, ставы, набіліцы, панажы, берда, чаўнок, кросенькі, уток, цэўкі ("За кроснамі"), рунь, загон, палеткі, жніво ("Агляд поля") і інш.

Усё гэта дазваляе сцвярджаць, што Янка Купала вольна і ўпэўнена пачуваўся ў плыні акмеізму і здолеў узбагаціць яго лепшымі набыткамі беларускую літаратуру.

# Прарочы голас Паэта

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Як дзяльба беларускіх тэрыторый не ўзнікла ўпершыню ў выніку савецка-польскай вайны 1919 — 1920 гг., так і тэма падзелу і гандлю імі ў мастацкай літаратуры не запачаткавалася менавіта тады. Беларусь перакройвалася і напярэдадні, і падчас Першай сусветнай вайны. Рыжскі мірны дагавар з яго вынікамі толькі падвёў рысу папярэдняга гістарычнага развіцця, якое заклала, такім чынам, перадумовы распалавіньвання Беларусі. Як пры разглядзе таго гвалтоўнага ўчынку важна аналізаваць папярэдняе сацыяльна-палітычнае развіццё, так і вывучэнне вершаў — водгукаў на азначаную падзею — варта пачаць з грамадзянскай лірыкі на тэму перадумоў, якія прывялі да падзелу беларускай зямлі паміж Польшчай і Расіяй.

Паэзія валодае правідэнцыяльнай функцыяй. І гэты від мастацтва пачаў асэнсоўваць нацыянальную драму беларускага народа задоўга да ваеннай барацьбы за Беларусь паміж усходнім і заходнім суседзямі. У беларускай літаратуры Янку Купалу небесспадстаўна называюць нацыянальным Пракам. Абапіраючыся на досвед гістарычнага развіцця беларускага народа, ён яшчэ да Першай сусветнай вайны, якая надала імклівасці нацыянальным рухам, у прадчуванні, што чакае яго нясспелую нацыю, выказваўся — пэўна, ёмiста і часам жорстка:

*Годзе заходняй ці*
*усходняй культуры!*
*Для беларуса цана ім адна,*
*Усе вы, панове, аднакай натуры:*
*З сэрца чужога кроў*
*ссалі б да дна.*

("Годзе...", 1912)

"Агульна кажучы, праблема "Усходу" і "Захаду" — пастаянны, адзін з вядучых матываў гісторыка-філасофскай рэфлексіі, мастацкай фантазіі паэта, прыкметная тыпалагічная рыса Купалавай адраджэнцкай легенды, Купалавага вызваленчага нацыяналізму, што пасля доўгіх гадоў маны і знявагі, праз узуючы супраціў далакопаў беларушчыны ўсё ж зноў прамаўляе да слыху і сумлення беларускага чалавека. З гледзішча той жа самай праблемы асэнсоўваецца ім гістарычны, па большасці драматычны шлях краіны, абумоўлены ў многім яе прамежкавым геацывілізацыйным становішчам, канкрэтна — паміж "праваслаўнай" Расіяй і "каталіцкай" Польшчай, у процiборстве і ўзаемадзеянні з якімі Беларусь на працягу стагоддзяў мусіла бараніць сваю этнакультурную індывідуальнасць, уласнае права на суб'ектна дзейсную ролю ў гістарычным працэсе", — піша А. Каўка. Прычым той факт, што паэт уздымае тэму каланізацыі сваёй айчыны напярэдадні бурлівых часоў, калі тая каланізацыя ўзмоцніцца, яскрава сведчыць менавіта пра прарочасць генія.

Спакваля тэма не толькі эвалюцыяніравала, але і акрэслілася больш канкрэтна (нават вобразы тых жа груганоў сталі больш контурнымі, іх інтэнцыйная функцыянальнасць больш рацыянальнай, а сімвалізм больш чытэльным): паэт загаварыў непасрэдна пра падзел; назваў "хаўруснікаў" дзеі. Прычым у вершы "Хаўруснікам", датаваным 19 кастрычніка 1913 г., Янка Купала надзвычай дакладна прадугадаў галоўныя моманты савецка-польскага падзелу Беларусі. Пералічым у Купалавай паслядоўнасці:

- працяглыя перагаворы пра падзел: калі мець на ўвазе, што баявыя дзеянні перамяжоўваліся з дыялогам дыпламатаў, то пункт адліку тых перагавораў знаходзіцца яшчэ ў 1919 г., Рыжскі дагавор толькі падвёў вынікі, — *"Спрачаліся доўга, / Як край наш раскрасці"*;

- сапернікі ўрэшце прыйшлі да кансэнсусу, нават больш: дайшло да таго, што пачалі адзін аднаму прапаноўваць кавалкі беларускай зямлі, аднак пры любых раскладках сыходзіліся на падзеле спрэчнай тэрыторыі, якой была Беларусь, — *"Дый спеліся ўрэшце: / Парваць на дзве часці"*;

- нягледзячы на ўвядзенне ў Рыжскі дагавор пункта пра гаранты нацыянальнага развіцця беларускага народа, яго правы былі брутальна растаптаны, — *"Адна часць Варшаве / Лізаць ногі будзе, / Маскве хай другая / Нясе свае грудзі"*;

- за стол перагавораў — ні ў Рызе, ні раней — беларускія дэлегацыі (ні ад БНР, ні ад Савецкай Беларусі) не былі дапушчаныя, — *"Забыліся толькі, / Хаўруснікі ночы, / Спытаць беларуса, / Чым сам ён быць хоча?"*

Такім чынам, пасіянарная прарочасць Янкі Купалы адносна хуткага падзелу яго роднай краіны паміж адвечнымі сапернікамі праявілася яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны, а праз некалькі гадоў пачала пацвярджацца.

# «Па самым краі бездані…» Пра Германа Гесэ і адзін пераклад Янкі Купалы

Ева ЛЯВОНАВА

**2 ліпеня гэтага года, за пяць дзён да 130-гадовага юбілею Янкі Купалы, сусветная грамадскасць адзначыла 135-годдзе з дня нараджэння славутага нямецка-швейцарскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі (1946) Германа Гесэ (Hermann Hesse, 1877 — 1962).**

Г. Гесэ нарадзіўся ў маленькім швабскім гарадку Кальве ў сям'і пратэстанцкіх місіянераў, якія доўгі час служылі ў Індыі; найперш менавіта яны паўплывалі на будучую глыбокую цікавасць сына да культуры і філасофіі Усходу. Адносіны з сям'ёй былі, аднак, складанымі — Гесэ змалку не трываў ніякага духоўнага паняволення, нават калі яно ішло ад самых блізкіх людзей. Па гэтай жа прычыне ён пакінуў семінарыю, ледзьве распачаўшы ў ёй вучобу, і адукаваўся, па сутнасці, самавукам, праз усёпаглынальнае чытанне, стаўшы ўрэшце непараўнальным знаўцам нямецкай і сусветнай літаратуры і філасофіі. Зарабляў Гесэ механікам на гадзіннікавай фабрыцы, працаваў у кнігагандлі, пакуль не здзейсніў сваю мару — атрымаў прызнанне як пісьменнік і змог цалкам прысвяціць сябе літаратуры.

З 1912 г. краінай жыхарства і, па сутнасці, другой радзімай Гесэ стала Швейцарыя. Надзвычай узрушыла пісьменніка Першая сусветная вайна: "…прыйшло векапомнае лета 1914 года, і вокамгненна ўсё перамянілася ўва мне і вакол мяне… — скажа ён пазней у сваім "Кароткім жыццяпісе". — Паміж рэчаіснасцю і тым, што здавалася мне жаданым, разумным і добрым, утваралася безнадзейнае прадонне". З гэтага часу цягам дзесяцігоддзяў словы "прадонне", "бездань" будуць спрэс сустракацца ў поўных роспачы лістах, артыкулах, мастацкіх творах Гесэ. З-за антымілітарысцкай скіраванасці яго публікацый нямецкі друк распачаў нечуванае цкаванне пісьменніка, яго называлі "вырадкам", "здраднікам", "апаганшчыкам айчынных святыняў". Нават многія старыя сябры палічылі за лепшае для сябе разарваць з ім усякія сувязі.

Не дадавалі аптымізму і асабістыя драмы — псіхічная хвароба жонкі Марыі Бярнулі, распад сям'і, уласныя праблемы са здароўем. Невыпадкова падрыхтаваную ў той час кнігу эсэ Гесэ назаве "Зазіраючы ў хаос" (1920). Зусім непрацяглым (распадзецца літаральна праз некалькі тыдняў) будзе і другі яго шлюб — са швейцарскай спявачкай Рут Венгер, з якой ён пабраўся ў 1924 г. Выдадзеная тады ж яго кніга паэзіі зноў займее красамоўную назву — "Крызіс. Вынятка з дзённіка Германа Гесэ".

Пачынаючы ажно з 1916 — 1917 гг., Гесэ неаднойчы апынецца на мяжы самагубства, ад якога яго выратоўваюць толькі працяглыя псіхааналітычныя сеансы; у гэтым сэнсе пісьменнік найперш быў абавязаны вядомаму цюрыхскаму ўрачу І. Лангу, вучню К. Юнга (асабіста з аўтарам канцэпцыі "глыбіннай псіхалогіі", якая надзвычай паўплывала на жыццё і творчасць Гесэ, ён пазнаёміўся ў 1921 г.).

Па заканчэнні Першай сусветнай змрочныя думкі не пакідаюць пісьменніка — ён прадчувае новыя жудасныя выпрабаванні для чалавецтва, нездарма яшчэ пры жыцці на Гесэ глядзелі як на празорцу. У 1919 г. у эсэ "Дастаеўскі" ён піша: "Ужо палова Еўропы… абрынаецца ў хаос, у свяшчэнным вар'яцтве імчыцца па самым краі бездані". Заставацца абыякавым да падзей у перадфашысцкай Германіі ён не мог: у 1923 г. Гесэ адмовіўся ад германскага грамадзянства, і на радзіме ўсчалася новая хваля раз'юшаных нападак і псіхалагічнага ціску на пісьменніка, якая будзе доўжыцца да канца Другой сусветнай вайны. Нават у благаслаўлёнай нейтральнай Швейцарыі, паводле ўласных прызнанняў Гесэ, яго падазравалі як былыя суайчыннікі, так і іх праціўнікі, яго высочвалі і падслухоўвалі. Тым часам у канцлагеры загінулі сваякі яго жонкі, трагічна абарвалася жыццё брата.

Такім быў гістарычны і прыватна-жыццёвы фон, на якім паўставалі шэдэўры Гесэ — паэма ў прозе "Сідхартха" (1922), раманы "Стэпавы воўк" (1927) і "Гульня шкляных перлаў" (1943), а таксама такія яго значныя творы, як раман "Дэміян", аповесці "Кляйн і Вагнер", "Апошняе лета Клінгзара" (усе — 1919), "Нарцыс і Гольдмунд" (1930), "Паломніцтва ў краіну Усходу" (1932) і інш.

> *У Янкі Купалы інтэрпрэтацыйны пачатак мінімізаваны, што можна, бадай, патлумачыць не толькі і не столькі свядомым імкненнем беларускага паэта захаваць па магчымасці аб'ём, змест і стылістыку верша, ашчаджаючы яго "ўнутранае жыццё", колькі блізкасцю светаўспрыманняў творцаў, іх аднолькавым стаўленнем да гістарычных катаклізмаў.*

Адзін з пачынальнікаў "інтэлектуальнага рамана" (Т. Ман), Гесэ надзвычай паўплываў на паглыбленне душэўна-духоўнага патэнцыялу літаратурнага героя, уклаўшы ў гэты патэнцыял і асабіста перажытае, выпакутаванае. Свае творы ён невыпадкова называў "біяграфіямі душы"; менавіта душа ёсць эпіцэнтрам падзей, у яе выявах мадэлюе пісьменнік маральна-філасофска-псіхалагічныя рэакцыі творчай (у шырокім сэнсе) асобы на адзін з самых складаных перыядаў і ў культурным, і ў палітычным жыцці грамадства, перыяд краху спрадвечных каштоўнасцей і пошуку "новага гуманізму" — першую палову XX стагоддзя з усімі нечуванымі катаклізмамі гэтага часу.

Герман Гесэ дастаткова добра вядомы ў Беларусі. Яго творчасць вывучаецца не толькі германістамі, але і студэнтамі аддзяленняў беларускай, рускай, славянскай філалогіі; яна прааналізаваная ў вучэбным дапаможніку І. Шаблоўскай "Зарубежная литература XX века (вторая половина)" (1998), у кнізе нарысаў Л. Баршчэўскага, П. Васючэнкі і М. Тычыны "Беларуская літаратура і свет" (2006). Аўтар гэтых радкоў неаднойчы пісала пра Гесэ ў беларускім друку і прысвяціла яму асобны раздзел кнігі "Немецкая литература XX века: Германия. Австрия" (Москва, 2010). Маладая гродзенская даследчыца В. Залатухіна абараніла дысертацыю "Эвалюцыя псіхалагізму Германа Гесэ" (2005).

Айчынныя перакладчыкі перастварылі па-беларуску самыя вядомыя творы Гесэ: В. Сёмуха — раманы "Гульня шкляных перлаў" і "Стэпавы воўк" (у 1992 і 2011 гг. адпаведна), А. Арашонак — паэму ў прозе "Сідхартха" (у 2007 г.). Апрача таго, В. Сёмуха пераклаў апавяданне "Воўк" і казку "Паэт" (у 1995 г.), Масей Сяднёў — шэраг эсэ ("Масеева кніга". Мінск, 1994). Асобныя вершы Гесэ, у тым ліку некаторыя паэтычныя ўключэнні з рамана "Гульня шкляных перлаў", па-майстэрску перастварыў перакладчык і цудоўны знаўца нямецкай літаратуры У. Папковіч (апублікаваныя ў яго кнізе "На тым стаю" / "Hier stehe ich"; Віцебск, 2004). Артыкул пра Гесэ змешчаны ў 5-м томе 18-томнай Беларускай энцыклапедыі. У №3 за 1995 г. буйным планам паказаў майстра слова часопіс "Крыніца".

Характэрная дэталь: некаторыя беларускія пісьменнікі прызнаюцца, што менавіта праз творчасць Гесэ яны пачыналі лепей усведамляць сваё, нацыянальнае, глыбей асэнсоўваць сябе і рэчаіснасць.

Важкія словы пра Гесэ пакінуў Янка Брыль: "Сапраўдны, а тут можна сказаць і вялікі, пісьменнік мала, а то і вельмі мала цікавіцца тым, цяжка ён чытаецца ці не цяжка, піша сваё, як хоча, і застаецца самім сабою… Сіла прастаты і мудрасці" ("Чытаю, слухаю, гляджу", ЛіМ, 28.01.1994). Прадказальніцкі дар Гесэ згадваў П. Васючэнка ("Ад тэксту да хранатопа". Мінск, 2009). "Выключную значнасць Гесэ для літаратуры і гуманістычнага мыслення XX стагоддзя" адзначаў Ю. Залоска, акцэнтуючы неабходнасць звароту да яго спадчыны "кожнага творчага чалавека"; сярод "беларускіх прадаўжальнікаў справы Гесэ" Ю. Залоска вылучыў У. Караткевіча з яго "Чазеніяй" (Крыніца. 1995, № 3).

Не абмінуў увагай творчасць Гесэ і Янка Купала. Нават са сказанага тут бачна, што ў іх лёсах шмат агульнага; абодвум давялося прайсці, кажучы цытаванымі вышэй словамі Гесэ, "па самым краі бездані". Нямала паміж імі і судакрананняў праблемна-тэматычнага і эстэтычнага кшталту, аргументаваць якія не дазваляе аб'ём артыкула. Спынімся толькі на адной праяве цікавасці беларускага паэта да нямецка-швейцарскага творцы — Купалавым перакладзе вядомага верша Гесэ "Im Nebel" (1905), у якім мастацкае адлюстраванне індывідуальнага крызісу шматкроць ускладнена трагічным ўсёчалавечым досведам.

***У мгле (Адзінота)***

*Маркотна хаджу па зямлі ў тумане.*
*Расліны й каменні так смутна далёкі,*
*І дрэвы не бачаць друг дружкі ў імгле,*
*І ўсе адзінокі.*

*Калісьці шмат другаў, шмат другаў я меў.*
*П'янеў я ад сонца ясноты гарачай,*
*Сягоння скрозь ночак асенніх туман*
*Другаў не бачу.*

*Хоць раз хто спаткаўся ў жыцці з цемнатой,*
*Папраўдзе той мудр, той ведаў, той знае,*
*Як цемра ад свету бязмежнай сцяной*
*Яго аддзяляе.*

*Маркотна хаджу я у мгле, ў тумане.*
*Ўсе людзі так дзіўна маркотна далёкі,*
*Не знае друг дружкі ніводзін нідзе,*
*І ўсе адзінокі.*

Дакладна невядома, калі Янка Купала пераклаў верш, але ў 1923 г. твор быў пакладзены на музыку Якавам Прохаравым, а ў 1925 г. выйшаў асобным выданнем ("У мгле". Беларускі раманс для аднаго голаса з акампанементам фартэпіяна. Музыка Я. Прохарава). Паводле вядомага даследчыка беларуска-нямецкіх літаратурных сувязей У. Сакалоўскага, найбольш верагодныя часавыя межы Купалавага перакладу — 1915 — 1919 гг., хаця, думаецца, іх можна пасунуць да 1912 г. Падаецца невыпадковым бясспрэчнае тыпалагічнае падабенства ўласных вершаў Купалы не толькі перыяду, але і пярэдадня Першай сусветнай вайны з праблематыкай і паэтыкай верша Гесэ. Ва ўсякім разе, вобразы-матывы "туману" (нямецк. Nebel перакладаецца і як "імгла", і як "туман", "смуга"), "ночы", "цьмы", "чорнай імшы" скрозь прысутнічаюць у мастацкай сістэме Янкі Купалы ("Новы год", 1912; цыкл "Песні вайны", 1914; "1914-ты", 1914, і інш.).

> *Адзін з пачынальнікаў "інтэлектуальнага рамана", Гесэ надзвычай паўплываў на паглыбленне душэўна-духоўнага патэнцыялу літаратурнага героя, уклаўшы ў гэты патэнцыял і асабіста перажытае, выпакутаванае.*

Верш — як у арыгінале, так і ў Купалавым перакладзе — уражвае незвычайнай настраёвай цэласнасцю, вобразна-кампазіцыйнай завершанасцю, філасофскай супакладзенасцю індывідуальнай адасобленасці лірычнага героя ад свету з усеагульнай, экзістэнцыяльнай размежаванасцю ўсяго і ўсіх. У абодвух выпадках гэты стан увасоблены ў развіцці-нарастанні — ад адчужанасці ў прыродзе да адчужанасці людзей, ад адзіноты "маёй" праз адзіноту тых, хто "цемру зведаў", да адзіноты ўсіх.

Агульнавядома: кожны пераклад ёсць інтэрпрэтацыя. У Янкі Купалы інтэрпрэтацыйны пачатак мінімізаваны, што можна, бадай, патлумачыць не толькі і не столькі свядомым імкненнем беларускага паэта захаваць па магчымасці аб'ём, змест і стылістыку верша, ашчаджаючы яго "ўнутранае жыццё" (В. Бялінскі), колькі блізкасцю светаўспрымання творцаў, іх аднолькавым стаўленнем да гістарычных катаклізмаў, у вір-віхуру якіх былі ўцягнутыя нямецкі і беларускі народы, пераzовамі пакутных роздумаў двух мастакоў слова над лёсамі сваімі і агульначалавечымі, над духам часу. У гэтым сэнсе паэты паўстаюць як суразмоўцы і аднадумцы.

Беларускі паэт надзвычай далікатна аранжыраваў-інструментаваў нямецкі верш. У Гесэ твор напоўнены рознага роду сугуччамі; яго канцавыя рыфмы заўсёды строгія (wandern — andern, Stein — allein і г.д.), больш за тое, суправаджаюцца не вельмі звыклымі для нас пачатковымі рыфмамі (Seltsam — einsam) і рыфмамі ўнутры верша (Stein — kein, Leben — Nebel; апошняя цікавая яшчэ і тым, што яе сугучныя — ключавыя ў радку ды і ў вершы наогул — словы-складнікі ўтвараюць паліндром). Янка Купала нібы разнявольвае верш, не заўсёды прытрымліваецца строгай рыфмы (тума́не — імглé, тума́не — нідзé), часам абыходзіцца без яе (меў — туман). Як у арыгінале, так і ў перакладзе, шмат прыватных гукавых паўтораў (алітэрацыі, асананс), што ўзмацняе меладычнасць твора (нездарма пераклад прыцягнуў увагу кампазітара). У абодвух тэкстах элементы асацыятыўнага ланцуга "маркота — туман — імгла — цемната / цемра — адзінота" паасобку і ў сукупнасці сваёй успрымаюцца як парадыгма існавання чалавека і чалавецтва ў трагічных абставінах.

Пераклад адметны большай экспрэсіўнасцю і сэнсавай ушчыльненасцю, што дасягнута рознымі спосабамі. Так, слова-дамінанта "маркотна", якое першую страфу толькі распачынае, у апошняй страфе гучыць у двух першых радках запар, прычым у другім радку зближаецца-сумяшчаецца са словам "далёкі" (у дадзеным выпадку, па сутнасці, сінанімічным словам "чужы", "адзінокі"). Апроч таго, у Купалавым перакладзе шмат рэфрэнаў; першая і апошняя строфы звернутыя адна да адной і ў нямецкага, і ў беларускага паэтаў, што мае вынікам замыканне топасу верша на матыве ўсеагульнай адзіноты, затое ў Янкі Купалы сустракаюцца і дакладныя вербальныя паўторы ("шмат другаў, шмат другаў"), і не менш дакладныя сэнсавыя ("той мудр, той ведаў, той знае"), і гэта стварае ўражанне гранічна напружаных перажыванняў лірычнага героя. Купалаў пераклад адметны і тым, што ў канстатацыю ўсёчалавечай адасобленасці (у Гесэ злёгку абстрагавана-статычную) прыўнесена шчымлівае, балюча-інтымнае гучанне (не ў апошнюю чаргу абумоўленае выкарыстаннем памяншальных слоў — "дру́жкі", "ночак").

Відавочна, у еўрапейскай культурнай прасторы адбылася сустрэча вялікіх асоб, чый геній і ў жыцці, і ў творчасці быў звернуты да ўсясветных праблем, але адначасова кранаў і кранае пачуцці і свядомасць кожнага канкрэтнага чытача.

# Наша прасветленасць...

**Напярэдадні 130-гадовага юбілею Янкі Купалы рэдакцыйная пошта з розных куткоў рэспублікі прынесла шмат вершаў-прысвячэнняў нацыянальнаму паэту-прароку. Чытачы “ЛіМа”, вядомыя і зусім незнаёмыя прыхільнікі неўміручага таленту Песняра, выказваюць вялікую любоў і пашану, славяць генія Беларусі, які праведным матчыным словам аднолькава ў лірыцы і драматургіі дасягнуў міжнароднага прызнання, заняў “свой пачэсны пасад” у аналах сусветнай культуры.**

### Галіна ЗАГУРСКАЯ

### Янка Купала

*Сын Беларусі — наш Янка Купала.*
*Лета яго ў росах зорных купала,*
*Каб, нарадзіўшыся ў дзень светлы Яна,*
*Роднай зямлі паслужыў ён аддана.*

*Сімвал сумлення — наш Янка Купала,*
*Мройна зямля песняра гадавала,*
*Каб ён узрос і, набраўшыся моцы,*
*Моваю нашай спяваў па-прарочы.*

*Сонца і месяц нам Янка Купала:*
*Ён клапаціўся, каб нацыя ўстала,*
*Каб адбылося яе адраджэнне —*
*Бачыў у гэтым сваё прызначэнне.*

*Наша прасветленасць — Янка Купала:*
*Песня яго ўсенароднаю стала —*
*Натхняць Беларусь не перастала*
*Песня, якую спявае Купала.*

### Алесь ГОЦКА

### Іду на Парнас

Мне засталася спадчына…
***Я. Купала***

*Іду на Парнас. Пад нагамі стамлёнымі*
*Ў разбежцы зямля, дзе вароны*
*на свежай раллі…*
*А вочы ў чаканні на неба ўтрапёныя,*
*Пакінуўшы дома турботы зялёныя,*
*Шукаюць на небе, што тут,*
*на зямлі, не знайшлі.*

*Іду на Парнас я парою адвечнаю*
*Крыху са спазненнем*
*(я ведаю гэта і сам)*
*Не на пераклічку ці сходку вячэрнюю,*
*А на справаздачу, на споведзь*
*сардэчную*
*Іду да прарокаў сваіх на Парнас,*
*як у храм.*

*Я з вамі, я з вамі, асілкі тутэйшыя,*
*Ды толькі ў памкненнях*
*сваіх я далёкі ад вас.*
*Хадзем жа ўсе разам і вы, маладзейшыя,*
*Да нашай гары, як у Мекку святэйшую,*
*Да нашых прарокаў,*
*на наш беларускі Парнас.*

*Жывых там убачым Купалу і Коласа.*
*Купала здалёку спытае: “А хто там ідзе?”*
*Максім Багдановіч спагадліва-хораша*
*Ля брамы сустрэне і з радасцю ў голасе*
*У “Дом беларусаў”,*
*як родных сваіх, прывядзе.*

*Прадбачу я слёзы ў вачах Багушэвіча:*
*“Не ўмёрлі, не ўмёрлі, шчэ ёсць беларусы,*
*жывуць!”*
*А Быкаў, убачыўшы нас, з Караткевічам*
*Запросяць за стол і спакойна і велічна*
*З Купалам і Коласам гутарку з намі*
*пачнуць…*

*Іду па праспектах і ўквечаных вуліцах*
*Да роднае вёскі, жытнёвага мора палёў,*
*Якое чамусьці ўсё болей хвалюецца,*
*Як колас да коласа блізіцца, туліцца,*
*Хаваючы ўсмешку нябесную — сінь*
*васількоў.*

*Іду на Парнас. Пад нагамі стамлёнымі*
*Ў разбежцы зямля, дзе вароны на светлай*
*раллі…*
*А вочы з надзеяй на неба ўтрапёныя,*
*Пакінуўшы дома турботы зялёныя,*
*Шукаюць адказу, што тут, на зямлі,*
*не знайшлі…*

### Браніслаў ЕРМАШКЕВІЧ

### Да Янкі Купалы

*Лічу за вялікае шчасце пражыць*
*Свой век на зямлі, дзе ступала*
*Нага песняра, каб айчыне служыць,*
*Дзе песня яго не змаўкала.*

*Мінулага часу агораны клёк.*
*Напружыў я ў ліпені памяць,*
*Як вобраз Купалы з’явіўся здалёк*
*У юную чырвані замець.*

*Я марыў у небе блакітным лятаць,*
*На памяць знаў “Хлопчык і лётчык”,*
*Любіў адвячоркам Купалу чытаць*
*Пад вогненны стрэл вугалёчка.*

*Зрок Вязынка песціць. Акопы. Ляўкі.*
*Чырвоныя гронкі рабіны.*
*Дарогу мне кажа прамень трапяткі*
*Туды, дзе пачатак Краіны.*

*Тройца ў бары, у ракіце,*
*І над фантанам Купальскіх крыніц.*
*Празрыстыя кроплі спатольваюць лісце,*
*Брыльянтамі ўспыхваюць,*
*падаюць ніц…*

*Праменнай каметай у вышы нябёсаў*
*Купалавай песні-малітвы радок…*
*Люструюцца словы ў лускаўках плёсаў:*
*Тут матчынай мовы жывільны выток, —*

*Дзе Нёмана воды, Дняпра, Нарачанкі,*
*Дзе сцішана Свіслач цячэ праз вякі.*
*Ў купальскую ноч па вянках гараджанкі*
*Варожаць на суджаных блізу ракі.*

*На Сёмуху ў горадзе светла ад веры*
*Ў адвечную сілу зямнога быцця,*
*Што ўсцелюць пялёсткі ў Купалавым*
*скверы*
*У ліпеньскі вечар прадоння прасцяг.*



**У Вязынцы. Фота з сайта kupala-museum.by**

* * *

*Прыгадаў: на Купальскае свята,*
*Як да папараць-кветкі, нясло.*
*Адно думкай натхнёнай зацяты,*
*Паламаў той надзеі вясло.*

*Марыў, ведама, яснаю ночкай*
*Я на папараць-кветку зірнуць,*
*Толькі шчыра кажу вам, браточкі,*
*Пра яе мне пашчасціла чуць.*

*А пабачыць, дык, мабыць, ніколі*
*На жыццёвым шляху не змагу,*
*Бо не хопіць ні сілы, ні волі,*
*Дый не тую я маю вагу…*

*Не слязу, бяру зорачку ў сведкі,*
*Ды яшчэ певуна на сяле,*
*Што Купальскаю ночкаю кветка*
*Не стаяла на ўласным стале.*

*Сваю мару-надзею, дый годзе,*
*Мо да ладу калі давяду.*
*Не цяпер, дык у будучым годзе*
*Зноў па папараць-кветку пайду.*

### Ірына ТУЛУПАВА

### У скверы Янкі Купалы

*Зіхоткія клёнаў шаты,*
*Акацыі гронкі… А пахне — аер.*
*Сёмуха каля хаты,*
*Што атуляе Купалаўскі сквер.*

*Пакуль жа, вітаючы цёплае Сонца,*
*У хаце паэта, абапал яе —*
*Гаркотай салодка-духмянай на Тройцу*
*Над Свіслаччу стомлены пахне аер.*

### Вольга НОРЫНА

### Кніга Янкі Купалы 1952 года выдання

У нашай дамашняй бібліятэцы ўсе гэтыя гады захоўваецца кніга, якую маці атрымала ў падарунак ад аднакурснікаў у 1954-м.

*У чорнай вокладцы-уборы,*
*Груваткі, з залатым шрыфтом.*
*Купала. “Выбраныя творы”.*
*Стаіць у кніжнай шафе том.*

*На пажаўцелае старонцы —*
*“Да дня народзін ад сяброў…”*
*Далёкі пяцьдзясят чацвёрты…*
*І прыгадае маці зноў:*

*Навокал гімнам: “Правадыр наш!”*
*Ды маці помніла штодня,*
*Як апынулася ў Сібіры*
*Сяброўкі Манечкі радня.*

*Яна, зацятая, маўчала,*
*Калі па Сталіне раўлі:*
*З бацькой у вёсцы спаганялі*
*Пот за пустыя працадні.*

*І вершы, дзе апеты Сталін*
*(Мне патлумачыла: прымус),*
*Мы з ёй ніколі не чыталі,*
*Паклаўшы кнігу на абрус.*

*Я ў рукі том вазьму, і хвалі*
*У ім адчую тых часін,*
*Калі ўначы людзей хапалі,*
*Паклёпнічаў на бацьку сын.*

*У ланцугі бяды закуты*
*Ў пякельнай стоме назаўжды —*
*Якія выпалі пакуты*
*Паэту ў чорныя гады!*

*Ён не пісаць не мог аб здрадзе:*
*Прадбачыў, зразумелі вы,*
*Што крывавжэрнае уладзе*
*Ён не патрэбны быў жывы.*

*Ў архіў — жыццё. Адліты ў бронзе.*
*І кнігі — з залатым шрыфтом.*
*У чорнай вокладцы-уборы*
*Стаіць у кніжнай шафе том.*

*Ды толькі праз спакой часовы*
*І праз гады, што ўдаль сплылі,*
*Імкліва прарастае слова*
*Магутным парасткам з зямлі.*

### Іна ФРАЛОВА

### Мінулых вякоў вартавы

*Векапомны стаіць дуб —*
*Трох мінулых вякоў вартавы.*
*Ці ад жорсткіх збялеў згуб,*
*Ці ён стаў ад туманаў сівы?!*

*Голлем, як каранямі, урос*
*У смугою спавіты блакіт.*
*Даў жа волату Бог лёс —*
*За плячамі трымаць нябыт.*

*Колькі бачыў за век дуб,*
*Колькі песень пачуў ад людзей?!*
*Ад тых песень мацнеў дух*
*Ды ірвалася сэрца з грудзей.*

*І таму ён сталеў і дужэў,*
*Набіраў каранямі моц.*
*Нёс да Бога паэтаў спеў*
*Аб зямлі, дзе шарэла ноч.*

*Абяздолены, змучаны край*
*Абуджаў ад зімовага сну,*
*Апяваў, няйначай, як рай,*
*Як жаданую сэрцам вясну.*

*Як вясновага ветру парыў,*
*Святаянаўскіх росаў глыток*
*Для ссівелага дуба быў*
*Жыватворным Купалы радок.*

### Яўген КАРПУЦЬ

### Агністае слова паэта

*Свой гімн падарыў Беларусі*
*Любімы паэт наш Купала.*
*Хоць доля маячыла ў скрусе —*
*Душа яго гучна спявала.*
*“Курган”, “Над ракою Арэсай”,*
*“Мужык”, “Прымакі” ды “Калека”…*
*Праз мройлівасць вершаў і п’есаў*
*Мы бачым жыццё чалавека.*
*Паэт сваім словам агністым*
*Вучыў — як за праўду змагацца.*
*Народ Беларусі квяцістай*
*Павінен заўжды людзьмі звацца!*

### Зміцрок МАРОЗАЎ

### Янка Купала

*Купала — сонца Беларусі,*
*Якое век не патушыць.*
*Яму я раніцай малюся,*
*Каб светла дзень жыцця пражыць.*

Кніжны свет

6 ліпеня 2012 г.

# Юбілейны падарунак

**З галоўным рэдактарам выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктарам Шніпам мы сустрэліся напярэдадні юбілею Янкі Купалы. Віктар Анатольевіч толькі што атрымаў каляровую раздрукоўку новай кнігі, прысвечанай паэту.**

Вольга НОРЫНА

**— Раскажыце, калі ласка, як сустракаеце Год Купалы?**

— Год для нас сапраўды ўрачысты. Але хачу адзначыць, што ў нас кожны год выходзяць творы і Купалы, і Коласа, бо яны насамрэч запатрабаваны. Да юбілею мы пачалі рыхтавацца загадзя — яшчэ ў 2009-м выдалі кнігу У. Ліпскага “Янкаў вянок”. У серыі “Школьная бібліятэка” нядаўна выйшла “Роднае слова” тыражом 18 619 экзэмпляраў. На XII Нацыянальным фестывалі песні і паэзіі ў Маладзечне прэзентавалі сумесны праект выдавецтва “Мастацкая літаратура” і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — факсімільнае выданне кнігі “Шляхам жыцця”, што ўпершыню ўбачыла свет у 1913 годзе.




*Вокладка кнігі.*

**— А чаму выбралі менавіта гэта выданне?**

— Першыя кніжкі Купалы ўжо ёсць у такім выглядзе, гэтай яшчэ не было. Праз год выданне будзе святкаваць стагадовы юбілей.

Я думаю, усе кніжкі Янкі Купалы вартыя таго, каб мы выдалі іх у факсімільным выглядзе. Каб нашы чытачы, неабыякавыя да беларускай літаратуры, убачылі, як яны выглядалі. Канечне, выходзяць шматлікія зборы твораў, але цікава паглядзець, якімі бачылі свае творы сам аўтар і яго сучаснікі, прааналізаваць, як творы змяняліся: Купала пры жыцці ў іх нешта мяняў, выпраўляў, выкідаў. І тым, хто цікавіцца такімі зменамі, безумоўна, будзе цікава — ці сам Купала выкрэсліў, ці яму выкрэслілі рэдактары, цэнзура, знайсці варыянты вершаў ці магчымыя памылкі друку. Думаю, гэта выданне — пачатак серыі праектаў.

**— Кніга, макет якой у вас на стале сёння…**

— Гэта самы галоўны наш выдавецкі падарунак да юбілею Купалы — выданне з серыі “Жыццё знакамітых людзей Беларусі” пад назвай “Янка Купала. Мне сняцца сны аб Беларусі”.

Тыраж — дзве тысячы экзэмпляраў. Планавалася паўтары, але калі ў мінулым годзе ў серыі ЖЗЛБ выйшла кніжка пра Максіма Багдановіча, месяца не прайшло, а аўтары, матэрыялы якіх там былі надрукаваны, хто не набыў адразу, ужо не знайшлі выдання на палічках кнігарань.

У кнізе — тры каляровыя ўклейкі. Упершыню друкуецца герб роду Луцэвічаў.

**— Ці атрымалі дзяржаўную падтрымку на выданне?**

— Без дзяржаўных датацый такія кніжкі ў нас не выходзяць: дзяржава клапоціцца, каб кожны жадаючы мог іх набыць. Рыхтуецца кніга пра Якуба Коласа, яна таксама абяцае быць па аб’ёме не меншай. Хочам зрабіць так, каб тым, хто задумае нешта падобнае рабіць пасля нас, было цяжкавата. Але няхай яны знойдуць што-небудзь, што, магчыма, не заўважылі мы.

Кніга атрымалася нечакана для нас вельмі вялікая па аб’ёме. Планавалася спачатку трыццаць выдавецкіх аркушаў, у працэсе работы над ёй лічба мянялася: 35, потым 37. А калі надышоў час здаваць у друкарню, атрымалася 49. І гэта не ўсё, што магло сюды ўвайсці!

**— А што ж засталося па-за вокладкай?**

— Засталося багата ўспамінаў пра знакавую для Беларусі асобу. Над гэтай кнігай працавала Галіна Шаблінская. У яе ўкладанні падобная кніга была пра Уладзіміра Караткевіча “Быў. Ёсць. Буду”. На жаль, у тое выданне таксама не ўсё ўвайшло. Кнігі не бязмерныя, павінны адпавядаць пэўнаму аб’ёму. Мы пайшлі насустрач нашаму ўкладальніку, якая столькі гадоў працавала над выданнем.

Гэта кніжка — пра Купалу, а не Купалавы творы. Чым больш мы звяртаемся да згадак пра яго, тым больш дэталёвай атрымліваецца яго біяграфія. Напрыклад, пра адну і тую ж сустрэчу кожны з яе ўдзельнікаў прыгадвае нешта сваё. Сітуацыя аналізуецца з розных бакоў, набывае іншыя адценні.

З успамінаў паўстае атмасфера часу. 1930-я — вельмі складаны перыяд, мы ведаем гэта з гісторыі. Нехта пазбягаў тады ўспамінаў, нехта, наадварот, пакідаў свае пачуцці на паперы. На маю думку, калі ўважліва прачытаць нашу кнігу ад пачатку да канца, можна



*Герб роду Луцэвічаў (з кнігі “Янка Купала. Мне сняцца сны аб Беларусі”).*

прыйсці да разгадкі таямніцы смерці, якая вырвала паэта з культурнага жыцця краіны ў 1942 годзе. Можна адчуць, здагадацца, што выспявала.

Кніга атрымалася цікавая і тым, што ў яе ўвайшлі ўспаміны, напісаныя тымі, хто ведаў Купалу, сябраваў з ім, і нават тымі, хто зайздросціў, а магчыма, не вельмі любіў. І ў гэтых тэкстах адносіны прасочваюцца. Мы дакладна можам уявіць, як класік працаваў, як ставіліся да яго і яго твораў сучаснікі.

**— Ці знайшлося што-небудзь, што асабліва вас уразіла?**

— Думаю, кніга для многіх стане адкрыццём. У яе ўвайшлі сведчанні эпохі — каля сотні аўтараў. Многіх ужо няма — а пра іх таксама можна выдаваць успаміны, гэта вартыя людзі.

Адкрыццём стала шмат здымкаў, матэрыялаў, якія дагэтуль былі невядомыя, рукапісы захаваліся толькі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Купалы. Можна толькі здагадвацца, чаму яны не друкаваліся.

Спадзяёмся, што першая прэзентацыя адбудзецца на святкаванні ў Вязынцы.

## У падтрымку чытання

**Юрась Нераток, пісьменнік:**

# “Пакуль не прачытанае” на паліцу не ставіцца

— Сімвалы літар, складзеныя ў тэкст, насычаюць мозг, даюць роздум душы, нараджаюць асацыяцыі і дораць яскравыя малюнкі, што дапаўняюць жыццё і зніжаюць уплыў непазбежнай мітусні. Таму пры пэўнай долі дасціпнасці з карысцю можна чытаць і тэлефонны даведнік, і расклад руху электрычак, і прагноз надвор’я, і гараскопы, і этыкеткі тавараў або чэкі. У любым жарце ёсць доля не толькі жарту, таму “праграмнага” чытання не маю: вось гэта абавязкова, тое — як-небудзь, а астатняе — зусім не вартае ўвагі. Любая праява жыцця — аспект цывілізацыі, якая дае форму быцця. Не ідэальнай, аднак цікавай і разнастайнай цывілізацыі, што ўспыхнула сярод Сусвету рознакаляровай зоркай тутэйшага маштабу. Таму нават з раскручанымі жаночымі раманамі знаёміцца не саромеюся. Апошняе, што прачытаў — часопіс “Плэйбой” у гасцініцы Гродна: цікавыя звесткі нязмушанай мовай пра цара Пятра Першага і шчырае інтэрв’ю з расійскім акцёрам Дзмітрыем Дзюжавым. Цяпер чытаю кнігу “Белая жанчына” Дзмітрыя Пятровіча.

За год чытаю прыблізна 200-300 аўтарскіх аркушаў мастацкіх тэкстаў апроч перыёдыкі, рукапісаў, матэрыялаў для ўласнай прозы.

Памятаю, як мяне, шасцігадовага, апранутага ў сандалікі на босую нагу, завялі ў сельскую бібліятэку вёскі Хадакі, куды мае бацькі-настаўнікі толькі пераехалі, і пазнаёмілі з бібліятэкаркай, цёткай Жэняй. Як дзіцяці філолагаў кніга мне была наканавана. Фармуляры (бадай, першае ўсведамленне бюракратычнай існасці чалавека ў дзяржаве), лабірынты высачэзных паліц з кнігамі, падпарадкаванне парадзе вопытнай бібліятэкаркі, якая ведала, што даваць дзецям такога ўзросту. І праз дзесяць хвілін пасля выхаду з бібліятэкі зноў быў у ёй, бо было сказана: “Калі прачытаеш — прынясеш”. Гэтым разам далі трошкі большую кніжку і загадалі, каб прыходзіў хаця б назаўтра, а не адразу. Дацярпеў, хоць і не паспеў дайсці дадому, як “ляснула” і гэта кніжка.

Са школьнай праграмы, бадай, не прачытаў поўнасцю толькі “Войну и мир” — падсвядома адчуў, што ёсць небяспека ўплыву чалавека, які прэтэндуе на лаўры месіі. Таму чытаў па бацькавым канспекце: настаўнік вясковай школы да таго, калі амерыканцы дадумаліся караценька перадаваць змест аб’ёмных твораў масава, меў іх канспектыўны варыянт. Астатняе “прабівалася” за лета да пачатку навучальнага года, бо тады, у змрочны застой, падручнікі меліся ў кожнага класа кожны год — былі асабістымі, а не па-жабрацку перадаваліся з рук у рукі ды яшчэ праз “фармулярную” адказнасць.

Прыярытэт аддаю арыгінальным аўтарам, здольным стварыць з вядомага нязвыклую камбінацыю, змяніць ракурс. З цягам часу (наўмысна біяграфіі не вывучаю) пераконваюся, што гэта неардынарныя асобы і ў жыцці. Заўжды адчуваў і адчуваю серыю (прафесійнае эпігонства), калі творчасць падмяняецца майстравітасцю. Менавіта па той жа прычыне, што і Талстога, “недачытаў” Стывена Кінга. Адчуў серыяльнасць у Бальзаку, само сабой — у сямействе Дзюма. Флабэр уразіў і насцярожыў занадта беражлівым стаўленнем да слова і спробай падпарадкаваць сюжэт “усячасаваму” погляду: з такім падыходам і трох жыццяў на раман не хопіць. Быкава і Караткевіча разумею па выніках як інтэлектуальных і эвалюцыйных падзвіжнікаў літаратуры і ўяўляю кіслыя твары тагачасных рэдактараў пры разглядзе іх рукапісаў. Багдановіча цаню як маладзёна, які надзвычай эфектыўна і таленавіта выкарыстаў адведзены лёсам час. Трохі шкада яго ахвярніка бацькі Адама, які па пазіцыйным недаглядзе закрыты ценем сына.



Сямейная бібліятэка — з некалькіх тысяч кніг пры тым, што час ад часу адбываецца пэўная ратацыя. У сучасным беларускім літаратурным працэсе жыву амаль два дзесяцігоддзі, таму асобна ёсць некалькі соцень выданняў сучасных аўтараў, незалежна ад жанраў, мовы і “клянавай” прыналежнасці. Непрачытаных — няма, “пакуль не прачытанае” на паліцу не ставіцца.

Мікола БЕРЛЕЖ

# Прадвесне і вяртанне

*Семашкевіч, Р. М.*
*Янка Купала і беларускае адраджэнне / Рыгор Семашкевіч. — Маладзечна: Победа, 2012. — 200 с.; іл.*

Маладзечна становіцца выразным цэнтрам беларускай кніжнасці. І таму, што працягваюць выдавацца ў друкарні "Победа" падрыхтаваныя ў Мінску кнігі рэспубліканскіх выдавецтваў "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Мастацкая літаратура", "Беларусь", "Літаратура і Мастацтва" і інш. А яшчэ таму, што ў мясцовай раённай бібліятэцы імя М. Багдановіча працуе энтузіяст, вядомы ва ўсёй Беларусі бібліяфіл Міхась Казлоўскі. Ён невялікім тыражом выпускае гісторыка-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі альманах "Куфэрак Віленшчыны" (нядаўна ўбачыў свет 14-ы нумар). І час ад часу — кнігі пісьменнікаў, якія маюць дачыненне да Маладзечанскага, Віленскага краю. Апошні з праектаў М. Казлоўскага — зборнік артыкулаў Рыгора Семашкевіча "Янка Купала і беларускае адраджэнне" (тыраж — 500 экземпляраў).




Нагадаем пра саму асобу Рыгора Семашкевіча. Нарадзіўся ён 12 верасня 1945 года ў вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна. У 1961-м скончыў Лебедзеўскую сярэднюю школу. Затым — філалагічны факультэт БДУ (1966). Настаўнічаў. У 1970 — 1982 гадах працаваў выкладчыкам Белдзяржуніверсітэта. У друку пачаў выступаць з вершамі яшчэ вучнем 10 класа. Першыя публікацыі — у газетах "Голас Радзімы" і "Чырвоная змена". У 1961 — 1962 гг. друкуецца ў часопісах "Маладосць" і "Полымя". У 1970 годзе Рыгор Міхайлавіч абараніў кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную беларускаму літаратурна-грамадскаму руху ў Пецярбургу ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Р. Семашкевіч — аўтар кніг "Браніслаў Эпімах-Шыпіла" (1968), "Лесніčоўка" (1968), "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)" (1971), "Субота" (1973), "Бацька ў калаўроце" (1976), "Выпрабаванне любоўю" (1982), "Лічыла дні зязюля" (1987). На рускай мове пабачылі свет зборнік вершаў "Золото соломы" і кніга апавесцей "В круговерти дней". Абодва выданні — у Маскве. Творы Рыгора Семашкевіча акрамя рускай перакладзены на англійскую, венгерскую, літоўскую, нямецкую, польскую, узбекскую, украінскую, эстонскую мовы. Бліскучы пачатак!.. Невыпадковай падаецца назва артыкула Варлена Бечыка пра Рыгора Семашкевіча і яго паплечнікаў па творчай дарозе — "Набыццё вышыні". А памёр паэт, празаік, літаратуразнавец, перакладчык на 37-м годзе жыцця — 11 чэрвеня 1982 г.

Міхась Казлоўскі ўклаў зборнік "Янка Купала і беларускае адраджэнне" з дзвюх кніг Р. Семашкевіча: артыкулы, эсэ "Янка Купала і Эпімах-Шыпіла", "Не загаснуць зоркі ў небе… Янка Купала і «Наша ніва»", "Світка Буйніцкага", "Пераканаўчасць гістарызму" — са зборніка "Выпрабаванне любоўю: эсэ, артыкулы"; а таксама без скарачэнняў друкуецца "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)" па выданні 1971 года. Відавочна, што агульная назва зборніка цалкам лагічная. У цэнтры даследаванняў літаратуразнаўцы — Янка Купала, тое асяроддзе, што фарміравала асобу будучага класіка беларускай літаратуры ў віленскі і пецярбургскі перыяд жыцця. У прадмове "Чалавек прадвесня" М. Казлоўскі адзначае: "…уменне бачыць постаць разглядаемай асобы комплексна і маштабна, рэльефна і навукова абгрунтавана, здольнасць асэнсоўваць усе вядомыя факты з яго біяграфіі асабліва выразна Рыгор Семашкевіч прадэманстраваў у нарысе пра жыццё і дзейнасць Браніслава Эпімах-Шыпілы, які выйшаў у выглядзе кнігі ў 1968 годзе. Потым малады вучоны яшчэ раз вернецца да асобы гэтага неардынарнага чалавека, калі ў кнізе "Выпрабаванне любоўю…" змесціць эсэ "Янка Купала і Эпімах-Шыпіла". Даследаванні пра "сэрца Беларусі" (так сучаснікі вобразна называлі Б. Эпімах-Шыпілу) былі настолькі ўнікальнымі, наватарскімі, што на многія дзесяцігоддзі апярэджвалі свой час. Тое самае можна сказаць і пра працу Рыгора Семашкевіча "Не загаснуць зоркі ў небе… Янка Купала і «Наша ніва»", дзе на аснове невядомых да гэтага архіўных матэрыялаў устанаўліваюцца новыя альбо ўдакладняюцца вядомыя факты з жыцця знанага паэта… Ды і ўвогуле, як цяпер бачна, даследчыкі такога тыпу, як Рыгор Семашкевіч разам са сваімі маладымі аднадумцамі, паступова вярталі беларускую гуманітарную навуку на забытыя магістральныя шляхі развіцця і станаўлення, дзе гістарычная праўда брала верх над вульгарызатарскай дэмагогіяй, прафанацыяй і тэндэнцыйнасцю. Таму і цяпер навуковым працам Рыгора Семашкевіча не патрэбны якія б там ні былі сучасныя абаронцы і адвакаты, бо яны самадастатковыя ў сваёй грамадзянскай і навуковай велічы, бо ніколі не пісаліся на патрэбу дня, а ствараліся на вякі…"

У энцыклапедычным даведніку "Янка Купала" навуковая, літаратуразнаўчая біяграфія Рыгора Семашкевіча ўмясцілася ў 19 радкоў. Але гэта і зразумела: такі фармат, такія законы энцыклапедычнага выкладання. Дарэчы, там згадваюцца яшчэ два купалазнаўчыя артыкулы Р. Семашкевіча: пра Андрэя Фёдаравіча Посаха (1884 — 1945), педагога, дацэнта БДУ, знаёмага песняра яшчэ з часоў працы Купалы на бровары ў Яхімоўшчыне, — "Ён дружыў з Купалам" у часопісе "Маладосць", 1964, № 7; "А хто там ідзе?" ў часопісе "Литва литературная", 1982, № 4. Магчыма, іх таксама варта было б уключыць у зборнік "Янка Купала і беларускае адраджэнне".

Перавыданне навуковай спадчыны Рыгора Семашкевіча, ажыццёўленае ў Маладзечне, — яскравы доказ не толькі літаратурнай, культуралагічнай, але і грамадскай увагі да постаці таленавітага земляка, самаахвярнага вучонага і пісьменніка. Магчыма, следам пабачыць свет і перавыданне паэзіі і прозы Рыгора Семашкевіча. Дадаткам да такога тома маглі б служыць успаміны, вершы, прысвечаныя аўтару даследаванняў пра Янку Купалу.

*100 год кнізе*

# Сны пра долю і нядолю

**Напрыканцы чэрвеня 1912 года ў "Нашай Ніве" ўпершыню была надрукавана паэма Янкі Купалы "Курган" з прысвячэннем "Памяці Сяргея Палуяна". Цягам гэтага ж года ў Пецярбургу асобнай кнігай выйшла драматызаваная паэма-трагедыя песняра "Сон на кургане" (з пазнакай на вокладцы 1913 год). І калі інтэрпрэтацыя першага твора не выклікае вялікіх цяжкасцей у спецыялістаў, то "Сон на кургане" не так проста развітваецца са сваімі загадкамі.**




Марына ВЕСЯЛУХА

Часам даследчыкі называюць паэмы "Сон на кургане" і "Курган" — разам з некаторымі іншымі творамі Купалы гэтага ж жанру — "чыста" рамантычнымі. Маўляў, і эстэтыка захоўваецца, і фальклорная аснова ёсць, і ўнутраны канфлікт галоўнага героя, яго бяссілле супраць грамадства і рэчаіснасці таксама ў іх прысутнічае. Але не ўсё так проста.

З аднаго боку, усё правільна. Беларуская літаратура пачатку XX ст. завяршала фарміраванне класічных асноў мастацкай творчасці. Менавіта ў гэты час канчаткова сфарміраваліся вядучыя мастацкія кірункі літаратуры XX ст. — рамантызм і рэалізм. Асабліва гэта датычыць рамантызму, дакладней, неарамантызму.

Дарэчы, нават у пачатку XX ст. паміж вядучымі тэарэтыкамі літаратуры таго часу (М. Багдановіч і А. Луцкевіч) не было згоды ў выкарыстанні тэрмінаў "мадэрнізм" і "неарамантызм", якія ў кантэксце беларускай літаратуры гэтага перыяду з'яўляюцца сінанімічнымі: Багдановіч, імкнучыся ўключыць наша краснае пісьменства ў сусветны літаратурны працэс, называе як адзін з яго мастацкіх кірункаў мадэрнізм; Луцкевіч жа піша: неарамантызм. Менавіта ў рэчышчы неарамантызму адбывалася ў Беларусі пачатку XX ст. станаўленне і развіццё нацыянальнай літаратурнай класікі. Рамантычныя ідэі і матывы прысутнічаюць у творчасці Я. Купалы, Цёткі, А. Гаруна, К. Буйло, К. Сваяка, З. Бядулі, Я. Коласа, Ц. Гартнага.

З іншага ж боку часта рамантычныя рысы спалучаюцца з характэрнымі асаблівасцямі іншых мастацкіх сістэм (рэалізму, сімвалізму, імпрэсіянізму), што стварае непаўторнае паэтычнае адзінства, у якім і выяўляецца арыгінальнасць таленту аўтара. Ідэі сімвалізму прысутнічаюць і ў беларускай паэзіі, яны спалучаюцца з неарамантызмам (у творчасці Янкі Купалы) і імпрэсіянізмам (у Максіма Багдановіча). Адметна тое, што беларускі сімвалізм абапіраўся не толькі на еўрапейскую літаратурную традыцыю, а і на багаты мастацкі досвед нацыянальнага фальклору з яго дасканала распрацаванай паэтыкай сімвалаў і мастацкіх іншасказанняў. Вось адсюль — складаныя шматузроўневыя вобразы-алегорыі Купалы.

Янка Купала рана захапіўся духам старажытнасці, які выразна адчуваўся ў набытках беларусаў. Калядкі, вяснянкі, кустовыя, купальскія песні, гэтак жа як і замовы, нібы захоўвалі ў сабе адзнакі бачання, адчування свету далёкімі продкамі. Але ў той жа час, як піша Іван Навуменка, Купала не абмінуў увагай паэтычныя мастацкія формы, выпрацаваныя паэтамі-сімвалістамі і імпрэсіяністамі, яны мелі на яго бясспрэчны ўплыў. Купалу не трэба было выдумляць русалак, відмаў, бо гэтыя істоты ўжо існавалі ў міфах, казках, народных паданнях. Яны і сталі героямі яго твораў. Адзін з іх — паэма "Сон на кургане". Тут зварот да ўмоўна-фантастычнага, алегарычнага плану дае паэту магчымасць з'яднаць сённяшнюю яву з мінуўшчынай роднага народа. Малюнкі "У пушчы", "На замчышчы" з русалкамі, Чорным і, нарэшце, Самам, цэнтральным героем, заступнікам народа, праўдашукальнікам, нібы нясуць подых гісторыі.

Але не толькі звычайным для таго часу рамантычным пафасам, глыбокай трагедыяй Сама, галоўнага героя (які нагадвае герояў "старога" рамантызму — людзей адзінокіх, мужных, але бяссільных перад воляй лёсу, няздольных дабіцца здзяйснення сваёй мэты) адметная паэма. У ёй значна ўсё: месца дзеяння, вобраз, гук… Значна і тое, якое ўражанне кожны з гэтых складнікаў робіць на чытача. Месца стварае патрэбны настрой, гукі (у тым ліку і рытм верша) — зачароўваюць, нібы гіпнатызуюць, вобразы — палохаюць (у тым ліку абсурднасцю). Сімвалічныя месцы, дзе адбываецца дзеянне паэмы — пушча, замчышча (падкрэслівае слаўнае мінулае беларускага народа), папялішча, шынок. Адметныя і героі паэмы — адзінокі Сам, жорсткія русалкі (кожная з іх распавядае сваю гісторыю жыцця, па сутнасці — баладу), кабета-вар'ятка, якая "сыйшла з розуму праз пажар", яе прыдуманае вяселле з Падросткам, сапраўднае вяселле, якое замест гасціннага дома прыязджае на папялішча… Адметны і вобраз Чорнага — злосная дэмана, які сімвалізуе спрадвечныя перашкоды на шляху чалавека да шчасця, служыць увасабленнем сіл апраметнай. Менавіта з ім звязаныя самыя страшныя, гатычныя (а гэта таксама адна з рысаў неарамантызму) сцэны паэмы, да прыкладу, ён, абараняючы скарбы на замчышчы, кажа Саму:

*Зубамі грызі, війся ў ранах,*
*Сэрцам бі ў камень, як звонам,*
*Крывёю парог злі цагляны,*
*Трупам тут ляж безгалоўным.*

Надзвычай багатай з'яўляецца гукавая палітра паэмы. Сам "Шэпча пацеры. Чорны свішча… Чорны запускае ў сярэдзіну саганка руку і, падымаючы адтуль жменю золата, падтрасае яго на далоні; грошы са звонам — як путаў жалезных — валяцца зноў у гаршчочак"; "Словы Чорнага зліваюцца ў нейкую дзікую музыку з бразганнем грошай, шэлестам зараслей, з скрыпам дошчак забітых вакон і дзвярэй замчышча".

Толькі ўявіце: шэпт, свіст, бразганне золата, "шэлест зараслей", скрып… Да ўсяго гэтага напрыканцы паэмы дадаецца сумная песня Сама пад ліру: "канечна, мае голас ліра, / Бы толькі слухалі вы шчыра", затым "пачынаецца напяванне без слоў, каторае паволі ўсільваецца ў нейкую жудка-сумную, прыдаўленую мелодыю", і гэты спеў заглушае вясёлая мелодыя "Ой-ра, ой-ра", якую выконваюць музыкі ў карчме.

Як піша даследчык творчасці Янкі Купалы Міхаіл Ярош, асэнсаваць глыбіню праблематыкі "Сну на кургане" вельмі складана. Гэтую складанасць увесь час адчувала наша літаратуразнаўства, даючы самыя розныя трактоўкі ідэйнай сутнасці твора. Але ў апошні час яно зрушылася ў бок канкрэтна-гістарычнага вытлумачэння зместу паэмы. Да прыкладу, М. Ярош сцвярджае, што "не фантастыка сама па сабе, не русалкі і відмы цікавяць паэта. Ён расказвае перш за ўсё пра людзей, пра іх пакутлівае, поўнае трагізму жыццё ў буржуазна-памешчыцкім грамадстве, пра пошукі народам вялікага скарбу — свабоды".

Але, думаецца, як і ўсе творы сімвалічнага кірунку, паэма "Сон на кургане" можа інтэрпрэтавацца па-рознаму. Нездарма ж Купала абраў менавіта гэтую мастацкую стратэгію для выказвання ўласных думак. Таму на пытанні: якія сэнсы хаваюцца за вобразам скарбу? Ці атаясамліваў сябе Купала з Самам? Ці з'яўляецца Чорны дэманам? — можна знаходзіць новыя і новыя адказы. Ці не ў гэтым заключаецца магія Купалы — нібы свянцонай крэйдай, "круг абвесці толькі ўмела!" і не выпусціць з яго ўвагу чытачоў і даследчыкаў?

# Под жёлтым дождём войны…

Екатерина БЕДУЛИНА

Утреннюю тишину советского пограничья нарушили первые залпы немецких орудий, рёв танков со свастикой на броне, вой падающих бомб. Холодные капли дождя смывают серые краски…

В дни войны продолжали звучать голоса писателей.

Трудно вспомнить литературный жанр, в котором бы не пробовал, и притом успешно, свои силы **Константин Симонов**.

Широкую известность принесла ему лирика военных лет. *"Жди меня, и я вернусь. Только очень жди. Жди, когда наводят грусть жёлтые дожди…"* Он показывал войну "в настоящем её выражении, в крови, в страданиях, в смерти", нарисовав почти пустынную и печальную в своей наготе многострадальную землю, страшные развалины городов, пепелища деревень и сёл. Тонкая, чуткая лирика автора плавно перелилась в прозу, где каждое слово — от сердца… Ведь это слово — правда.

Перу К. Симонова принадлежат стихи и исторические поэмы, очерки и рассказы, повести и романы, пьесы и сценарии. Постоянно выступал он как публицист и литературный критик. Много занимался документалистикой в литературе, в кино, на телевидении. Его всегда увлекало новое: начал свой литературный путь как поэт, затем поэзия была сильно потеснена драматургией и журналистикой, а в последний период жизни подлинным своим призванием считал прозу.

В сериях **"Русская классика"** и **"Великая судьба России"** представлен роман в трех повестях **Константина Симонова "Так называемая личная жизнь (Из записок Лопатина)"**. Содержание его определил сам автор — "о жизни военного корреспондента Лопатина во время Великой Отечественной и о людях войны, увиденных его глазами". В книгу вошли повести "Четыре шага", "Двадцать дней без войны" и "Мы не увидимся с тобой…".

В трилогии отражены разные этапы войны: и самоотверженность тех, кто принял на себя удар в первые месяцы, и битвы под Сталинградом.

Симонов открывает правду о войне как ее участник и очевидец, уделяя больше



внимания не внешним событиям, а внутренней жизни человека на войне. Человека, не утратившего способности верить, любить и размышлять…

Своего главного героя Лопатина автор наделил мужественностью и чуткостью. Воплощение истинного русского характера. Пусть с виду он может показаться невзрачным (ведь особо не выделяется): худо-



щавый и уже не молодой мужчина в очках, — но зато в нём есть твёрдость и внутренний стержень. И одновременно ему не чуждо чувство страха, которое не делает его трусом в глазах других, а только возвышает его, ведь стоя на "острие ножа", сталкиваясь с врагами, Лопатин всегда находит силы, чтобы перебороть себя, не сдаться, не опустить руки: *"Его охватило уже несколько раз испытанное им на войне чувство страха, загадочности и неправимости, которое рождается у человека, попавшего туда, где все мертвы и нет никого, кто бы мог рассказать, что здесь произошло несколько часов назад"*.

Каждое новое задание для Лопатина — это испытание не только как журналиста, но и человека: воспитание характера и силы воли…

*"Решимость умереть — не совсем те слова, и даже совсем не те… Решимость умереть — это из области самоубийства. На войне точнее говорить о решимости сделать все, что от тебя зависит, в условиях, когда это грозит смертью. Иногда — невероятной, и как крайность — почти неизбежной. Какое чувство стоит за этим? Наверное, всё же желание жить… Даже перед лицом неизбежности. Без этого до самого конца остающегося чувства нет и самопожертвования"*.

Лопатин, размышляя о жизни, вспоминает есенинские строчки:

*Мы теперь уходим понемногу*
*В ту страну,*
*где тишь и благодать.*
*Может быть,*
*и скоро мне в дорогу*
*Бренные пожитки*
*собирать…*

Автор не столько повествует о сражениях, сколько исследует причины жизнестойкости своих героев, характер их патриотизма и приходит к выводу, что ключи от победы — не просто в героических подвигах бесстрашных богатырей, а в повседневном труде, в умении воевать: "Солдат идёт в бой не умирать, а жить…"

Наследуя лучшие традиции русской батальонной прозы, Константин Симонов сказал много правдивого о войне, действенном патриотизме, умении побеждать, фронтовом товариществе.

Для того, чтобы написать что-то стоящее, надо хорошо знать и тех, о ком пишешь, и тех, для кого пишешь. Герои Симонова — это люди, с которыми он встречался на войне. Никто не может описать события Великой Отечественной лучше, чем человек, побывавший на этой войне. Именно поэтому произведения Симонова так популярны и в наше мирное время.

Верность и преданность, чувство ответственности за каждый шаг, слово, и даже… светлая любовь — всё это в одной книге.



# Урок экстрима

Евгения БЕЛИНА

Представьте на миг, что вы проснулись рано утром: телефона нет. Холодной воды нет. Денег нет… И рядом никого. У вас шок, но сказать об этом некому. Ведь понять могут только три человека: равный, близкий тебе и любимый. И единственное спасение — вера в себя.

Примерно в такой ситуации главные герои книги **"Путешествия в поисках смысла жизни. Истории тех, кто его нашёл" Рами Блекта.** Её жанр можно определить как дневниковые очерки, правдивые биографические истории. У героев разные проблемы: выбор профессии, боязнь замкнутого пространства, страхи, печаль и грусть, разочарование в любви и карьере, игровая зависимость, наркомания, отсутствие желания жить, тяжёлая болезнь, потеря близкого человека...

Автор собрал своих героев в самолёте в момент экстремальной ситуации: он должен взлететь, но почему-то не летит… И чтобы избежать страха крушения и смерти, Мудрец, который летит вместе со всеми, начинает рассказывать истории из своей и чужой жизни, помогая увидеть ситуацию не только с привычной позиции, а несколько иначе. И каждый, слушая его удивительные интересные рассказы, начинает задумываться… Главная цель книги: научить человека верить в себя, удачу, близкого человека и любовь.

Рами Блект — это псевдоним. За плечами у автора — военный институт, где он попал в экспериментальную группу, готовившую кадры для ВДВ. В ней работали известные военные психологи, психотерапевты и педагоги, цель которых состояла в том, чтобы понять пределы человеческой психики при перегрузках, изучить влияние внутреннего состояния на достижение конкретных целей и воспитать сверхвоина из обычного человека.

Во время учебы Рами Блект начал изучать духовные, исторические и глубоко философские, медицинские и религиозные книги. После — служил в спецвойсках ВДВ, занимался психологией спорта, писал статьи.

Именно это натолкнуло его на идею создания такой необычной книги.

# Откроем для себя Китай?

Данила АРТИМОВИЧ

Китай. Страна, где живёт 1,3 млрд. человек, где изобрели бумагу и компас, порох и книгопечатание, где находится Великая Китайская стена… Увидеть Поднебесную — мечта каждого туриста. Но как быть, если вы ограничены жёсткими временными рамками отпуска, умеете и любите разумно тратить деньги, но при этом хотите получить от своей поездки абсолютный максимум впечатлений? Рекомендуем книгу известного американского писателя и путешественника **Вадима Народицкого "Китай. Путеводитель. Узнать на 20 % больше, заплатить на 20 % меньше"**, которая вышла в серии "Коллекция лучших туристических маршрутов". Основанный исключительно на личном опыте автора, путеводитель Народицкого станет вашим штурманом-другом в открытии Китая.

"Я не писал о сотне городов, куда вы все равно не успеете попасть, не перечислял десятки монастырей, из которых у вас будет время лишь на два-три, не ставил перед вами мучительную



проблему, как выбрать по путеводителю один вариант из многих возможных, — отмечает Вадим Народицкий. — Вместо этого я обобщил весь свой опыт путешественника, своё знание Китая, массу информации с различных форумов и предлагаю вам один маршрут. Но зато — оптимальный".

За двух- или трёхнедельную поездку вы сможете посетить императорский Запретный город в Пекине, подняться на Великую Китайскую Стену, посмотреть на огромную, вырубленную в скале статую Будды в Лешане, протянуть охапку бамбука пандам в Чэнду, подняться на гору Эмейшань, провести ночь в монастыре у вершины, прогуляться по колоритнейшим улочкам Лицзяня… и успеть ещё многое другое.

"Вы увидите в два-три раза больше, чем средний турист, и при этом увидите самое лучшее из того, что стоит увидеть, — обещает Вадим Народицкий.

— Если правильно спланировать поездку, всё это вполне реально успеть за короткий срок. Эта книга — готовый план поездки, написанный как дневник путешественника. Это именно "путе-водитель", в самом буквальном смысле. Всё, что вам нужно сделать, — это взять книгу в руки и следовать за мной".

# Пра Песняроў і не толькі

**У паваротныя часы быцця народа ў грамадстве нараджаецца цікавасць да гістарычнага дакумента. Попытам пачынае карыстацца дакументальная і дакументальна-мастацкая літаратура: нарысы, лісты, дзённікі, мемуары, у аснове якіх — сапраўдныя падзеі. Янка Купала і Якуб Колас не толькі класікі нацыянальнага мастацкага слова і заснавальнікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, але і актыўныя ўдзельнікі эпахальных падзей у нашай гісторыі. Цікавасць да асоб гэтых пісьменнікаў тлумачыцца не толькі тым, што гэта вызначальная старонка айчыннай гісторыі і культуры. Падзеі мінуўшчыны многае вытлумачваюць у сучасным жыцці Беларусі, выклікаюць роздум пра яе заўтрашні дзень.**




**Вера ЗАРЭЦКАЯ,**
**фота Уладзіміра Крука**

Выданне першай кнігі "Купала і Колас, вы нас гадавалі. Дакументы і матэрыялы 1909 — 1939 гг." (Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010) надзвычай своечасовае. Яе ўкладальнікі — В. Селяменеў і В. Скалабан. Да таго, каб першая кніга двухтомніка трапіла да чытача, спрычыніліся таксама Дэпартамент па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі краіны, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Федэральнае архіўнае агенцтва Расіі і Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. Над падрыхтоўкай зборніка працаваў вялікі калектыў навукоўцаў, у тым ліку супрацоўнікі музеяў і архіваў, сваякі пісьменнікаў.

Кніга адкрываецца вершам П. Броўкі, прысвечаным класікам беларускага мастацкага слова. Матэрыялы аб'яднаныя ў блокі, структура блока такая: невялікі каментарый пра падзею, справу, людзей, якім прысвечаны дакументы і матэрыялы, іх пералік, інфармацыя пра папяроднікаў, хто і дзе публікаваў ці інтэрпрэтаваў іх. У кожным блоку ёсць зноскі з неабходнымі тлумачэннямі. Укладальнікі падаюць арыгінальныя дакументы ці іх першапачатковыя варыянты: пазначаюць пропускі, дапісванні зверху ці знізу, плюсы і мінусы над імёнамі, наяўнасць подпісаў, іх аўтэнтычнасць, нечытэльнасць асобных слоў і цэлых сказаў, закрэсліванні ці падкрэсліванні чарнілам ці алоўкам, называюць іх колер, удакладняюць відавочныя памылкі. Даследчыкам яшчэ трэба будзе высветліць, хто рабіў гэтыя пазнакі і што яны азначаюць.

Дакументаў і матэрыялаў пра Янку Купалу і Якуба Коласа, зусім не вядомых спецыялісту, у выданні не так і шмат, але гэта не зніжае вартасці і значнасці зборніка. Большасць дакументаў знаёмая па інтэрпрэтацыі даследчыкаў, якія выяўлялі ў публікацыях і сваё "я", тут жа змешчаны арыгіналы, якія даюць кожнаму магчымасць самастойна рабіць высновы. Дакументы і матэрыялы сабраны пад адной вокладкай, яны адкрываюць перспектыву пэўнага перыяду жыцця і творчасці пісьменнікаў. Гэта яшчэ і зручна: не трэба шукаць патрэбную інфармацыю па розных, часам маладаступных нават прафесійнаму чытачу крыніцах.

Да прыкладу, у зборніку змешчана інфармацыя пра дзейнасць "Камісіі па паляпшэнні быту вучоных. 1922 — 1924 гг.", якая аказвала матэрыяльную дапамогу супрацоўнікам Інбелкульта і Акадэмцэнтра, у тым ліку Янку Купалу і Якубу Коласу. Дапамога складалася з пасылак гуманітарнай арганізацыі "Амерыканская адміністрацыя дапамогі (АРА)". "Камісія" складала спіс, каму неабходна дапамога, ці то харчовая, ці то мануфактурная пасылка, каму трэба выдзеліць цэлую, а хто можа абысціся і паловай. Старшыня "Камісіі" дзякаваў амерыканцам і прасіў, каб падтрымка была рэгулярнай.

У святле дакументаў пра дапамогу, якую атрымліваў Янка Купала ад амерыканцаў, развейваецца міф, што ў яго доме для "контррэвалюцыянераў і нацдэмаў" наладжваліся банкеты, на якіх хіба што птушынага малака не хапала. Гэты міф мэтанакіравана ўкараняўся ў масавую свядомасць у сувязі з расправай над нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыяй па справе Саюза вызвалення Беларусі, каб выклікаць варожае стаўленне да іх, бо большасць беларусаў галадала. Іншая справа, што сям'я паэта была гасцінная і наведвальнікі не пакідалі дом без пачастунку.



*Якуб Колас і Янка Купала. 1935 г.*

У 1920-я гг. Купала і Колас шчыравалі на тое, каб надаць Беларусі нацыянальнае аблічча. Спачатку працавалі ў навукова-літаратурнай калегіі пры Наркамасветы, усё рабілі, каб як хутчэй быў адчынены Інбелкульт як самастойная навуковая арганізацыя, якая злучыць "усе творчыя беларускія навуковыя, літаратурныя і мастацкія сілы". Купала і Колас бралі непасрэдны ўдзел у распрацоўцы Статута Інбелкульта, працавалі ў гэтай установе, а затым у АН БССР. Абодва пісьменнікі абіраліся членамі гарсавета, ЦКК трох скліканняў, абодвум былі нададзены ганаровыя званні народных паэтаў.

Янку Купалу і Якуба Коласа, як сведчаць змешчаныя ў выданні дакументы і матэрыялы, беларусы ўспрымалі як сваіх духоўных лідараў. У лёсавызначальны для народа час аўтар "Тутэйшых" выступаў не толькі як пісьменнік, але і як публіцыст, абуджаў нацыянальную самасвядомасць беларусаў, заклікаў "заняць свой пачэсны пасад між народамі". Творца супрацоўнічаў з газетай "Беларус", часопісамі "Вольны сцяг" і "Золак", рэдагаваў часопіс "Рунь", стварыў бібліятэку пры Беларускім народным доме Наркамасветы. Паэт быў тым цэнтрам, вакол якога гуртавалася беларуская інтэлігенцыя незалежна ад партыйнай арыентацыі. Па сведчанні А. Чарвякова, кватэра Янкі Купалы ў 1920 г. была "своеасаблівым палітычным клубам".

У гэтым жа святле ўспрымаўся і вобраз Якуба Коласа. Яго імя значылася ў спісе кандыдатаў у члены Установачнага сходу ад Беларускай сацыялістычнай грамады. Пазней пісьменнік заўважаў, што ён не даваў на гэта згоды. Можна дапусціць, што яго не задавальняла адно з важнейшых праграмных палажэнняў Грамады — аўтаномія Беларусі ў складзе Дэмакратычнай Федэратыўнай Расійскай Рэспублікі. У лісце (1918 г.) з Куршчыны Янку Купалу ён пісаў, што нам не трэба шукаць падтрымкі і дапамогі ні з захаду, ні з усходу, а быць самімі сабой, бо ментальнасць нашага народа і рускіх розныя: з аднаго боку, "ціхі, пахмурны, але мяккі сэрцам і добры душою беларус", з іншага — "татарскі тут народ".

Якуба Коласа беларуская моладзь, якая ўваходзіла ў патрыятычную арганізацыю на чале з Юрыем Лістападам, лічыла кіраўніком руху за сапраўдную вольнасць краіны. У лісце М. Дземідовіча да Ц. Курбыкі чытаем: "У Мінску і наогул ва ўсёй Беларусі цэнтрам усяго з'яўляецца Колас". Кіраўніцтва БССР, Палітбюро ЦК ВКП(б) гэтак жа ацэньвалі пісьменніка, раіўшы Мінску працэс над маладымі патрыётамі весці цалкам на беларускай мове і палітычнае абвінавачванне засяродзіць "на ролі інтэлігенцыі і ў прыватнасці Міцкевіча". На кватэры Якуба Коласа быў праведзены вобыск, яго двойчы дапытвалі ў ДПУ. На судзе пісьменнік выступаў як сведка. У зборніку змешчана інфармацыя з газеты пра суд над групай Лістапада і пераказ адказаў Якуба Коласа. Як бы там ні было, але пазіцыя пісьменніка ў гэтай справе задаволіла ўлады, пра што сведчыць сакрэтная пастанова ЦК КП(б)Б аб святкаванні 20-годдзя яго літаратурнай дзейнасці: "Аб'явіць Якуба Коласа народным паэтам, пры гэтым у нашых выступленнях падкрэсліць яго апошнія палітычныя заявы (асуджэнне лістападаўшчыны, прызнанне дыктатуры пралетарыяту), ускладаючы на яго пэўныя палітычныя абавязкі".

Якуб Колас першым адчуў на сабе прэсінг рэпрэсіравальнай машыны бальшавікоў. Трагедыя для абодвух пісьменнікаў наступіла крыху пазней у сувязі з працэсам па справе СВБ. У кнізе "Купала і Колас, вы нас гадавалі…" змешчаны два матэрыялы пра аўтара "Тутэйшых" па гэтай арганізацыі, але яны маюць выключнае значэнне для разумення пазіцый абодвух пісьменнікаў (ды не толькі іх) адносна гэтай справы. З Мінска паведамлялі ў Маскву пра спробу самагубства Янкі Купалы, пра яго допыты ў ДПУ: "Янка Купала ўпарта адмаўляў сваю прыналежнасць да якой бы то ні было контррэвалюцыйнай арганізацыі і не выявіў нават найменшага жадання пайсці насустрач нам у сэнсе хоць бы ганьбавання контррэвалюцыйнай дзейнасці сваіх сяброў — удзельнікаў і кіраўнікоў СВБ… Мы вырашылі не патрабаваць ад Я. Купалы прызнання ўдзелу ў Саюзе вызвалення Беларусі і засяродзіць свае намаганні на патрабаванні выступіць з адкрытым ганьбаваннем контррэвалюцыйнай дзейнасці групы беларускіх інтэлігентаў, арыштаваных па справе СВБ. Думаю, што гэта нам удасца". У пастанове закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б значыцца: "Лічыць неабходным дамагчыся выступлення Я. Купалы, Я. Коласа, М. Зарэцкага і інш. з рэзкім ганьбаваннем контррэвалюцыйнай дзейнасці арыштаваных па справе СВБ і з крытыкай тых сваіх твораў, якія служылі нацдэмаўскай контррэвалюцыі".

Дакументаў і матэрыялаў пра Якуба Коласа па гэтай справе ў кнізе "Купала і Колас, вы нас гадавалі" больш, у тым ліку і "Заява", якой так дабіваліся ўлады. Дамагчыся, каб паклёпніцкія заявы напісалі самі класікі нацыянальнай літаратуры, ДПУшнікам не ўдалося, а каб падпісалі паклёпніцкія фальсіфікацыі, — так. Дакументы выдання сведчаць: даклады, артыкулы, любыя публічныя выступленні мастакоў слова і пра іх пільна кантраляваліся. Такой адрэдагаванай з'явілася ў друку "Заява" Якуба Коласа. Пазней яму, мусіць, не раз давядзецца падпісваць і агучваць не свой тэкст.

Палітыка ўлад адносна Янкі Купалы і Якуба Коласа ў пачатку 1930-х гг. заключалася ў тым, каб выключыць іх з літаратурнага жыцця як ключавых фігур беларускага мастацкага слова. Гэта асабліва відавочна з дакументаў, прысвечаных стварэнню Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яны не былі ўключаны ў склад аргкамітэту, не прадстаўлялі нашу літаратуру на з'ездзе аргкамітэта ў Маскве. У зборы твораў, прысвечаныя юбілеям мастакоў слова, траплялі толькі, паводле вобразнага выказвання Янкі Купалы, "дрындушкі". Любая спроба апублікаваць ці ацаніць нешта вартае рашуча выкаранялася. П. Галавачу аб'яўляецца строгая вымова за тое, што ў рэдагуемы зборнік вершаў Янкі Купалы былі ўключаны "яўна нацыяналістычныя, класава-варожыя творы, калі Купала ў сваёй творчасці адлюстроўваў нацыянал-дэмакратычныя ідэі". У 1937 г. у Маскве рыхтавалася да выдання кніга перакладаў Якуба Коласа. Ён уключыў для перастварэння верш "Полымя" (замест віншавання з 5-й гадавінай). Твор насцярожыў перакладчыка М. Ісакоўскага, які высветліў, што паэтычныя радкі адрасаваны "контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі, якая была ў свой час выкрыта. І гэтай арганізацыі Якуб Колас прысвячае вершы, уключаючы іх у кнігу, якая павінна выйсці ў 1937 г., — даносіць перакладчык. — Не ведаць пра контррэвалюцыйную сутнасць арганізацыі "Полымя" Колас не мог. Значыць, напрашваецца выснова, што зроблена гэта з варожымі мэтамі".

У кнізе змешчаны матэрыялы пра святкаванне 30-годдзя літаратурнай дзейнасці і 50-годдзя жыцця і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, пра ўзнагароджанне іх машынамі, клопат дзяржавы пра іх жыллё, выданне твораў, пра папулярызацыю ў сродках масавай інфармацыі, пра іх вечарыны ў Маскве, а ў сувязі з 20-годдзем БССР — узнагароджанне ордэнамі. Усё ці амаль усё аднолькава. Дзіўнае супадзенне нават у тым, што ў 1935 г. абодва былі ўключаны ў склад дэлегацый для паездкі за мяжу: Якуб Колас — у Парыж на Міжнародны кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры, Янка Купала — у Чэхаславакію. Абодва бралі ўдзел у святкаванні 125-годдзя Тараса Шаўчэнкі ва Украіне.

У першай кнізе зборніка "Купала і Колас, вы нас гадавалі…" змешчаны таксама дакументы і матэрыялы, якія так ці інакш раскрываюць іншыя бакі іх жыцця і творчасці: скажам, як Янка Купала абмяняўся з Беларускім дзяржаўным музеем, аддаўшы за столік з мармуровай шахматнай дошкай срэбны крыжык з туркусамі (бірузой), шкляное бакара цыліндрычнай формы малінавага колеру з малюнкамі класічных вобразаў фаўнаў і жалезны трохкутны замок мясцовай старасвецкай работы. Тут ёсць звесткі і пра некаторых іншых пісьменнікаў: Лёсіка, Баранавых, Броўку, Скрыгана і іншых.

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Фундаментальныя і агульныя праблемы матэматыкі**

**Герман, О. В.** Неклассические логические исчисления: учебно-методическое пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования на 2-й ступени по специальности 1-40 80 02 «Системный анализ, управление и обработка информации» / О. В. Герман; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2012. — 123 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-783-8.

**Алгебра**

**Пределы. Предел функции**: пособие для студентов факультета прикладной математики и информатики / Л. А. Альсевич [и др.]; Белорусский государственный университет, Факультет прикладной математики и информатики, Кафедра высшей математики. — Минск: БГУ, 2012. — 61 с. — 50 экз.

**Самостоятельные и контрольные работы по алгебре**: 7-й класс: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования: в 2 ч. / составитель С. П. Ермак. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — ISBN 978-985-538-524-1.

Ч. 1. — 2012. — 86 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-538-661-3.

**Самостоятельные и контрольные работы по алгебре**: 8-й класс: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования: в 2 ч. / составитель С. П. Ермак. — Мозырь: Белый Ветер, 2012– — ISBN 978-985-538-668-2.

Ч. 1. — 2012. — 91 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-538-667-5.

**Сафонов, С. А.** Линейная алгебра: учебно-методическое пособие: [в 3 ч.] / С. А. Сафонов, Д. Н. Симоненко; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Высшая математика». — Гомель: БГУТ, 2012– — ISBN 978-985-468-955-5.

Ч. 1: Определители. Матрицы. Уравнения. — 2012. — 41 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-468-981-4.

**Геаметрыя**

**Орехова, А. И.** Задачи на готовых чертежах. Стереометрия: практикум для учащихся общеобразовательных учреждений: в 2 ч. / А. И. Орехова. — 3-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 4013 экз. — ISBN 978-985-538-643-9.

Ч. 1. — 49 с. — ISBN 978-985-538-641-5.

Ч. 2. — 62 с. — ISBN 978-985-538-642-2. — ISBN 978-985-538-643-0 (ошибоч.).

**Планиметрия**: свойства площадей в задачах (с ответами и решениями): пособие для учащихся общеобразовательных учреждений / составитель Ю. В. Шарапов. — 2-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 65 с. — 2513 экз. — ISBN 978-985-538-639-2.

**Тесты для тематического контроля по геометрии**: 9-й класс: практикум для учащихся общеобразовательных учреждений / составитель Т. П. Кубеко. — 2-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 51 с. — 3013 экз. — ISBN 978-985-538-640-8.

**Тэорыя імавернасцей і матэматычная статыстыка**

**Вятченин, Д. А.** Нечеткая кластеризация и нечеткая математическая морфология в задачах обработки изображений: монография / Д. А. Вятченин, А. В. Хижняк, А. В. Шевяков; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2012. — 270 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-544-044-5 (в пер.).

**Даследаванне аперацый**

**Стохастическое и компьютерное моделирование систем и процессов**: сборник научных статей / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: Л. В. Рудикова (гл. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 418 с. — 35 экз. — ISBN 978-985-515-495-3.

**Таныгина, А. Н.** Экономико-математические методы и модели: учебно-методическое пособие для студентов специальности 1-26 02 02 «Менеджмент» / А. Н. Таныгина; Белорусский государственный университет, Механико-математический факультет, Кафедра общей математики и информатики. — Минск: БГУ, 2012. — 85 с. — 50 экз.

**Геадэзія. Аэракасмічная здымка і фотаграметрыя. Картаграфія**

**Головань, Г. Е.** Инженерная геодезия. Общая часть: учебно-методический комплекс для студентов строительных специальностей / Г. Е. Головань, П. Ф. Парадня, В. А. Бондаренко; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2011. — 191 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-531-244-5.




## *Чытальная зала*

## Путеводитель по… европейским мужчинам

В издательстве "Северный ветер" в этом году вышел роман Маргариты и Ольги Бесчасновых "Tramontana, или Как я сходила замуж за иностранца".

"И сыграли они свадьбу, и был пир на весь мир, и я там был, мёд-пиво пил, по усам текло, да в рот не попало". Обычно так заканчиваются сказки — свадьбой. С учётом реалий нашего времени — свадьбой с гражданином какой-нибудь западноевропейской державы, обеспеченным, надёжным, ценящим семейный уют. Например, с благородным доном из Каталонии. Ах, Испания, пылкие сердца…

История, рассказанная сёстрами Маргаритой и Ольгой Бесчасновыми, начинается с того момента, когда Вера, мать двоих детей от первых браков, обладательница диплома психолога и трёхкомнатной квартиры, круто меняет свою жизнь и прилетает к мужу в Испанию. Почему выбор пал на эту страну? Потому, что разговорников и самоучителей испанского было полно в каждом книжном магазине Вериного города. А как же можно строить семейное счастье, не выучив языка второй половинки?! Конечно же, жених приезжал в гости, ходил с визитами по родственникам, засыпал письмами об отделке семейного гнёздышка. Но почему-то, встретив жену с детьми в аэропорту и водворив в это гнёздышко, переехал жить к родителям. Представьте себя на месте Веры — всё вокруг чужое, деньги, захваченные из дому, потихоньку тают, нужно устроить детей в школы и спортивные секции, наладить быт, искать работу и… настоящего мужчину. Потому что славный идальго с помощью женитьбы, оказывается, решал вопросы с получением льготного кредита. Но свою маленькую супругу он явно недооценил. Она не сдалась и не уехала, умываясь слезами, на родину. На помощь Вере приходит сестра. Они путешествуют, встречаются с кандидатами на пост Окончательного Мужчины, наслаждаются красотами дальних стран и доказывают читателю и себе: любой опыт является очень полезной штукой, если делать правильные выводы.

Этот роман смело можно рекомендовать всем девушкам, которые ловят золотую рыбку своей судьбы на просторах интернета. А также всем, кому хочется ощутить вкус Европы и ветер путешествий. Забавная галерея мужских портретов — одно из самых удачных мест в повествовании. Смотрите — это ради них мы готовы учить иностранные языки, входить в горящие избы и останавливать на скаку лошадей. Воистину, прав был Анри Ренье: женщины способны на всё. Мужчины — на всё остальное.

**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО**

**Фізіка**

**Жарихина, Л. П.** Элементарная физика для иностранных слушателей: адаптированный курс для подготовительных отделений : пособие / Л. П. Жарихина, Г. М. Яцкевич, Л. Е. Золотарева ; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2012. — 159 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-544-052-0.

**Клименок, М. Ф.** Физика: практические занятия: пособие для подготовительного отделения иностранных граждан / М. Ф. Клименок; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — Витебск: ВГМУ, 2011. — 106 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-466-473-3 (ошибоч.).

**Маркович, В. Л.** Физика и биофизика : сборник контрольных работ: учебно-методическое пособие для студентов-заочников специальности «Фармация» высших учебных заведений / В. Л. Маркович, А. П. Баранов; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — (2-е изд.). — Витебск: ВГМУ, 2012. — 90 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-466-537-5.

**Научно-методические проблемы современной физики**: сборник материалов межвузовской научно-методической конференции, посвященной 300-летию со дня рождения М. В. Ломоносова, Брест, 17–18 ноября 2011 г. / [под общей редакцией В. С. Секержицкого]. — Брест: БрГУ, 2012. — 179 с. — Часть текста на английском языке. — В надзаголовке: Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — 40 экз. — ISBN 978-985-473-826-0.

**Олимпиады по физике, 2011 год**: 7–11-е классы / [Г. С. Кембровский и др.]. — Минск: Аверсэв, 2012. — 400 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-533-191-0.

**Агульная механіка. Механіка цвёрдых і вадкіх цел**

**Теоретическая и прикладная механика**: международный научно-технический сборник / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет. — Минск, 1975. — ISSN 0134-9635.

Вып. 27: посвящается 70-летию Чигарева Анатолия Власовича / [редколлегия: А. В. Чигарев (председатель) и др.]. — БНТУ, 2012. — 374 с. — Часть текста на английском языке. — 100 экз.

**Теоретическая механика**: кинематика: учебно-методический комплекс для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальностям 1-74 06 02 Техническое обеспечение процессов сельскохозяйственного производства, 1-74 06 02 Техническое обеспечение процессов хранения и переработки сельскохозяйственной продукции, 1-74 06 03 Ремонтно-обслуживающее производство в сельском хозяйстве, 1-36 12 01 Проектирование и производство сельскохозяйственной техники / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет, Кафедра теоретической механики и теории механизмов и машин; [составители: Ю. С. Биза, Н. Л. Ракова, И. А. Тарасевич]. — Минск: БГАТУ, 2011. — 123 с. — 170 экз. — ISBN 978-985-519-488-1.

**Ваганні. Акустыка**

**Ван Чживэй.** Свободные колебания и параметрическая устойчивость конструктивно анизотропных цилиндрических оболочек из монолитного стеклопластика / Ван Чживэй, С. М. Босяков. — Минск: РИВШ, 2012. — 88 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-522-4.

**Ядзерная, атамная, малекулярная фізіка**

**Бушуев, Ю. Н.** Радиометрия и дозиметрия: защита от ионизирующих излучений: практикум для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-33 01 06 Экология сельского хозяйства (специализация 1-33 01 06 01 Сельскохозяйственная радиоэкология) / Ю. Н. Бушуев, Ю. В. Азаренко; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. — Горки: БГСХА, 2011. — 87 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-4767-349-3. — ISBN 978-985-4767-349-3 (ошибоч.).

**Хімія. Крышталяграфія. Мінералогія**

**Галушков, П. А.** Теоретические основы химии: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-48 01 03 «Химическая технология природных энергоносителей и углеродных материалов»: в 3 ч. / П. А. Галушков; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2010–2012. — ISBN 978-985-531-033-5.

Ч. 3. — 2012. — 115 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-531-288-9.

**Макаревич, Н. А.** Окислительно-восстановительные реакции: пособие: [для курсантов] / Н. А. Макаревич, Н. П. Машерова, О. Ф. Скурко; Вооруженные Силы Республики Беларусь, Военная академия Республики Беларусь. — Минск: ВА РБ, 2012. — 19 с. — 50 экз.

**Резяпкин, В. И.** Химия: интенсивный курс подготовки к тестированию и экзамену / В. И. Резяпкин. — 6-е изд. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 316 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-536-281-5.

**Фізічная хімія**

**Морозова, Э. Я.** Коллоидная химия: конспект лекций: [для иностранных студентов] / Морозова Э. Я.; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — (3-е изд.). — Витебск: ВГМУ, 2012. — 86 с. — 117 экз. — ISBN 978-985-466-527-6.

**Тарун, Е. И.** Сборник задач по физической и коллоидной химии / Е. И. Тарун, П. А. Киселев, С. Б. Бокуть; Министерство образования Республики Беларусь, Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова, Факультет экологической медицины, Кафедра биохимии и биофизики. — Минск: МГЭУ, 2012. — 43 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-551-025-4.

**Неарганічная хімія**

**Горбатов, В. В.** Курс лекций по неорганической химии: (для студентов фармацевтического факультета) / В. В. Горбатов, З. С. Кунцевич; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — (3-е изд.). — Витебск: ВГМУ, 2012. — 161 с. — 117 экз. — ISBN 978-985-466-523-8.

**Свиридовские чтения** = Sviridov readings: сборник статей / Белорусский государственный университет, Научно-исследовательский институт физико-химических проблем, Химический факультет, Кафедра неорганической химии; [редколлегия: Т. Н. Воробьева (отв. редактор) и др.]. — Минск: БГУ, 2004–

Вып. 7. — 2011. — 291 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-566-7.

**Арганічная хімія**

**Тестированный контроль по курсу органической химии с ответами и объяснениями**: пособие для студентов 2-го курса фармацевтического факультета / С. В. Латовская [и др.]; под редакцией С. В. Латовской; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — Витебск: ВГМУ, 2012. — 213 с. — 217 экз. — ISBN 978-985-466-534-4.

**Навукі аб Зямлі. Геалагічныя навукі**

**Агульная геалогія. Метэаралогія. Кліматалогія**

**Валькович, Т. В.** Аэрология: пособие для студентов географического факультета, обучающихся по специальностям 1-31 02 01 «География (по направлениям)», 1-31 02 01-01 «География (гидрометеорология)» / Т. В. Валькович. — Минск: БГУ, 2011. — 150 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-518-6.

**Біялагічныя навукі ў цэлым**

**Академик В. Ф. Купревич**: документы и материалы / [составитель Н. В. Токарев; редколлегия: В. В. Данилович и др.]. — Минск: Белорусская наука, 2012. — 321 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-08-1372-5.

**Бекиш, О.-Я. Л.** Биология: учебное пособие для студентов специальности «Фармация» учреждений, обеспечивающих получение высшего образования / О.-Я. Л. Бекиш; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — (2-е изд.). — Витебск: ВГМУ, 2012. — 289 с. — 119 экз. — ISBN 978-985-466-521-4.

**Бекиш, О.-Я. Л.** Медицинская биология и общая генетика: учебник для студентов учреждений высшего образования по специальности «Лечебное дело» / Бекиш О.-Я. Л., Бекиш В. Я.; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет, Кафедра медицинской биологии и общей генетики. — Изд. 2-е, исправленное и дополненное. — Витебск: ВГМУ, 2011. — 543 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-466-510-8.

**Бекиш, О.-Я. Л.** Практикум по биологии: учебное пособие для студентов специальности «Фармация» учреждений, обеспечивающих получение высшего образования / О.-Я. Л. Бекиш, Вл. Я. Бекиш; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — (2-е изд.). — Витебск: ВГМУ, 2012. — 133 с. — 119 экз. — ISBN 978-985-466-520-7.

**Лисов, Н. Д.** Биология: пособие для подготовки к централизованному тестированию / Н. Д. Лисов. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 639 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-533-194-1.

**Мартыненко, Л. П.** Пособие для самоподготовки к практическим занятиям по разделу «Вирусы. Бактерии. Протисты. Грибы. Лишайники. Растения»: для слушателей факультета профориентации и довузовской подготовки / Л. П. Мартыненко, М. Г. Лапухина; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — Витебск: ВГМУ, 2011. — 264 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-466-495-8.

**Сергеева, Т. П.** Методические рекомендации к практическим занятиям по дисциплине «Биология и основы медицинских знаний»: для студентов специальности «Ядерная и радиационная безопасность» / Т. П. Сергеева, Е. Е. Григорьева, А. Б. Авчинников; Министерство образования Республики Беларусь, Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова, Факультет экологической медицины, Кафедра биологии и экологии человека. — Минск: МГЭУ, 2012. — 74 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-551-030-8.

**Централизованное тестирование. Биология**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 55 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-533-192-7.

**Антрапалогія**

**Тегако, Л. И.** Современная антропология / Л. И. Тегако, А. И. Зеленков; Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2012. — 262 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1373-2.

**Агульная экалогія**

**Маврищев, В. В.** Основы экологии: ответы на экзаменационные вопросы: [для студентов вузов] / В. В. Маврищев. — 3-е изд., дополненное. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 174 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-536-280-8.

**Матэрыяльныя асновы жыцця**

**Лысенкова, А. В.** Биоорганическая химия: учебно-методическое пособие для студентов 1-го курса медицинских вузов / А. В. Лысенкова, В. А. Филиппова; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра общей и биоорганической химии. — Гомель: ГГМУ, 2012. — 191 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-506-389-7.

**Мікрабіялогія**

**Микробиология**: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-74 03 01 – Зоотехния / Т. В. Соляник [и др.]; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. — Горки: БГСХА, 2011. — 104 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-467-324-0.




# За Вязынкаю, на пагорках…

## Эсэ

На чыгуначным прыпынку Вязынка, усё адно куды ехаць — з Мінска ў Маладзечна ці ў зваротным кірунку, варта спусціцца з вагона электрычкі, агледзецца вакол, каб засвоіць дакладна азімут, і літаральна праз нейкую хвіліну хадзьбы ўздоўж бліскучых рэек вачам адкрыецца маляўнічая ўскраіна Купалаўскага запаведніка, што па праве стаў сімвалам, духоўнай святыняй беларускага народа. Абапал сялянскага панадворка шумяць векавыя дрэвы, недалёка ад калодзежа стаіць узноўленая ўдзячнымі нашчадкамі драўляная хата, у якой 7 ліпеня 1882 года ў сям'і дробнага арандатара Дамініка Ануфрыевіча нарадзіўся вялікі пясняр Беларусі Янка Купала. Цяпер тут філіял Літаратурнага музея славутага паэта з выставачнымі заламі і Мемарыяльным пакоем, дзе зберагаюцца многія рэчы з жыцця і побыту збяднелай шляхецкай сям'і Луцэвічаў, экспануюцца матэрыялы, што найпершым чынам адлюстроўваюць дзіцячыя і юнацкія гады геніяльнага хлопчыка Яся.

Канечне, у музеі цікава пабываць хоць аднаму, сам-насам, хоць у кампаніі, з сябрамі, — пахадзіць тут у цішыні, у глыбокім роздуме, асэнсоўваючы складаны лёс і жыццёвы подзвіг нацыянальнага прарока. Аднак, калі прыехаць у Вязынку на світанні, з яўным намерам паблукаць па навакольных грыбных мясцінах, Літаратурны музей, вядома, яшчэ зачынены, панадворак пусты, бязлюдны, і адно тут застаецца апантаным вандроўнікам: па нейкай сваёй завязёнцы ці рытуале паглядзець у вокны з белымі старадаўнімі аканіцамі, пастаяць на пляскатым камені ля парога, цераз які з маленькім сынам на руках за дзень, бадай, не адзін раз пераступала маці паэта Бянігна Іванаўна. Тая дзіцячая Купалава калыска і сягоння ўпрыгожвае Мемарыяльны пакой, нязменна хвалюючы шматлікіх наведвальнікаў, але ў прыцемках калыску праз шыбіну не ўбачыш. У хвіліны глыбокай сцішанасці не адразу прыходзіць згадка, што новы дзень ужо даўно ўвабраўся ў сілу і цябе чакаюць не дачакаюцца верасовыя паляны з крамянымі баравікамі, бухматымі чырвонагаловікамі і мноствам апетытных чорных груздоў, якія, напэўна, толькі тут, на пагорках за Вязынкай, растуць суцэльнымі чаранамі. Грыбны азарт падганяе — да чарговай сустрэчы, Купалава хата! На развітанне, і вельмі да месца, вусны шэпчуць строфы з надзвычай самабытнага па выяўленчай палітры верша “Мой дом”, напісанага Янкам Купалам яшчэ ў 18-гадовым узросце:

*Мой дом — прыволле зvёзднай далі,*
*Арламі мераны абшар,*
*Дзе бітвы точаць ветраў хвалі*
*З сям'ёй глухіх калматых хмар.*

*Мой дом — амшалай пушчы сховы,*
*Сяліба ясеняў, сасон,*
*Дзе смех русалчын, лесуновы*
*Палошыць вечна цяглы сон…*

Далей у вершы такія ж шчымлівыя радкі пра “ўзмежных зёлак восці”, пра сівы курган “з сухой асінаю”, пра плакучую “ночку ды туман”, але, здзіўляючыся непаўторнай вобразнасці аўтара, добра разумееш, што верш “Мой дом” прысвечаны не толькі бацькоўскай хаце — гэта выдатны шэдэўр пра тагачасную родную Беларусь, дзе на пясчаных разлогах “тлеюць прадзедавы косці”. Мяркуючы па многіх іншых творах паэта пра казачны куток беларускай зямлі, краявіды ў ваколіцах Вязынкі за больш як векавы перыяд ненамнога змяніліся, бо яны такія ж прыгожыя і маляўнічыя ў любую пару года — вясною і летам, калі Купалава сяліба асабліва мнагалюдная і ажыўленая, на пачатку восені, калі ў сініх верасах і сярод чабаровых палян навыперадкі аж пруць баравікі ды чорныя грузды, а пра зімовы пейзаж у нарысе “Калыска Купалы” па-мастацку дакладна апавядае вядомы наш празаік Уладзімір Саламаха: “Сняжынкі толькі што спусціліся на зямлю з залацістаблакітнага неба і лёгка прыцерушылі сінявата-карычневыя шэрагі дэкаратыўных кустоў, бронзава-шэрыя ствалы і галіны дубоў, пачарнелыя ад часу калодзеж з жураўлём, хату, у якой нарадзіўся Пясняр”. Гэта тут, на Купалавай сялібе, а што ж там далей, за Вязынкаю, на пагорках? Паслухаем самога паэта, яшчэ раз падзівімся, як свежа і тонка адчувае ён зімовы пейзаж у родных ваколіцах:

*І лягла цішыня*
*У бары за гарой,*
*Каб дравінка адна*
*Хоць кіўнула сабой.*

*Снег пушысты залёг*
*Між бяроз і сасён,*
*І чарнобыль, і мох*
*Атуліў сабой ён…*

Цішыня “ў бары, за гарой” у наш час раз-пораз парушаецца грукатам таварных і пасажырскіх цягнікоў, але дарога ў лес, якая, бадай, і пачынаецца тут, каля помніка Паэту, ужо вядзе ў супрацьлеглы ад чыгункі бок — за сялібу-музей, узбягае на масток цераз даволі плыткі ручэй адразу за тыльнай сцяной хаты, хоць, кажуць, ён не замярзае і зімой. Зрэшты, гэта зусім і не ручэй, а рэчка Вязынка, якая на паўночна-заходнім схіле Мінскага ўзвышша цячэ 15 вёрст, а далей, зліўшыся з Гуйкай, утварае ўжо больш акрэсленую і прыкметную раку Рыбчанку. Не засталося згадак, ці лавіў малы Ясь плотак і акунёў у Вязынцы, але, несумненна, рыба тут была — гэта ж колькі часу прайшло, дык ні дзіўна, што рэчка абмялела, звузілася ў свах берагах. Між тым, прасёлак, даўшы на роздум колькі хвілін, мінае масток, вядзе да шырокага канала, пракапанага тут у сувязі з будаўніцтвам Вілейска-Мінскай водная сістэмы, ну, а там, за шашой, акурат і пачынаецца тое “прыволле звёзднай далі”, пра якое згадвае паэт.

Прыволле ўперамежку — то бор, то гай, то палявы абшар, скрозь парэзаныя сцежкамі і прасёлкамі, пакручастымі ляснымі лінькамі і трыбамі. Суцэльных пушчанскіх нетраў, такіх, як у нас, на Палессі, тут, здаецца, не сустрэнеш, не бачна лесуноў і русалак, ды і арлоў у блакітным небе не відаць, хоць наваколле, ужо добра пазалочанае вераснем, ажно захлынаецца ад птушынага шматгалосся. Затое паўсюль, і злева, і справа, на стромых пагорках узвышаюцца магутныя векавыя дубы, якія, мяркуючы па іх узросце, бачылі хлопчыка Яся і з пугай, і з кошыкам у руках, а то і на высеннім ці жніўным полі разам з бацькам і маці. Кажуць, лес без старасвецкіх волатаў-веліканаў яшчэ не лес. Сапраўдны лес там, дзе растуць дубы. Гэтыя ж, за Вязынкаю, так і называюць — Купалавы дубы. Іх многа, значыць, лес тут сапраўдны — грыбны, шматгалосы, а яшчэ лес — цудоўны лекар. Якраз пра свае адносіны да зялёнага сябра Янка Купала згадвае ў вершы, які і называецца проста — “У лесе”:

*Калі бывае мне маркотна, —*
*А я маркочуся часцей,*
*Як гэта думае ахвотна*
*Мой дабрадзей і ліхадзей, —*
*Тады іду я ў лес нядбала,*
*Каб не мазоліць воч людзям,*
*На мох валюся дзе папала,*
*І ўжо я з пушчай сам-насам.*

*Ніхто не бачыць і не чуе,*
*Аб чым тут гутарку вяду,*
*Дзе думка днюе і начуе,*
*Сваю хавае дзе нуду.*

*А з лесам сябры мы старыя, —*
*Не раз праводзілі папас,*
*За сорак год нам дружбу крые,*
*Калі сышліся першы раз…*

Сёння, амаль праз дзевяноста гадоў, як быў напісаны гэты верш, мала засталося самотнікаў, якія ад нуды і маркоты, што неаднойчы здаралася з вялікім паэтам, уцякаюць у лес, каб папрасіць у яго спагады і ратунку, — сучасная цывілізацыя больш прагматычная, і сёння лес прываблівае людзей выключна сваімі багатымі дарамі: ягадамі, грыбамі, рознымі лекавымі зёлкамі і карэннямі. Мы таксама не зусім рамантычныя вандроўнікі. Шчодры лес за Вязынкай найчасцей кліча нас чорнымі груздамі, а баравікамі і чырвонагаловікамі так сабе, на ўдачу — як патрапяцца. Першым гэтыя боскія грыбныя мясціны, ці сам, ці па чыёйсьці падказцы, аблюбаваў Уладзімір Саламаха, і таму ён мае законнае права ісці наперадзе, паказваць нам, недасведчаным навічкам, мясціны, дзе трэба шукаць чорныя грузды: у верасах і чаборы, пад травяністай падсцілкай, дзе яны часам трапляюцца дружнымі сямейкамі.

Побач са мной, з такім жа посудам, як і ў мяне, — звычайным пластмасавым вядром, бачна, не дужа ахвотна брыдзе паэт Віктар Стрыжак. Грыбнік з яго яшчэ той — ён проста апантана любіць Янку Купалу, таму і выбраўся з намі ў Вязынку, а чорныя грузды, або чарнухі, цікавяць Віктара толькі ў выглядзе гатовага прадукту, г.зн. добра вымачаныя не менш як у сямі водах, прасоленыя, пасмачаныя цэлым наборам розных прыпраў, — адмысловым рэцэптам паабяцаў забяспечыць Валодзя Саламаха, хоць “гатовым прадуктам” чарнухі стануць толькі тады, калі паляжаць пад гнётам месяцы два. З гарачай бульбай узімку смаката незвычайная! У адрозненне ад многіх іншых відаў млечных грыбоў чорныя грузды растуць пераважна ў бярозавых і хвойнабярозавых лясах, дружна пракідваюцца ад першапачатковай да позняй восені, акурат на працягу ўсяго перыяду, калі птушкі адлятаюць у цёплыя краіны. Валодзя Саламаха, як і належыць праваднiку-першапраходцу, важна шыбуе наперадзе, Віктар Стрыжак, то іранічнаўсмешлівы, то нечакана дужа маркотны, спрабуе ўзнавіць па памяці асобныя строфы з верша свайго любімага Янкі Купалы — “У вырай”:

*Зашумела нудна восень*
*Шумам лісцяў, шумам сосен,*
*Даўшы волю хмурам;*
*Ажно з гоняў Беларусі*
*Ў вырай вылецелі гусі,*
*Паплылі ўдаль шнурам.*

*Следам з выраем, з гусямі*
*Паляцелі думкі самі,*
*Сэрца ўскалыхнулі;*
*Ўскалыхнулі долі плесняй,*
*Азваліся казкай-песняй,*
*Ў смутку патанулі…*

*Ой, вам, гусі-вырайніцы,*
*Жыць нядоўга ў чужаніцы,*
*Зноў к нам прыплывеце,*
*Зноў вас будуць сустракаці*
*Нашы рэчкі, сенажаці,*
*Наша сонца ў цвеце…*

Скажу без пахвальбы: ураджай грыбоў пад Купалавымі дубамі быў тады незвычайна багаты, і чорныя грузды, засоленыя паводле рэцэпту У. Саламахі, які ён, дарэчы, беражэ і сёння, дзелячыся вялікай тайнай толькі па даверы і сяброўстве, удаліся на славу: хрумсткія, крамяныя, без ніякіх адзнак пякучага млечнага соку. У той, цяпер ужо далёкі, год аднойчы ў Вязынку я паехаў электрычкай адзін. Саламаха быў заняты, а Стрыжак здаволіўся і першым разам: у лесе адстаў ад кампаніі, згубіўся сярод хвояў і бяроз, выйшаў у нейкім пасёлку на гасцінных дачнікаў і вярнуўся дамоў з вядром чырвоных памідораў. У маляўнічым Купалаўскім запаведніку ўжо стаяла глыбокая восень, дык якія тут могуць быць чорныя грузды, калі імжыць халодны дождж, і я, не дужа пазіраючы пад ногі, ішоў і больш паглядаў на хмурнае неба. Раптам мяне як што скаланула, болем аддалося ў сэрцы: нізка над паэтавымі дубамі пралятаў запознены гусіны клін, і мне стала не па сабе ад таго, што ў чарадзе ляцела на поўдзень усяго толькі сем дзікіх гусей. Калісьці, у сваім дзяцінстве, я назіраў і намнога большыя вырай: па трыццаць-сорак птушак у адным шнуры. Гэтыя ж шэрыя гусі, якія ляцелі над Вязынкай, прыбаўлялі самоты нават тым, што, слаба ўзмахваючы крыламі, яны зацята маўчалі, не выдаючы ні гуку, пакуль зусім не зніклі дзесьці за вастраверхімі макушамі дрэў. Вакольны лес мяне ўжо не цешыў, хоць зрэдку пад чырвонымі калінамі ды арабінамі трапляліся і чорныя грузды, і нават белыя праўдзівікі. Сем гусей — лічба не сатанінская, хутчэй недавер да яе ідзе ад фальклору, ад народных казак і песень, таму, не зважаючы на калінавую і рабінавую ірдзень, я гэтак жа моўчкі, як і гусі, вяртаўся на станцыю, а вусны шапталі маркотныя рыфмаваныя радкі. Вось гэты мой верш цалкам, і я ніколі не забываю, што з'явіўся ён іменна ў Вязынцы, на той благаслаўлёнай зямлі, дзе прайшло нялёгкае дзяцінства вялікага песняра Беларусі:

*Азалела чырвань на каліне,*
*Ды і дождж ужо не грыбасей.*
*Сёння з болем у пралётным кліне*
*Налічыў я толькі сем гусей.*

*Рэч не ў тым, што шэрыя нябёсы,*
*І не трэба сумных мне сустрэч;*
*Праплываў у крыўдзе жур бялёсы,*
*Ды маўчаў, і вось у гэтым рэч.*

*Тут, за Вязынкаю, на пагорках,*
*Дзе стаяць Купалавы дубы,*
*Як убачыў — уздыхнуў я горка:*
*Крыл узмах павольны і слабы.*

*Дай вам Бог вярнуцца без урону,*
*Ды крычы ж, важак, перад людзьмі!*
*Будзе сніцца мне цяпер да скону*
*Клін гусіны лікам да сямі.*

Пра Янку Купалу, паэта-рамантыка, паэта-прарока, створана багатая навуковая літаратура — артыкулы, дысертацыі, цэлыя кнігі, але, як мне здаецца, зусім мала напісана пра цеснае, крэўнае яднанне ягонай Музы з роднай прыродай. Між тым у прыродзе ён жыў, адпачываў збалелай душою, і родная прырода, той жа лес, гоні і разлогі лячылі паэта ад нуды, ратавалі ад горкіх дум і маркоты. Бацькоўскай зямлі з сыноўняй удзячнасцю Янка Купала прысвяціў мноства сваіх лірычных шэдэўраў. Так, у вершы “У вырай”, які цытаваўся вышэй, звяртаючыся да пералётных птушак, Пясняр знаходзіць ёмістыя, афарыстычныя словы: “Вы не ўмееце йшчэ, гусі, выракацца Беларусі…”



*Фрагмент выстаўкі, падрыхтаванай супрацоўнікамі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.*

**Споўнілася 100 гадоў з часу напісання першай п'есы Янкі Купалы — славутай "Паўлінкі", якую ён завяршыў 3 чэрвеня1912 г. Яна ўвайшла ў залаты фонд сусветнай літаратуры і стала візіткай беларускага сцэнічнага мастацтва. Вядома, творы, як і людзі, маюць сваю гісторыю, перажываюць узлёты і цяжкасці.**

# Сцэнічны шлях славутай п'есы

**Дар'я ЗЕНЧАНКА, фота Кастуся Дробава і Святланы Берасцень**

Нарадзілася славутая камедыя ў адной з маляўнічых мясцін Беларусі, у вёсцы Акопы, што на Лагойшчыне. Сюды пясняр прыязджаў з Пецярбурга, Вільні, Мінска да маці і сясцёр, каб адпачыць. Прыроднае хараство краю, каларытныя мясцовыя жыхары, якія ярка ўвасаблялі тыповыя якасці беларускага народа, натхнялі Янку Купалу на творчасць. Паводле сведчання сястры паэта, Ганны Дамінікаўны Луцэвіч, ён пісаў сваіх персанажаў з канкрэтных людзей, у кожнага з герояў п'есы быў рэальны прататып. Так, сустрэчы з ганарыстым шляхцюком Павелкам Ваяводскім паспрыялі стварэнню вобраза Адольфа Быкоўскага. Заможны селянін Гілярый Аблачымскі стаў прататыпам Сцяпана Крыніцкага, а яго дачка — прыгажуня Ядзя — прататып Паўлінкі. Стрыечны брат дзяўчыны настаўнік Мечыслаў Багдановіч, які быў закаханы ў яе, — правобраз Якіма Сарокі.

Камедыя была надрукаваная ў Санкт-Пецярбургу ў 1913 годзе. Яе аўтар увасобіў не "робленыя", схематычныя, а жывыя вобразы беларускай вёскі пачатку ХХ стагоддзя. Гэтым п'еса зацікавіла культурна-асветніцкія згуртаванні беларусаў. Упершыню "Паўлінка" была пастаўленая 27 студзеня 1913 г. Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні (рэжысёр А. Бурбіс), пра што паведаміла "Наша Ніва". У тым жа годзе адбылася прэм'ера і ў Санкт-Пецярбургу. У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі знаходзіцца фотаздымак, на якім адлюстраваны Янка Купала сярод удзельнікаў навукова-літаратурнага таварыства студэнтаў Санкт-Пецярбурскага ўніверсітэта пасля паказу "Паўлінкі". Увесну 1917 г. артысты Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, створанага акцёрам і рэжысёрам Фларыянам Ждановічам, прадставілі камедыю мінскаму гледачу. Яна неаднаразова ставілася ў Асіповічах, Бабруйску, Жлобіне, Магілёве, Оршы, Радашковічах, Слуцку, іншых мястэчках і гарадах. А 17 верасня 1920 г. п'еса ў дапрацаваным выглядзе была паказаная Беларускім дзяржаўным тэатрам. Твор трактаваўся пераважна як побытавая гісторыя. У 1927-м рэжысёр Е. Міровіч аднавіў пастаноўку "Паўлінкі", звярнуўшы ўвагу на сацыяльны змест п'есы. Ставіла "Паўлінку" і трупа беларускіх артыстаў пад кіраўніцтвам У. Галубка.



*На святкаванні 125-годдзя Янкі Купалы сцэна са спектакля "Паўлінка" была паказана акцёрамі-купалаўцамі Юліянай Міхневіч і Арнольдам Памазанам ля помніка песняру ў сталічным парку.*

Неўзабаве пасля свайго з'яўлення "Паўлінка" набыла папулярнасць і ў аматарскіх калектывах. Вылучаліся яе пастаноўкі ў Аршанскім народным тэатры льнокамбіната, Мазырскім, Пінскім, Слонімскім, Лідскім ды некаторых іншых народных тэатрах. Беларускімі культурнымі гурткамі "Паўлінка" ставілася на розных сцэнах: у 1922-м яна была ў Дзвінскай (г. Даўгаўпілс), праз год — у Люцынскай (Латвія) беларускіх гімназіях. У 1927 г. "Паўлінку" паставіў Беларускі народны тэатр у Вільні, праз год — Беларускі народны тэатр у Рызе.

Са згортваннем працэсаў беларусізацыі ў нашай рэспубліцы "Паўлінка" на доўгі час была выключаная з рэпертуару беларускіх тэатраў з прычыны… нерэвалюцыйнасці яе зместу. Аднак у 1936 г. яе паставіў у БДТ-2 рэжысёр П. Малчанаў. У п'есу ўнеслі некаторыя праўкі, накіраваныя на тое, каб паказаць класавую барацьбу ў беларускай вёсцы ў даваенны час. Так, у прыватнасці, была ўведзеная ў тэкст "Песня пра Сокала" М. Горкага, якую ў першым акце чытаў Якім Сарока.

У 1944 г. рэжысёр Л. Літвінаў паставіў славутую п'есу беларускага класіка ў г. Томску, дзе Купалаўскі тэатр знаходзіўся ў эвакуацыі. Спектакль парадаваў гледачоў і, магчыма, дазволіў ім хаця б часова забыцца на жахі вайны. З таго часу "Паўлінка" захоўваецца ў рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і паводле традыцыі адкрывае кожны яго сезон. А ў музейных экспазіцыях можна ўбачыць здымкі акцёраў, якія ігралі ў тым самым, літвінаўскім, спектаклі, — унікальныя фотадакументы сярэдзіны 1940-х — 1980-х гадоў.

З 1950-х пачынаецца новае жыццё "Паўлінкі" на сцэнах Беларусі. Так, у 1952 г. у зборным спектаклі "Вечар беларускай камедыі" Пінскага абласнога драматычнага тэатра была прадстаўлена і "Паўлінка". У 1979 г. яе паставіў Гродзенскі абласны драматычны тэатр, а ў 1992-м —абласны драмтэатр Гомеля. У 1970-я гады паводле "Паўлінкі" была створана аднайменная аперэта Ю. Семяняякі (лібрэта А. Бачылы), якая ішла ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР.

Мастацкую каштоўнасць Купалавага твора пацвердзілі яго пастаноўкі за мяжой. Так, у 1949 г. ён быў пастаўлены Мастацкім тэатрам імя Я. Райніса ў Рызе, у 1969 г. — Новамаскоўскім тэатрам. Да 100-годдзя Янкі Купалы "Паўлінку" паставіў Кіеўскі тэатр імя І. Франка (рэжысёр В. Раеўскі).

Вось такая сцэнічная гісторыя неўміручай "Паўлінкі". Будзем чакаць яе працягу.

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА, фота Віктара Кавалёва**

Прэм'еру гусарскага вадэвіля "Сапраўдная гісторыя паручніка Ржэўскага" пакажа паслязаўтра Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Днямі тут прайшла канцэртная прэс-прэзэнтацыя новага спектакля. Яго рэжысёр С. Цырук, дырыжор Ю. Галяс,



*Артыстка БДАМТ, лаўрэат нацыянальнага конкурсу Вікторыя Жбанкова-Стрыганкова (выканаўца ролі Глафіры), адзначаная сёлета "Крыштальнай кветкай" — найвышэйшым прызам Беларускага саюза тэатральных дзеячаў за лепшы дэбют.*

балетмайстар А. Дзмітрыева-Лаўрыновіч распавялі пра асаблівасці пастаноўкі, супрацоўніцтва з расійскім кампазітарам У. Баскіным. А выступленне артыстаў, якія разважалі пра сваіх персанажаў, выконвалі эфектныя вакальныя фрагменты са спектакля, не раскрываючы ўсіх тонкасцей яго інтрыгі, сталася "цвікам" прэзэнтацыі.

Выстаўка "Мастакі на вайне" з фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа і прадстаўляе графічныя работы, сюжэтныя замалёўкі, партрэты, сатырычныя плакаты, карыкатуры 1943 — 1945 гг. Іх аўтары — мастакі, якія ў той час былі на фронце і ў партызанскіх атрадах на Віцебшчыне, удзельнічалі ў яе вызваленні. Работы М. Абрыньбы, М. Гуціева, У. Кліпеля, А. Мазалёва, А. Ткачонка ўспрымаюцца як жывое, а таму асабліва праўдзівае і кранальнае сведчанне падзей, напоўненых трагізмам і духоўнай веліччу, гераізмам і верай у Перамогу.

Гомельскі палацава-паркавы ансамбль распачынае серыю канцэртаў у межах праекта "Летнія музычныя асамблеі". Выступленні музыкантаў будуць ладзіцца на Білецкім спуску набярэжнай ракі Сож. Праграма першага канцэрта, які адбудзецца 8 ліпеня, падрыхтаваная Эстрадна-сімфанічным аркестрам Гомельскай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам маэстра С. Шныра.

Інтэграваны тэатр "Мімоза" пад кіраўніцтвам В. Прохаравай у хуткім часе стане героем новай дакументальнай стужкі Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". На экран абавязкова трапяць і эпізоды нядаўняй творчай вандроўкі. А пабывала "Мімоза" на 1-м Міжнародным дабрачынным фестывалі вулічных тэатраў у Яраслаўлі (Расія). Нашы артысты паказалі спектакль "Дыхай са мной" і паўдзельнічалі ў карнавальным шэсці да вулічных імпрэзах. Сярод унікальных калектываў, якія прадстаўляюць творчасць людзей з абмежаванымі магчымасцямі, былі тэатры, клубы гістарычнай рэканструкцыі, фаеркаманды з Расіі, Украіны, а з Беларусі, апроч "Мімозы", — магілёўскі тэатр-студыя глухіх "Шостае пачуццё" (рэжысёр Ж. Мельнікаў).

# Партрэты з натуры

**100 гадоў споўнілася з дня нараджэння мастака Генрыха Бржазоўскага. Неацэнная старонка яго творчай спадчыны — партрэты творчых асоб і грамадскіх дзеячаў, знакавых для Беларусі, напісаныя з дакументальнай дакладнасцю, нярэдка з натуры. А купалаўская тэма вылучаецца на гэтай старонцы як асноўная. І не выпадкова.**

**Галія ФАТЫХАВА**

Ён з дзіцячых гадоў ведаў сям'ю Янкі Купалы — жылі яны ў адным двары па Садова-Набярэжнай вуліцы ў Мінску. Але больш блізкае знаёмства са славутым суседам адбылося тады, калі Генрых Бржазоўскі адчуў сябе мастаком. Перш чым узяцца за працу, ён вывучаў, запамінаў да драбніц усё, што заўважаў пры сустрэчы з паэтам, шмат чытаў яго вершаў, імкнуўся пазнаёміцца бліжэй, каб спасцігнуць характар, няспешна выношваў вобраз таго, каго марыў адлюстраваць на палатне.

"Каб пісаць, трэба любіць, а каб любіць, патрэбна пазнаць", — гаварыў мне ўжо сталы мастак, распавядаючы пра далёкі даваенны час, калі ў яго наладзілася шчырае сяброўства з сям'ёй Янкі Купалы. Тыя цёплыя ўражанні ды пачуцці ўвасобіліся ўрэшце ў палотнах "Сустракаюць гасцей", "Янка Купала са сваёй маці", якія хваляюць высакароднасцю задумы і шчырасцю жывапісных інтанацый. Карціну "Янка Купала на беразе Свіслачы" (другая назва "Я. Купала на Садова-Набярэжнай падчас адпачынку") Генрых пісаў у час адпачынку і натхнення паэта. Пісаў з натуры. Маляваў не буйнымі, кідкімі мазкамі, а нібы паступова выкрышталізоўваў выяву, суадносячы яе з уражаннямі ад асабістых сустрэч. Ён імкнуўся перадаць на палатне стан збалелай і пакутнай душы паэта ў тыя хвіліны, калі ён заставаўся сам-насам з прыродай у маляўнічым кутку па-над Свіслаччу, дзе так любіў гуляць. (Гэтая карціна знаходзіцца ў Пухавіцкім краязнаўчым музеі).

"Янка Купала і Якуб Колас" — таксама работа з натуры: паэты пазіравалі жывапісцу, размаўлялі пра сваё, а той слухаў і маляваў. Напісана Генрыхам Бржазоўскім нямала партрэтаў сямейнікаў Купалы: сяброўства з пляменніцай паэта дазваляла быць заўсёднікам гэтага гасціннага дома, а таму партрэты атрымліваліся праўдзівыя і цёплыя.



*Генрых Бржазоўскі "Янка Купала на беразе Свіслачы".*

Значны ўнёсак у беларускую культуру зрабіў гэтымі ды шматлікімі іншымі сваімі творамі мастак Генрых Бржазоўскі, якому пашчасціла на добрае суседства са славутым народным песняром.

# Рэха незабытай малітвы

**На тры з паловай дзясяткі гадоў гэты твор знік з нашай музычнай прасторы. Пра яго ўспаміналі толькі тыя, каму пашчасціла перажыць узрушэнне ад той незвычайнай і ўжо далёкай прэм'еры. Але сёлетняй вясной перапоўненая зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі вітала другое нараджэнне легендарнай "Песні пра долю".**



*Артысты "Песняроў" — удзельнікі прэм'еры "Песні пра долю".*

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Яшчэ нямала сярод нас тых, каму запомнілася гучная прэм'ера, што адбылася ў маі 1976 года: рок-опера Уладзіміра Мулявіна "Песня пра долю". Відавочна, што заснавальніка і лідара "Песняроў" натхнілі на задуму гэтага маштабнага твора глыбокая філасофская метафарычнасць, своеасаблівая мелодыка і жывы пульс Купалавай паэмы "Адвечная песня". Лібрэта напісаў музыкант ансамбля Валерый Яшкін. У вакальную палітру ўпершыню дадаўся жаночы голас, і ў склад выканаўцаў увайшла першая і адзіная ў гісторыі "Песняроў" спявачка — Людміла Ісупава. Смелы для свайго часу эксперымент У. Мулявіна знайшоў падтрымку ў шматлікіх аднадумцаў, але кагосьці, вядома, і збянтэжыў. Рок-опера пратрымалася ў рэпертуары да 1978 года, і з таго часу пра яе нагадвалі толькі радкі гісторыі ансамбля ды біяграфіі яго геніяльнага кіраўніка.

Адраджэнне мулявінскай "Песні пра долю" як фолк-оперы сталася не толькі выбітнай падзеяй сёлетняга сталічнага канцэртнага сезона і годным падарункам да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, але і гістарычнай падзеяй у айчыннай культуры. Гэту падзвіжніцкую працу (калі не сказаць адным словам — подзвіг) здзейсніла вялікая група энтузіястаў. Сярод іх музыканты Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча на чале з мастацкім кіраўніком Міхасём Казінцом, салісты-спевакі ды піяністы, мужчынская група Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі імя Р. Шырмы (хормайстар Павел Сопат), фальклор-тэатр "Госьціца", рэжысёр і харэограф Ларыса Сімаковіч, сцэнограф Ірына Мазюк, мастак па святле Міхаіл Ангерт.

Асноватворная роля была ў музыканта аркестра Аляксандра Крамко, які ажыццявіў рэканструкцыю партытуры і аркестроўку. Ні нот, ні студыйных запісаў колішняй "Песні пра долю", ні тэлевізійных здымак ці хоць бы прафесійных фанаграм, зробленых па трансляцыі, не захавалася. Знайшлі толькі аматарскі, тэхнічна недасканалы аўдыёзапіс з канцэрта. Праслухоўваючы яго, А. Крамко аднаўляў партытуру "Песні пра долю" і адначасова рабіў яе пераладжэнне для ўнікальнага складу выканаўцаў: народнага інструментарыя, вакальнай групы, салістаў.

> *"Касмічнай малітвай за беларускі народ назваў "Песню пра долю", створаную У. Мулявіным паводле ранняй лірыкі і паэмы "Адвечная песня" Янкі Купалы, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан.*

У новай рабоце аркестра і яго спадзвіжнікаў ёсць што аналізаваць мастацтвазнаўцам, эстэтыкам, філосафам. Але галоўнае — ёсць чым захапляцца і пра што разважаць беларускаму глядачу, звычайнаму чалавеку, за якога маліўся Купала, да якога, услед за паэтам, звяртаўся Мулявін і чые ідэйныя ды творчыя памкненні рэхам азваліся ў сёлетняй прэм'еры. Нябесныя народзіны Чалавека і яго непазбежнае сыходжанне на зямлю, на пакуты і радасці ў кругабегу жыцця, неад'емнага ад спрадвечнай цыклічнасці руху ў прыродзе. Чалавек. Беларус. З яго лірычнай душой, вясёлым і дасціпным норавам, з яго крыўдамі, маўклівай нязгодай, трагічнай пакорай. Жанчына. Маці. Жонка. Захавальніца загадкі чалавечага існавання. Увасабленне мудрасці быцця, яна снуе чырвоную нітку жыцця і не лямантуе, не енчыць, а горка і гучна ўздыхае: "Ой, доля ж мая, доля!"

Касмічнай малітвай за беларускі народ назваў "Песню пра долю", створаную У. Мулявіным паводле ранняй лірыкі і паэмы "Адвечная песня" Янкі Купалы, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан. Вучоны пісаў: " Няма ў драме-містэрыі "Адвечная песня" псіхалагічна індывідуалізаваных персанажаў, дзейнічаюць касмічныя і прыродныя сілы (Жыццё, Голад і Холад, Вясна, Лета, Восень, Зіма, міфалагічныя персаніфікацыі спрадвечнага Кону (Доля, Бяда, Жыццё). А ў цэнтры гэтых алегорыяў абагулены вобраз Мужыка, ягонай Маці — сімвалы беларускага народа, яго лёсу ў стане забранай краіны, пазбаўленай нацыянальнай волі".

Дух, стыль, сімволіка, сучаснае гучанне Купалавай паэзіі знайшлі годны адпаведнік у багатай аркестравай палітры, у вакальных характарыстыках, у балансе імпульсіўнай рэчытацыі ды шырокага распеву, брутальнай (або прыхаванай пад маскаю лісліваці) агрэсіі дэманічных сіл, у пластыцы мізансцэн, у трапным выкананні.

Вобраз Янкі Купалы ўвасобіў Пётр Ялфімаў, у ролі Мужыка — Ян Жанчак. Сапраўдным адкрыццём прэм'еры сталася арганічнае вакальнае і акцёрскае ўвасабленне вобраза Маці, Жонкі салісткай БДАМТ Кацярынай Дзегцяровай. Яркія галасавыя фарбы знайшлі выканаўцы алегарычных персанажаў — Паравін года, Ценяў: Вясна, Голад — Ягор Алесіюк, Лета, Холад — Андрусь Данілевіч, Восень, Доля — Сяргей Савіцкі, Зіма, Бяда — Уладзіслаў Даніловіч, Жыццё — мужчынская група шырмаўскай капэлы...

*Праект ажыццёўлены пры дапамозе спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы дзеячаў культуры і мастацтва, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры краіны.*

# Апладысменты!

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

На пачатку лета спектаклю "Тутэйшыя" Гродзенскага абласнога тэатра лялек апладзіравала замежная публіка. Пастаноўка неўміручай Купалавай п'есы была паказана ў расійскім горадзе Калінінградзе на III міжнародным фестывалі лялечных тэатраў "Петровский балаган". Узрадаваныя поспехам свайго выступлення гродзенцы даслалі ў "ЛіМ" вось гэты водгук, якім падзяліўся галоўны рэжысёр Калінінградскага абласнога тэатра лялек Дзмітрый Смагін: "Цяжка даць веры, але гэтай пастаноўцы пайшоў 21-ы год. Я заўсёды з пэўнай насцярожлівасцю стаўлюся да спектакляў-доўгажыхароў. Баішся напаткаць у іх, скажам так, "сляды распаду і цвілі". Але тут усё па-іншаму. Спектакль аказаўся настолькі свежы! Акцёры з такім энтузіязмам, з такой любоўю яго ігралі! Ну проста школа «Камедзі Франсэз»!"

Сёння ўвечары Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ладзіць імпрэзу, прысвечаную 10-годдзю спектакля "Адвечная песня", створанага паводле аднайменнай паэмы Янкі Купалы. У гэтай пастаноўцы Сяргея Кавальчыка ўдзельнічае амаль уся трупа тэатра, а галоўныя ролі выконваюць яго вядучыя майстры Ігар Сігоў і Таццяна Мархель. Відовішчны, каларытны і надзвычай сучасны сцэнічны аповед пра лёс беларуса і шлях Беларусі "Адвечная песня" атрымаў прызнанне ў айчыннага гледача і неаднойчы выклікаў авацыі на міжнародных форумах і замежных гастролях. Дыплом лаўрэата ў намінацыі "Лепшы спектакль фестывалю" знакавая для РТБД пастаноўка атрымала на "Славянскіх тэатральных сустрэчах" у Гомелі. "Мельпамена Таўрыі" (г. Херсон, Украіна) узнагародзіла Ігара Сігова, выканаўцу ролі Мужыка, дыпломам "За сцэнічнае ўвасабленне глыбіні славянскай душы", а ўвесь калектыў — "За акцёрскі ансамбль". На міжнародным фестывалі "Голоса истории" (г. Волагда, Расійская Федэрацыя) гэтая работа беларускага тэатра заваявала Гран-пры.

Да сённяшняга святочнага вечара, як паведамілі нам з РТБД, падрыхтаваны спектакль-канцэрт, дзе будуць і ўрыўкі з "Адвечнай песні", і канцэртныя нумары, і выступленні сяброў тэатра.

# Блуканні генія па кругах бальшавіцкага раю

**Сёлета ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі адбылася прэм'ера спектакля "Янка Купала. Кругі раю", прымеркаванага да 130-й гадавіны з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.**

**Ягор КОНЕЎ, фота Аляксандра Дзмітрыева**

Аўтар і рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Святлана Навуменка вызначыла для сябе складаную задачу: на працягу 80 хвілін сцэнічнага дзеяння прадставіць 40 гадоў жыцця Песняра, яго трагічнае суіснаванне з жахлівымі варункамі часу. Дзеля яе выканання С. Навуменка стварыла кампазіцыю, у якой вершы Купалы спалучаюцца з агучваннем фактаў яго біяграфіі, радкамі з лістоў, газетнай публіцыстыкай часоў Вялікага Тэрору. З насычанай драматычнымі калізіямі біяграфіі народнага паэта (яго бліскуча іграе Дзяніс Паршын) аўтар спектакля найперш вылучыла лінію супрацьстаяння паэта крывадушнай уладзе Саветаў. У гэтым паядынку паэт пераможаны. Спачатку пад ціскам ДПУ ён гіне маральна, а потым і фізічна.

Іншыя важныя этапы жыцця Купалы таксама не ігнаруюцца. Так, у момант яго нараджэння вакол немаўляткі кружляюць чараўніцы (безумоўная згадка персанажаў п'есы Уладзіміра Караткевіча "Калыска чатырох чараўніц"), якія прадказваюць дзіцяці вялікую славу і выпрабаванні. Пра незвычайную ў народным календары ноч нараджэння Івана Луцэвіча сведчыць выява на адмысловым драўляным слупе, які ўзвышаецца пасярод сцэны на працягу ўсяго дзеяння. Гэты сімвалічны помнік спалучае рысы і старажытнага боства, і знак лёсу Песняра.

Не зусім гістарычна дакладныя ідылічныя стасункі сцэнічнага Купалы з роднай маці — Бянігнай Іванаўнай. У эпізодзе, датаваным 1915-м годам, Паэт жаліцца матулі, што наўпаэта і не дужа ганарылася яго поспехамі. Сцэнічная размова паміж Маці і Паэтам больш пасавала б яго стасункам з каханай Уладзіславай, будучай жонкай. Сцэна іх шлюбу з'яўляецца апафеозам першага акта. Тады ж паэт агучвае і сваё ідэйнаграмадскае крэда, якое груну-



*Сцэна са спектакля "Янка Купала. Кругі раю".*

рад ці сустрэне такую маладзіцу, якая пакахае яго, як маці кахала бацьку. Насамрэч маці Купалы да самай смерці не даравала сыну тое, што ён у дваццаць гадоў сышоў з дому і замест працы на гаспадарцы заняўся глупствам — вершы складаў. Бянігна Іванаўна не ўспрымала сына як

ецца на амаль што містычнай веры ў надыход улады народа і для народа. Менавіта такой падае сябе бальшавіцкая ўлада: яе вобраз апаноўвае сцэну грукатам ботаў, вялізным чырвоным сцягам і дэкларатыўнай патэтыкай, якая напачатку зачароўвае Купалу. Расчараванне надыходзіць хутка: тыя чырвонаармейцы, якія весела дэкларавалі волю ўсім прыгнечаным у свеце, гэтак жа бадзёра гвалтуюць Жняю пад акампанемент вершаў часоў грамадзянскай вайны.

Перажытыя Купалам жах і расчараванне трансфармуюцца то ў вобраз прыстасаванца Зносака з п'есы "Тутэйшыя", то ў радкі перадсмяротнага ліста, то ў вершаваныя ўслаўленні кампартыі ды яе правадыра. Чалавечы гонар і пачуццё ўнутранай свабоды генія нетаропка і паслядоўна топча Прадстаўнік улады (артыст Аляксандр Марчанка), які змяняе абмундзіраванне (ад чорнага дарэвалюцыйнага фрэнча да скуранкі супрацоўніка НКУС), але не адступае ад гвалтоўнай сутнасці паводзін і мэты — трансфармацыі таленту ў беззаганны элемент дзяржаўнага механізму. Паэта натуральным чынам дрэсіруюць: маральныя здзекі на допытах і цкаванне ў друку спалучаюцца з уручэннем прэміі, ордэна і прызначэннем пенсіі. Урэшце супрацьстаянне паміж націскам улады і сумленнем Паэта дасягаюць той найвышэйшай прыступкі, дзе Купала ўжо не мог утрымацца. І яго палёт з лесвіцы ў гасцініцы "Масква" выглядае не забойствам ці новай спробай самагубства, але адзіным магчымым выйсцем са становішча, калі голас Паэта яму ўжо не належаў. Пэўна, таму гэтак сумна гучыць сапраўдны голас Янкі Купалы ў радыёзапісах трагічных трыццатых гадоў.

Аднак фінал спектакля жыццярадасны: героі спяваюць верш пра Песняра, з якім Купала заўсёды атаясамліваў сябе. І гэта яскрава сведчыць: мы любім і шануем народнага паэта за яго творчасць, якая сталася асновай і апірышчам не толькі нашай літаратуры, але і нашай нацыі.

Тым, хто ведае акалічнасці жыцця Купалы, спектакль дае метафарычную ілюстрацыю асноўных этапаў яго біяграфіі. У тых, хто мала ў ёй дасведчаны, можа абудзіцца цікавасць да творчасці героя пастаноўкі. Акрамя таго, што відовішча атрымалася дынамічным і ўспрымаецца, так бы мовіць, на адным подыху, безумоўным здабыткам гэтай работы тэатра з'яўляецца музычнае афармленне. Для маладога кампазітара Віталя Суддзіна праца над "Янкам Купалам" — тэатральны дэбют. Яго музыка надзвычай сугучная прыгажосці Купалавых радкоў, якія прамаўляюць і спяваюць персанажы. Нельга не парадавацца, што на прафесійнай сцэне загарэлася новая музычная зорка.

Дзесяць гадоў таму РТБД прымеркаваў да 120-годдзя Купалы спектакль "Адвечная песня", у якім журботная паэма ператворана ў феерыю, дзе спалучыліся элементы мюзікла, побытавай драмы і вясковага карнавалу. "Адвечная песня" і цяпер застаецца дыяментам у рэпертуары тэатра. Хочацца верыць, што і спектаклю "Янка Купала. Кругі раю" наканаваны шчаслівы сцэнічны лёс.

# Асэнсаванне адзіноты

**Монаспектакль "Мне сняцца сны аб Беларусі" паводле твораў Янкі Купалы Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" паставіў у кастрычніку 1989 года. Унікальны сцэнічны твор, які ўжо без малога чвэрць стагоддзя жыве ў нашай літаратурна-мастацкай прасторы, уключаны ў праграму ўрачыстага святкавання 130-годдзя Янкі Купалы. А не так даўно адбыўся яго паказ у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Аўтар і выканаўца паэтычнага монаспектакля "Мне сняцца сны аб Беларусі" — дырэктар-мастацкі кіраўнік тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева, рэжысёр пастаноўкі — Вольга Клебановіч, музычнае суправаджэнне — гітарыст Кірыла Успенскі.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Малавядомыя і не друкаваныя пры жыцці паэта вершы, радкі яго біяграфіі, што для некалькіх пакаленняў заставаліся па-за межамі школьных падручнікаў і хрэстаматый; лісты, газетныя публікацыі 1930-х гадоў, архіўныя дакументы, якія толькі на схіле мінулага стагоддзя адкрыліся чытачу... Усё гэта Галіна Дзягілеваператварыла ў складаны і пранізлівы лірыка-драматычны маналог, што доўжыцца крыху больш як гадзіну. Актрыса, у чыёй таленавітай натуры спалучаюцца магутная творчая энергія і душэўная чуласць, здатная напоўніцу пражыць лёс незвычайнага сцэнічнага героя, захапіць і перакanaць гледача эмацыянальна асэнсаванымі фактамі. Прытым кожны Купалаў верш паўстае радком яго біяграфіі — апаэтызаваным, кранальным, іранічным, дасціпным, суровым або трагічным, а празаічныя адступленні ды каментарыі набываюць вобразную моц мастацкага слова.

Вершы "Дабро і зло", "На суд", "Калыхала маці сына", "Забытая скрыпка"... Радкі-метафары, радкі-афарызмы,



*Актрыса Галіна Дзягілева ў монаспектаклі "Мне сняцца сны аб Беларусі".*

радкі-прыпавесці: "Не дайце згінуць песняру"; "Гнаў каршун верабейку. Галасіла жалейка"; "Не будзеш песняй сыт адной"; "Увесь да дна трэба выпіць свой келіх жыцця", "Я не плачу па родным народзе"; "А суд гісторыі цяжкі"... І вось гэта:

*...бусел адзін стаіць хмуры, —*
*Яго аднаго ўсе неяк забылі,*
*Адзін ён не змесціўся ў шнуры...*

Ці гэта:

*Адзін грэх толькі лёг мне на душу, як леў,*
*Праступак, суддзі, мой: я сэрца, сэрца меў!*
*Але ці ж гэта так страшэнная віна?!*

Музыку маналога раз-пораз падхоплівае ў паўзах ціхі, але шматзначны кантрапункт — гітарныя інтэрмедыі Кірыла Успенскага. Так-так, спектакль можна слухаць, як музыку, нават прымружыўшы вочы. І хаця Галіна Дзягілева скарыстоўвае пэўны рэквізіт ды акрэсліцае выразны вонкавы малюнак сцэнічнага існавання, актрыса нібы застаецца сам-насам з Купалам. Такім чынам усё тут вызначаюць яго Слова і яе Голас. Шырокі дыяпазон, багацце тэмбравай палітры ды інтанацыйных нюансаў: можна сказаць, што выканаўца трапна іграе на струнах уласнага голасу, які гучыць то светлай кантыленай, то адчайным літаннем, то трапяткой калыханкай, то асцінатнай меладэкламацыяй, то цяжкім стогнам, то ўзнёслай малітвай.

Спектакль дае магчымасць "сэрцам убачыць" трагічную сутнасць унікальнай асобы народнага паэта, песняра і рыцара беларускасці, беларусаў, Беларусі. Удумлівы глядач можа прасачыць унутраны шлях творцы: ад замілаванасці жыццём да праклёну нялюдскіх парадкаў, ад усеагульнага энтузіязму да самоты, ад пяшчотных настрояў да горкага сарказму, ад падманлівай захопленасці да расчараванняў, ад спробы кампраміссаў да знявaжлівага пакаяння, ад пошуку душэўнага замірэння да роспачы і трагічнага сыходу. А ёсць яшчэ і аптымістычны эпілог, у якім гучыць шчырая ўдзячнасць паэту-класіку, якога памятаюць і шануюць людзі новага часу.

Паэтычны монаспектакль, які быў некалі адной з першых спроб у айчынным тэатральным мастацтве асэнсаваць "невядомага" Купалу, не страціў свайго глыбокага патрыятычнага філасофскага сэнсу, ідэйнай і эстэтычнай актуальнасці, агульначалавечай мудрасці. За час, што прамінуў з дня прэм'еры, узгадавалася новае пакаленне беларусаў. І маладыя людзі ў зале (ды і сталая публіка) захоплена слухаюць сцэнічны маналог, які вядзе іх да разумення адвечнай драмы паэта-празорцы, бескампраміснага шукальніка праўды і прыроджанага рамантыка, асуджанага на канфлікт з рэальнасцю і непазбежную адзіноту. А праз гэта дапамагае адчуць веліч нацыянальнага беларускага генія і ўсвядоміць яго патрыятычны подзвіг. Сапраўды, "Мне сняцца сны аб Беларусі" — вельмі важны напамін пра творчы і грамадзянскі подзвіг Янкі Купалы, дзякуючы якому наш народ спазнаваў уласную адметнасць і годнасць, вучыўся шанаваць роднае слова і шматвяковую культуру продкаў, ішоў да сённяшняй сваёй незалежнасці, да новай Беларусі, якая ўжо займае ў вялікім свеце "свой пачэсны пасад"...

# Слова Купалы да творчасці кліча

Пад такой добра знаёмай назвай выйшаў чарговы, восьмы, выпуск паэтычнага зборніка, у якім змешчаны вершы маладых паэтаў Міншчыны. Як і папярэдняй выданні, яго выпуск здзейснены дзякуючы руплівому клопату Упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама і Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна. Сёлета гэтае надзвычай цікавае выданне, як і абласны злёт творчай моладзі, былі прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, што надало злёту асаблівую прыўзнятасць і святочнасць.

"Прывет вам, вольныя паэты! Прывет вам ад душы ўсяе! Хай вашы песні з лета ў лета зямля Лагойская пяе", — значылася ў запрашальнай праграмцы, і маладыя паэты не без хвалявання дзівіліся, як гасцінна і ветліва прымала іх Лагойшчына. Першы дзень быў аддадзены творчым семінарам, якімі кіравалі вядомыя нашы творцы: Галіна Каржанеўская і Рагнед Малахоўскі, а таксама Віктар Шніп у пары са мною. Бурныя дыскусіі выявілі, што ў нашу паэзію ідзе таленавітая і вельмі цікавая моладзь, таму і пераможцаў на гэтым злёце аказалася на дзіва шмат. Гэта — Вікторыя Бепершч з Мядзельскага раёна, Ганна Маляўка са славутай Мікалаеўшчыны (Стаўбцоўшчына), Алесь Емяльянаў (Мінскі раён), Наталля Кузьміч з Барысаўшчыны, Зінаіда Кірнажыцкая (Клецкі раён), Ярына Лецка (Мінскі раён), Вольга Паўлюкевіч са Случчыны, Анастасія Андрыянава з Крупскага раёна, а таксама Алена Сяліцкая і Алена Новік, якія вельмі хораша прадставілі Дзяржынскі раён. Усе яны мелі магчымасць выступіць са сваімі вершамі на сцэне ў знакамітых Харужанцах — цэнтры Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка, адной з найпрыгажэйшых мясцін цудоўнага і такога непаўторнага ў сваім харастве Лагойскага краю. Удзельнікі злёту наведалі таксама філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы ў той жа вёсцы Харужанцы.

І як тут было не радавацца, што ў вялікага Песняра ёсць слаўны працяг, што на зямлі, дзе ім напісаны паэмы "Бандароўна" і "Магіла льва", драма "Раскіданае гняздо" і многія, многія дзясяткі вершаў, узнімаюцца ў сінь неба над Лагойшчынай такія звонкія і такія моцныя маладыя галасы, якія апяваюць і нашу Бацькаўшчыну, і веліч нашага мілагучнага беларускага Слова. У паэтычнае свята вельмі прыгожа ўпляталіся песні ансамбля "Шчодрыца", а ў руках у кожнага з удзельнікаў злёту паблісквай керамічны медалёк з партрэтам Янкі Купалы і надпісам на адваротным баку: "130-годдзе з дня нараджэння. 1882 — 2012".

**Раіса БАРАВІКОВА**

# Вершы ўдзельнікаў семінара маладых паэтаў Міншчыны

**Наталля КУЗЬМІЧ**
***Барысаўскі раён***

* * *

*Не спяшайся.*
*Сядай.*
*Памаўчы.*
*Мы не звязаны болей нічым:*
*Развязаўся ручнік вышываны,*
*Зажылі цудадзейныя раны,*
*Вочы згаслі, як сонца ўначы.*
*Пачакай.*
*Пасядзім. Памаўчым.*

*Мне прыемна*
*Сядзець проста так,*
*Не шукаць хвалявання адзнак.*
*Не чакаць*
*Ад цябе нават слоў,*
*Не пужаць тваім імем сяброў.*

*Ад сябе забіраю ключы.*
*Ты маўчыш.*
*Так і трэба. Маўчы.*

*Карані*
*Цэлы свет аплялі*
*і, куды ні зірні,*
*цягнуць сокі з зямлі*
*карані.*
*Барані*
*баразну сваім целам,*
*цяплей ахіні*
*і чакай — прарастуць*
*праз цябе карані*
*і далучаць цябе*
*да сябе. Да зямлі,*
*да сівой глыбіні.*
*А пакуль — барані.*

**Сяргей САДОЎСКІ**
***Валожынскі раён***

* * *

*Нібы рака,*
*што намывае*
*плёсы*
*і вечна застаецца*
*маладой,*
*старэюць —*
*і не старацца*
*нябёсы.*
*Ім так спрадвек*
*наканавана лёсам:*
*глядзець,*
*як раніцой траву*
*бурштыняць росы,*
*а вечарам —*
*дарыць душы*
*спакой.*

**Вікторыя ЖЫЛЯКОВА**
***Смалявіцкі раён***

### Чакаю…

*Прыйшла зіма. Зацерушыла сцежкі.*
*Абсыпала узлессі і палі.*
*А на акне мароз малюе квецень,*
*І падаюць сняжынкі-матылі.*

*Ты недзе там, за сотні кіламетраў,*
*А тут марозіць моцна па начах.*
*І дыхаць цяжка — колкае паветра,*
*І хутка сохнуць слёзы на вачах.*
*І хоць адна я — вытрымаць павінна.*
*Адчай і роспач ў кожным новым дні.*
*Вяртайся! Я чакаю ў той краіне,*
*Дзе падаюць сняжынкі-матылі…*

**Вікторыя МАТУСЕВІЧ**
***Капыльскі раён***

### Лялька Каця

*Спаць не хоча лялька Каця,*
*Усё тупае па хаце.*
*То смяецца, то злуе —*
*Да сябе мяне заве.*
*То ёй кніжку пачытай,*
*То загадку загадай,*
*То кіно ёй уключы,*
*То да сотні палічы.*

*Прапалоць мне трэба градкі,*
*На абед спячы аладкі,*
*Сустрэць карову з пашы,*
*Пагуляць з сяброўкай Сашай,*
*Куранятак пакарміць*
*Ды адной крыху пабыць.*
*Яшчэ прыбраць у хаце…*
*Як растлумачыць гэта Каці?*

**Зінаіда КІРНАЖЫЦКАЯ**
***Клецкі раён***

### Маме

*Спяшаешся гастрыць нажы,*
*Чакаеш доктара ў халаце.*
*На ампутацыю душы*
*Заўжды ідзеш, як крыўдзіш маці.*

*Ды застанецца ў сэрцы боль,*
*Не супакоіцца сумленне.*
*Гатовы б лыжкай есці соль,*
*Але не вернецца імгненне.*

*Адзін стаіш сярод мяжы,*
*Няўтульна стала ў роднай хаце,*
*На ампутацыю душы*
*Ідзеш заўжды, як крыўдзіш маці.*

**Кацярына БАБЛЕЎСКАЯ**
***Мінскі раён***

### Вяртанне

*Да маці у вёску прыехаў Алег.*
*Адразу на ганак свой родны пабег.*
*Сустрэлі яго Валянціна — сястра —*
*І ў белым халацiку медсястра.*
*"Што з мамаю, Валя?! Хутчэй адкажы…" —*
*Пытае сваячку.*
*"Яна на мяжы*
*Між смерцю жахлівай і светлым жыццём,*
*Зямлёй нашай роднай і небыццём.*
*Цябе ўсё чакае, браток даражэнькі,*
*Пытае:*
*"Дзе сын мой Алежак маленькі?"*
*Ён маці старую пазнаць ледзьве змог.*
*"Сынок мой прыехаў, пачуў мяне Бог!" —*
*Сказала яна. І заплакаў Алег.*
*Ён нібы ў дзяцінстве да маці прыбег.*
*"Дзе быў ты, мой родны, пятнаццаць гадоў?*
*Як добра, што зноў ты вярнуўся дамоў!"*

*Алег усё плача, яе абдымае,*
*Сляза па шчацэ ручаінкай збягае.*
*"Люблю цябе, мамачка, вельмі люблю*
*Мо лекі патрэбны? Я сёння ж куплю…"*
*Адказ яму — сумная матчына ўсмешка:*
*"Дзе ж быў ты раней, сыночак Алежка?!"*

**Ярына ЛЕЦКА**
***Мінскі раён***

* * *

*Што да мяне? Чарговы кекс і кава,*
*Гадзіна ночы, табурэт, піжама…*
*Сядзець на кухні і чытаць — таксама*
*Звычайная, будзённая праява.*

*І не здзіўляе больш ніякім чынам*
*Ніводнае з жыццёвых адхіленняў.*
*Чарговы крызіс творчых пакаленняў?*
*May be, на ўсё свае прычыны.*

*Ну вось, я пасталела год на трыццаць…*
*Ды што з таго? Усе старыя — дзеці.*
*Я ведаю, даўно няма ў свеце*
*Ні феяў, ні цудоўнасцей, ні прынцаў.*

*Ўсміхаешся? Ва ўсіх свае заганы.*
*Хай будзе так, як ёсць. Не адмаўляю.*
*Але на кубак восеньскага чаю*
*Цябе я запрашаю…*
*Ў Бараўляны.*

**Ігар КАНАНОВІЧ**
***Клецкі раён***

### Глуш

*Нешта беларускае, адвечнае*
*Ветрыкам адбыме сонны твар.*
*Глуш — але такая чалавечная!*
*Пуста? — Не. Раскрылены абшар…*

*Незамітусёная ваколіца*
*Дабрыню абудзіць у вачах.*
*То — нібыта сонечная школьніца,*
*То — нібыта маці ў гадах…*

*Снегам перамеценая вуліца.*
*Белыя іскрынкі пад нагой.*
*З харастом душа мая цалуецца!*
*Тут, як больш нідзе, дарэшты свой!*

**Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ**
***Слуцкі раён***

* * *

*а ўсё здаецца, што будзе так, як было:*
*і першы погляд уверх*
*і першыя рухі*
*і першыя словы*
*і цёплыя маміны рукі*
*і з покрывам гульні ў "шалаш" пад пісьмовым сталом*
*і драпіны*
*і сінякі*
*і падзенне з ровара*
*першы падручнік*
*і першы ў жыцці званок*
*і тупат па калідоры дзіцячых ног*
*з заняткаў на вуліцу*
*ці на сняданак — у сталовую*
*першыя вершы на памяць*
*і першы балет*
*і першая кніга, якая прымусіла плакаць*
*і першае вогнішча*
*ў першым паходзе з палаткай*
*з сябрамі на некалькі дзён —*
*(ў гэты лес, не далей)*
*і першыя вусны на вуснах*
*і дотыкі рук*
*і першая чырвань на твары*
*і першая страта*
*пражылі і мала яшчэ,*
*але ўжо так багата*
*а ўсё нам здаецца*
*стагоддзя да першых "даруй"…*

**Анастасія КУХАРЭНКА**
***Любанскі раён***

### Мы прыйшлі
***Трыпціх***

***I***

*Нашых сэрцаў жывых пасталелыя словы*
*Разляцяцца па свеце.*
*Мы дружна прыйшлі.*
*Не учора, не заўтра і не выпадкова*
*Мы прыйшлі, застаемся на гэтай зямлі.*

*Застанемся на гэтай зямлі на стагоддзі.*
*Нам карэнне не вырваць.*
*Крыніц не скарыць.*
*Мы святы божы скарб не згубілі ў дарозе:*
*Нам на мове сваёй на Судзе гаварыць.*
*Нам на мове сваёй*
*даць адказ перад Богам*
*За грахі і правіны, ману і хлусню.*
*У краіне нямой, дзе адчайных не многа,*
*Мы жыццём абаронім святыню сваю.*

***II***

*Вырашыць і выжыць. Вырвацца. Застацца.*
*Птахам апантаным узняцца на крыло.*
*Праз калючкі думак моташных*
*прадрацца*
*І ужо не трапіць болей у сіло.*

*Па-над краем зграяў, дзе асобна будзем,*
*Ў кросны лёсу ўправіць светлыя ніты.*
*Выткаць абярэгі і сабе, і людзям…*
*У кашулі белай да зямлі сысці.*

***III***

*А вы ідзіце падымаць крыжы,*
*Сваім жыццём сцвярджайце*
*праўды волю*
*І не чакайце іншай, лёгкай долі,*
*І не тачыце на кагось нажы.*

*Наступнікі убачаць: гэта вы.*
*Сярод раздраю, неспатольнай смагі*
*Вам нельга ні на крок паддацца страху,*
*Бо хто спалохаўся й стаміўся*
*— не жывы.*

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Вячка КРАСУЛІН, выпускнік БДУКіМ (спецыялізацыя "Этнафоназнаўства") разважае пра дударскую музыку як неад'емную частку беларускай этнічнай культуры:**

— Найстарэйшая беларуская дуда 1877 года знаходзіцца ў экспазіцыі Лепельскага раённага краязнаўчага музея. Але, на жаль, гэта адзіны аўтэнтычны інструмент, які захаваўся цалкам. Вядома, што дуду можна пабачыць яшчэ ў Санкт-Пецярбургскім этнаграфічным музеі, а мацянку (яе разнавіднасць) — у Літоўскім краязнаўчым музеі ў Вільнюсе.

Яшчэ ў 1930-я гады дуда была надзвычай папулярная, выканаўцаў на ёй савецкія ўлады ахвотна запрашалі на рэгулярныя выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскву. Аднак паступова гэты інструмент быў выцеснены з побыту вёскі гармонікам. Апошняе афіцыйна зафіксаванае выступленне дудара адбылося на фестывалі народнай творчасці ў Полацку ў 1951 годзе.

Можна сцвярджаць, што "жывая" традыцыя дударства (калі перайманне адбываецца "з рукі на руку", пры непасрэдным кантакце) амаль знікла ў 1950 — 1960-я гады. Далей пра дуду ў Беларусі амаль нічога не было чуваць да канца XX стагоддзя. Але дзякуючы намаганням майстроў музычных інструментаў У. Пузыні, У. Грома, В. Кульпіна, А. Лася, Т. Кашкурэвіча, А. Журы дуду вярнулі "да жыцця". У XXI стагоддзі з'яўляюцца новыя майстры і музыкі-дудары, якія спрыяюць адраджэнню дударскай традыцыі ў Беларусі. У 2007 годзе ў Маскве з фанографа былі алічбаваны запісы дудароў Сцяпана (Стахвана) Шахаўца і Фёдара (Хведара) Стэся, зробленыя ў 1931 годзе на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі. Помнікі аўтэнтычнай дударскай школы Беларусі часткова захаваліся сёння ў адносна добрым стане, іншыя патрабуюць узнаўлення.

Для рэканструкцыі і рэвіталізацыі дударскай традыцыйнай музыкі трэба карыстацца артэфактамі, якія фіксуюць аўтэнтычную традыцыю, выкарыстоўваць вопыт даследаванняў этнамузыколагаў. Гэта надзвычай важна, бо аднаўленне дударскай музыкі спрыяе захаванню нашага народа як этнічнай адзінкі, аб'яднанай агульнымі каштоўнасцямі і памкненнямі.

*Музейны ўнікат*

# На карысць беларускай справы

**Музеі збіраюць і захоўваюць вялікае мноства прадметаў-арыгіналаў, сведак матэрыяльнай і духоўнай культуры чалавека і грамадства. Унікальныя рэчы, якія дайшлі да нашых дзён, дапамагаюць зразумець гістарычную праўду. Сярод такіх каштоўнасцей — экзэмпляры газеты "Наша Ніва". Дарэчы, у лістападзе 2011 года споўнілася 105 гадоў з дня выхаду першага нумара гэтага выдання.**

**Наталля ЛОЎЧАЯ,**
**фота Раісы Марчук**

З 10 лістапада 1906 года па 7 жніўня 1915-га "Наша ніва" выдавалася ў Вільні на беларускай і лацінскай мовах. Рэдактарамі аддзелаў у розныя часы былі Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Вацлаў Ластоўскі, Ядвігін Ш. Газета мела карэспандэнтаў у павятовых і губернскіх гарадах, мястэчках і вёсках Беларусі, а таксама ў Маскве, Пецярбургу, Сібіры і за мяжой.

Ужо з першага нумара штотыднёвік абвясціў сваю галоўную мэту: "Каб усе беларусы, якія не ведаюць, хто яны ёсць, зразумелі, што яны — беларусы, і людзі каб пазналі свае права і памаглі нам у рабоце... А цяпер прызываем усіх, хто разумее нашы ідэі, адчувае тое, што мы чуем, і захоча нам дапамагчы: «Падтрымайце нас у нашай рабоце!»"

Заснавальнікі газеты разумелі, што недастаткова толькі вылучыць ідэю, патрэбна мець яшчэ і вялікую групу людзей, якія прысвяцілі б сябе ўвасабленню гэтай ідэі ў жыццё. Нашаніўцы вельмі аддана працавалі над павышэннем асабістага ўзроўню ведання мовы і згуртаваннем аднадумцаў. Працавалі сістэмна. Першымі мэтамі нацыянальнага руху былі арганізацыя школ і навучання на беларускай мове. Выключная роля ў гэтай справе адводзілася беларускай інтэлігенцыі. Публіцысты даводзілі, што наша мова ніколькі не горшая за суседнія, што толькі на ёй павінна стварацца беларуская літаратура.

Для нас, валожынцаў, вялікім гонарам з'яўляецца той факт, што многія нашыя знакамітыя землякі-літаратары пачалі сваё станаўленне менавіта на старонках "Нашай Нівы". Так, напрыклад, упершыню свой допіс пра мястэчка Валожын у рэдакцыю "Нашай нівы" 16 красавіка 1909 года, а следам верш "Сонейка прыгрэла" даслаў наш зямляк Стары Улас (Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі).

На працягу ўсяго часу, што выдавалася "Наша Ніва", Стары Улас у меру сваіх сіл і магчымасцей "засяваў" сваю літаратурную ніву. Браў зерні народнай мудрасці, саграваў цяплом свайго сэрца і шчодрай рукой "засяваў" глебу маладой беларускай літаратуры. У рэдакцыі газеты восенню 1908 года ён упершыню сустрэўся з Янкам Купалам і ў хуткім часе пазнаёміў яго са сваёй землячкай Уладзіслаўай Станкевіч. Уладзіслава Францаўна, ураджэнка мястэчка Вішнева, актыўна прапагандавала беларускую літаратуру, была карэспандэнтам "Нашай Нівы", куды пісала і вершы пад псеўданімам "Уладычанка" і "В. Станкевічанка". Разам з Купалам і Уладзіславай Станкевіч у 1914 — 1915 гадах Стары Улас наведаў Валожыншчыну, а таксама некаторыя вёскі і мястэчкі Міншчыны, дзе яны цікавіліся мясцовым фальклорам і распаўсюджвалі газету "Наша Ніва".

Пэўны час рэдактарам "Нашай Нівы" быў наш знакаміты зямляк Ядвігін Ш. — Антон Іванавіч Лявіцкі, пісьменнік і публіцыст, пачынальнік беларускай нацыянальнай прозы. Дзіцячыя гады ён правёў у вёсцы Пяршаі, яго бацька быў лоўчым у графа Тышкевіча. Сам ён вучыўся некаторы час у школцы В. Дуніна-Марцінкевіча. У 1910 годзе Ядвігін Ш. надрукаваў у "Нашай Ніве" паэму "Дзед Завала", у 1912-м і 1914-м, адпаведна, апавяданні "Бярозка" і "Васількі".



*Дырэктар Валожынскага краязнаўчага музея Наталля Лоўчая прадстаўляе "Нашу Ніву".*

Яшчэ адна наша зямлячка, чатырнаццацігадовая Канстанцыя Буйло, прыехаўшы ў Вільню, упершыню зайшла ў рэдакцыю "Нашай Нівы". Яна ўжо тады друкавалася. У дзесяць гадоў даслала сюды свой першы верш "Лес".

"Наша Ніва" грунтоўна працавала над ідэйным выхаваннем сваіх чытачоў — беларускага народа, арыентавалася на вясковую інтэлігенцыю, імкнулася яе згуртаваць і зрабіць больш сацыяльна актыўнай. Рэдакцыі "Нашай Нівы" ўдалося выхаваць у патрыятычным духу пэўную колькасць адукаваных людзей, якія былі гатовы служыць на карысць беларускай справы.

*Экскурс у мінулае*

# Вяселле ў «Пружанскім палацыку»

**У музеі-сядзібе "Пружанскі палацык" працуе выстаўка "Пружанскае вяселле", на якой прадстаўлена 130 унікальных фотаздымкаў, зробленых у 1910 — 1970 гадах. Экспанаты выстаўкі дазваляюць убачыць, як выглядалі людзі ў ранейшыя часы, і прасачыць эвалюцыю вясельнай моды.**

**Наталля ПРАКАПОВІЧ**

На пачатку XX ст. модныя еўрапейскія тэндэнцыі прыйшлі і на Пружаншчыну, праўда, з некаторым спазненнем. У першыя дзесяцігоддзі XX ст. вясельны ўбор маладой гараджанкі найчасцей быў белага колеру, яго абавязковыя элементы — вэлюм і флёрданж (кветкавы галаўны вянок). Напярэдадні Першай сусветнай вайны нявесты аддавалі перавагу доўгім суконкам са стаячым каўняром і шырокім поясам. Сукенка аздаблялася карункавымі ўстаўкамі, валанамі, вышыўкай, прышпіленай брошкай, ніткамі жэмчугу і інш. Вясельныя здымкі таго часу рабіліся выключна ў фотастудыях. У Пружанах фотасправай займаліся некалькі майстэрань, сярод якіх вылучаліся студыі Г. Дамбравіцкага і М. Льва. Менавіта здымкі, зробленыя ў іх у 1910 — 1930-я гады, складаюць значную частку экспанатаў выстаўкі. Фотакарткі адрозніваліся знешнім афармленнем і асаблівымі архітэктурна-расліннымі насценнымі малюнкамі, на фоне якіх пазіравалі маладыя.

Істотна змяніліся адносіны да шлюбу і вясельных убораў у часы Першай сусветнай вайны і пасля яе. Калі раней да вяселля рыхтаваліся загадзя, то ў сітуацыі ваенна-рэвалюцыйнага ліхалецця, агульнага збяднення насельніцтва і бежанства не было сродкаў і часу, каб праводзіць урачыстыя мерапрыемствы і замаўляць раскошныя касцюмы. Найчасцей маладыя ў сціплым адзенні толькі вянчаліся.



*Антон і Лізавета Муха, вёска Куплін. 1935 г.*

У пасляваенны перыяд вясельныя ўборы ў заходнебеларускіх мястэчках заставаліся простымі. Найчасцей касцюм маладой складаўся з белай блузкі і цёмнай спадніцы. Аднак імкненне ўрачыста адзначыць вяселле прывяло да своеасаблівай эклектыкі ў касцюме. Маладая надзявала ўбор, дзе маглі спалучацца элементы еўрапейскай моды розных часоў і традыцыйнага беларускага адзення.

У сярэдзіне 1920-х гадоў на выгляд адзення паўплывала змена статусу жанчыны, якая ў час вайны заняла важнае месца ў вытворчай сферы і грамадскім жыцці. Істотна змяніліся ідэалы прыгажосці: красуня адрознівалася хударлявай спартыўнай фігурай і кароткай геаметрычнай стрыжкай. Рэвалюцыйнае ўкарочванне жаночага адзення, якое ў пачатку 20-х гадоў зрабіла Како Шанэль, дакацілася і да Пружан. Мясцовыя модніцы сталі апранаць кароткія вясельныя сукенкі з прыспушчанай таліяй і шляпкі-цацкалкі ці вэлюм з накінутым флёрдаранжам. Трэба адзначыць, што ў гэты час на змену сацыяльным асаблівасцям у адзенні прыйшлі рысы, выкліканыя маёмаснай дыферэнцыяцыяй: касцюмы багацейшых і бяднейшых слаёў адрозніваліся не фасонам, а якасцю тканіны і майстэрствам краўца.

Новы віток моды быў звязаны з распаўсюджаннем канонаў, якія дыктаваліся амерыканска-еўрапейскім кінематографам і перыядычнымі друкаванымі выданнямі. У іх паказваўся ідэал прыгажосці, арыентаваны на вытанчанасць, рамантычнасць і жаноцкасць. На фота другой паловы 30-х гадоў зноў можна сустрэць доўгія сукенкі і вэлюмы.

Паступовае сціранне межаў у адзенні паміж горадам і вёскай прывяло да выцяснення традыцыйнага беларускага касцюма. Уборы маладых, якія яшчэ ў пачатку XX ст. захоўвалі рэгіянальныя асаблівасці і адпавядалі пэўным строям і эстэтычна-магічным уяўленням




*Адварот фота, зробленага ў студыі М. Льва. 1920-я гады.*

жыхароў розных куткоў Беларусі, сыходзілі ў нябыт. Аднак у мясцовасцях, якія былі аддалены ад горада, доўгі час захоўваліся спрадвечныя беларускія абрады і адзенне.

Свае карэктывы ў вясельную абраднасць унесла і Другая сусветная вайна, якая прымусіла нявест на некаторы час адмовіцца ад белай сукенкі і вэлюму. Аднак ужо з 1950-х гадоў маладыя сталі выкарыстоўваць вясельныя ўборы, якія выглядалі сціпла, але рамантычна: доўгія спадніцы, прыспушчаная талія і туфлі-лодачкі. З палітыкай "хрушчоўскай адлігі" звязваюць разнастайнасць вясельных убораў. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывалі еўрапейскія ўплывы, якія, нягледзячы на адносную зачыненасць СССР, пранікалі за "жалезную заслону".

Нягледзячы на ваганні моды, у Беларусі заўсёды ўважліва ставіліся да выбару вясельнай вопраткі. Мода дыктавала разнастайныя галаўныя ўборы, дацжыню і фасоны сукенак, упрыгожванні і прычоскі.

## Запрашае Гарадніца

У Гродне пасля рэканструкцыі зноў распачаў сваю дзейнасць Музей гісторыі Гарадніцы. Праца па стварэнні новай экспазіцыі заняла амаль год.

Колькасць залаў у музеі засталася нязменнай. Так, першая з іх прысвечана асобе Антонія Тызенгаўза. Яе экспазіцыя знаёміць з вынікамі рэфарматарскай дзейнасці графа. Тут можна пабачыць вырабы мануфактур і майстэрань, дакументы і чарцяжы XVIII стагоддзя. Другая зала прадстаўляе інтэр'ер кухні XVIII стагоддзя. Экспазіцыя апошняй, выставачнай, залы будзе абнаўляцца раз на два месяцы. Цяпер тут праходзіць выстаўка "Мова народных тканін", дзе наведвальнікі могуць пазнаёміцца з узорамі тканцтва — ручнікамі, народнымі строямі, тканымі паясамі, а таксама з вышыўкай.

**Юзэфа ВОЎК**

# Шаты і карані Бацькаўшчыны

**Вось ужо больш як дзесяць гадоў цэнтр "Явар" ладзіць вандроўкі па мястэчках і вёсках нашай краіны, зазірае ў самыя патаемныя яе куточкі, даследуе язычніцкія карані беларусаў. Пра цікавыя і неверагодныя адкрыцці, захапляльныя пошукі — наша гутарка са старшынёй грамадскага аб'яднання "Этнагістарычны цэнтр «Явар»" Ірынай Клімковіч.**

Марына ВЕСЯЛУХА

**— Ірына, чаму вас зацікавілі рэшткі менавіта дахрысціянскага мінулага?**

— Мы жывём у 2012 годзе, але ж чалавецтва мае куды даўжэйшую гісторыю. Пра дзве тысячы гадоў можна казаць толькі адносна хрысціянскай эры. І што, атрымліваецца, дагэтуль нашы продкі ў пячорах жылі і ў скуры жывёл апраналіся? Вядома, не. Рэшткі дахрысціянскага мінулага — археалагічныя знаходкі, ландшафтныя святыні, легенды, паданні, абрадавы фальклор — кажуць пра адваротнае. Не ў адзін дзень яны нарадзіліся, а назапашваліся і развіваліся цягам стагоддзяў.

Невыпадкова наша суполка, якая даследуе язычніцкія карані беларусаў, мае назву "Явар". Явар — сакральнае Дрэва Жыцця і Смерці, апетае ў легендах і паданнях нашага народа, карані яго сыходзяць у мінулае, а шаты сімвалізуюць будучыню. Зразумела, дрэва будзе жыць і красаваць толькі пры ўмове гармоніі паміж шатамі і каранямі. Іншага не дадзена.

**— Ці ёсць абавязковыя ўмовы, якім павінна адпавядаць мясціна, каб называцца сакральнай?**

— Сакральная мясціна, або, іншымі словамі, частка пэўнай мясцовасці, вылучаецца сярод астатніх ландшафтаў тым, што захавалася ў фальклорнай памяці народа. Гэта можа быць легенда, паданне ці рытуальнае дзеянне. Сакральныя або святыя мясціны могуць быць рознымі. Тут і ўзгоркі, і даліны, рэкі і іх вытокі, крыніцы, азёры, камяні і дрэвы, гарадзішчы і курганы... Так, паводле старадаўніх уяўленняў, гарадзішчы і горы насыпалі волаты, у стварэнні азёр і рэк бралі ўдзел звяры і птушкі, камяні і дрэвы — гэта пераўтвораныя ў іх людзі… А да некаторых сакральных мясцін, як, да прыкладу, да святых крыніц і камянёў, беларусы прыходзяць і ў наш час, там яны праводзяць своеасаблівыя абрады іх ушанавання.

Пра кожную такую мясціну сябрамі "Явара" папярэдне збіраецца інфармацыя: архіўныя дадзеныя, расповеды мясцовых краязнаўцаў, папярэднія даследаванні навукоўцаў і г.д. Потым мы выпраўляемся ў экспедыцыю.

**— Якія экспедыцыі лічыце ўдалымі?**

— Ведаеце, мы свае экспедыцыі заўсёды лічым па-свойму паспяховымі. Нават калі не знаходзім таго аб'екта, пра які прачыталі ў архіўнай літаратуры ці пачулі ад каго-небудзь. Проста часам адчуваеш задавальненне ад размовы з вясковай бабулькай, дзівішся яе народнай мудрасці і развагам. Тое, што нас цікавіць, звычайна знаходзіцца ў маланаселенай мясцовасці або ўвогуле ў глухіх мясцінах: у лесе, полі або сярод балота ці на выспе пасярод возера. Прыязджаеш, да прыкладу, у паўзакінутую вёску, а там змянілася некалькі пакаленняў, тыя, хто жыве ў ёй, нічога не памятаюць, ніколі не чулі пра дзіўную крынічку ці лекавае дрэва... Плюс — атэістычныя савецкія гады, калі людзям забаранялі хадзіць да святых мясцін.

Але... у некаторых выпадках застаюцца паданні ці іх рэшткі. І калі хто-небудзь з сяброў "Явара" пасля пытанняў пра незвычайнасць тутэйшых мясцін пачуе ў адказ, што на месцы возера ці гары раней стаяла царква... ды за людскія грахі правалілася, экспедыцыя была не дарэмнай. Справа ў тым, што такое паданне вельмі распаўсюджана па ўсёй Беларусі і гаворыць пра стройную сістэму дахрысціянскіх поглядаў і абрадаў, што існавала раней. Якіх абрадаў, мы пакуль, на жаль, не можам дакладна сказаць. Спадзяюся, далейшыя даследаванні дадуць адказ і на гэта пытанне.

А бывае і так, што шукаем адну святыню, а знаходзім іншую. Так, летась мы шукалі ў Салігорскім раёне вядомую некалі прошчу. Паводле архіўных дадзеных, там на вялікіх драўляных крыжах абракаліся — развешвалі стужкі, ручнікі, фартушкі. А стаялі тыя крыжы непадалёк ад святой хвоі, да якой быў прыбіты абраз і якая мела лекавыя ўласцівасці. Відавочна, гэты комплекс і ўтвараў сабою прошчу. Хвою мы не знайшлі, ад крыжоў засталіся толькі рэшткі. А ўсё таму, што прошча стаяла на ростанях — перакрыжаванні хадавой некалі дарогі, якая вяла ў хутары і вёскі. Знік і былы культ. Затое ў бліжэйшай вёсцы Пузічы не толькі памяталі пра тыя крыжы і хвою, але і стварылі новую святыню. У савецкія часы з паўразбуранага вясковага касцёла нехта выкінуў гіпсавую скульптуру Божай Маці, адбіў ёй галаву. Але вернікі падабралі яе і прымацавалі да рэштак скульптуры. Цяпер яна стаіць на касцельных могілках і нагадвае язычніцкі ідал: яе галава перавязана хусткамі, а астатняя частка — абракальнымі ручнікамі і фартушкамі. Штогод старое "адзенне" замяняецца новым.



**— Якое з апошніх адкрыццяў можна назваць незвычайным?**

— Зусім нядаўна, у чэрвені, адбылася сто чацвёртая экспедыцыя. У вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна мы шукалі так званы "Пісаны камень". Інфармацыю пра яго і фотаздымак расшукала ў бібліятэцы сябра "Явара", кандыдат гістарычных навук Людміла Дучыц. На месцы падчас гутаркі са старымі людзьмі высветлілася, што дзіўны камень, які па іншых звестках завецца яшчэ і "Сінім", быў памерам з чалавека і стаяў яшчэ ў 1970-х на раздарожжы пры павароце на Арэхаўку. Побач знаходзіўся драўляны крыж з дахам. Шмат людзей збіралася каля каменя на дзень Святога Юр'я, яны маліліся, клалі на яго сувоі льну, хлеб, абразкі святых, а крыж упрыгожвалі стужкамі. У гэты ж дзень тут ладзілі кірмаш, прывозілі бочкі з півам і квасам. Пасля вайны старшыня мясцовага калгаса пабудаваў побач са святыняй каплічку з дошак. За гэта яго выключылі з партыі. Каплічка з каменем яшчэ праіснавалі некаторы час, але ў выніку антырэлігійнай прапаганды ўшанаванне святыні перапынілі, каплічку разбурылі, а камень звезлі...

Здавалася б, што гэта за адкрыццё, калі камень знік? Патлумачу. Па-першае, мы даведаліся, што камень сапраўды існаваў і меў вялікую рэлігійную і культурную значнасць для мясцовых людзей. Па-другое, мы адкрылі яшчэ адзін рытуал ушанавання Святога Юр'я, якому ў хрысціянскую эпоху былі нададзены функцыі старажытнага боства беларусаў Ярылы, бога вайны, кахання і ўрадлівасці. Некалі ў часы Вялікага Княства Літоўскага такіх мясцін было нямала, Святому Юр'ю прысвячаліся шматлікія храмы, але паступова яго культ сышоў.

**— Пошукі дахрысціянскіх каранёў вераванняў беларускага народа, пэўна, змяняюць агульнае ўяўленне пра нашых продкаў. Якімі яны паўстаюць з улікам новых адкрыццяў? Што невядомае і цікавае, не зусім канвенцыйнае вы даведаліся пра беларусаў?**

— Вельмі часта пра наш народ кажуць, што ён занадта талерантны, прычым у адмоўным сэнсе гэтага слова — абыякавы. Але насамрэч гэта не так. Талерантнасць беларуса я ацаніла б як яго глыбокую пашану да традыцый, яго моцную фальклорную "памяць". Дагэтуль вам амаль у любой вёсачцы раскажуць цікавае паданне пра мясцовую славутасць або праспяваюць народныя песні, пачутыя яшчэ ад прапрадзедаў. Амаль у кожнай вёсачцы, дзе ёсць святыня, раскажуць пра забароны чапаць яе, а інакш, не дай Бог, з вамі і з усім мясцовым людам здарыцца непапраўная бяда.

Зноў жа, прыгадайце апошняе паганскае свяцілішча ў Мінску, якое было зачынена па патрабаванні праваслаўных святароў толькі на пачатку ХХ стагоддзя. Але яшчэ доўга людзі працягвалі прыходзіць на гэтае месца, маліцца знакамітаму каменю "Дзед" — галоўнай святыні Мінскага капішча. Так працягвалася да пачатку 1980-х, пакуль камень не перавезлі ў Музей валуноў ва Уруччы, дзе ён знаходзіцца і цяпер. І што самае цікавае, "Дзед" і па сёння карыстаецца поспехам — каля яго заўсёды можна ўбачыць прынесеныя ахвяраванні: грошы, цукеркі, стужкі...

**— Ведаю, што на рабочым стале ў вас некалькі новых кніг. Раскажыце крыху пра іх.**

— Мы вандруем па Беларусі з 1999 года. За гэты час сабралі найбагацейшы матэрыял па дахрысціянскай культуры. Плюс папярэднія даследаванні нашых калег. Натуральна, той матэрыял прааналізавалі і сістэматызавалі. У выніку выйшлі першае, другое і трэцяе выданні энцыклапедычнага слоўніка "Беларуская міфалогія". Пабачылі свет "Сакральная геаграфія Беларусі" і "Культавыя камяні нашай Бацькаўшчыны". Асобна сабраны і ўвесь час папаўняюцца новымі звесткамі матэрыял пра каляндарныя святы беларусаў. Назапасілі агромністы матэрыял пра каляндарныя святы. Цяпер афармляецца ў асобную кнігу "Каляндарныя святы ў міфах і абрадах беларусаў". Яшчэ марым выдаць кнігі пра святыя азёры, горы і дрэвы нашай краіны. У мяне асабіста ёсць планы па напісанні дзіцячых кніг на гэтую тэматыку, стварэнні на іх аснове анімацыйных і ігравых фільмаў.

# Помнікі з дарэвалюцыйнай мінуўшчыны

**Пра тое, што на ўскрайку вёскі Дудзічы ўжо ў блізкія да нас часы ўсталяваны помнік расійскаму імператару Аляксандру II, ведаюць многія жыхары Пухавіцкага раёна. Асобная гісторыя — інфармацыя пра тое, як ён захаваўся. Але мяне заўжды цікавілі дата і акалічнасці першапачатковага ўсталявання помніка. Гартаў дзеля гэтага многія даведнікі і энцыклапедыі. Ды ніводная з мяркуемых крыніц святла не праліла...**

Мікола БЕРЛЕЖ

Дапамог выпадак. На адкрыцці выстаўкі калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава "Мінск: падарожжа ў часе" ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны мяне пазнаёміў з пісьменнікам і збіральнікам старых паштовак Кірылам Сокалам. Разгаварыліся, пачалі высвятляць зацікаўленні адзін аднаго. Кірыл Геліевіч нарадзіўся ў Маскве ў 1965 годзе. Закончыў геаграфічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар кніг "Манументы імперыі" (вытрымала два выданні — у 1999 і 2001 гадах), "Руская Варшава" (2002), "Купалы над Віслай" (2003), "Стагоддзе ў камні і метале" (2005).

Расказваю Кірылу Геліевічу гісторыю пра помнік Аляксандру II у Дудзічах. Выказваю і некаторае сумненне — маўляў, наколькі ён быў вядомы... Маскоўскі даследчык усміхаецца і заўважае: "А зараз мы праверым..." І выцягвае з партфеля зусім нядаўнюю сваю кнігу — "Манументальныя помнікі Расійскай імперыі: Каталог" (Масква, 2006 год). Гартаем разам унікальную працу. Асабіста я адкрываю для сябе процьму невядомых дагэтуль беларускіх краязнаўчых матэрыялаў. А ў табліцы "Пералік помнікаў Аляксандру II, усталяваных у 1911 — 1916 гадах" знаходзім патрэбную інфармацыю: так, помнік аднаму з расійскіх манархаў — бюст — быў адкрыты ў цэнтры воласці Дудзічы 19 лютага 1912 года. Пра гэта паведаміла газета "Минское слово" ў нумары 1501 за 1912 год.

— У лютым 1911 года Расія рыхтавалася шырока адзначыць 50-годдзе адмены прыгоннага права, — расказвае Кірыл Сокал. — Ініцыятыва ўрачыстасцей зыходзіла ад улад, асноўныя выдаткі павінны былі легчы на плечы сялянства... Агульную колькасць тыпавых помнікаў узважыць складана. Магчыма, можна весці размову пра лічбу ў 2,5 — 3 тысячы... Вы цікавіцеся, ці маглі быць на Пухавіччыне яшчэ падобныя помнікі... Чаму б і не? У Мінскай губерні ўсяго было ўсталявана каля 100 помнікаў Аляксандру II. З 670 помнікаў, якія я ўвогуле згадваю ў сваёй табліцы, 436 было адкрыта ў 1911 годзе. У 1912-м — 163. У 1913-м — 49. За наступныя тры гады — усяго 22... Кампанейшчына, атрымліваецца, збавіла свае абароты. Грамадства і, адпаведна, прэса пачалі губляць цікавасць да тэмы. Ды і вайна ж пачалася...

Дзякуючы сустрэчы з Кірылам Сокалам і адкрыццю яго сапраўды ўнікальнай працы ўдалося даведацца і яшчэ пра адзін фрагмент пухавіцкай манументальнай дарэвалюцыйнай гісторыі. Чытаем у каталогу: "Традыцыя ставіць рэлігійныя помнікі захавалася і ў эпоху панавання тыпавых бюстаў Аляксандра II. Так, на плошчы сяла Цітва Ігуменскага павета Мінскай губерні быў усталяваны абеліск у памяць 50-годдзя вызвалення сялян, выкананы з мармуру, ён завяршаўся мармуровым крыжам. На помніку ў зашклёнай нішы знаходзілася ікона Аляксандра Неўскага і лампада перад ёю. Абеліскі акружала металічная агароджа. Яго асвяшчэнне адбылося 3 ліпеня 1911 года. Помнік не захаваўся". Крыніцай інфармацыі для маскоўскага гісторыка і пісьменніка зноў сталася газета "Минское слово". Гэтым разам — нумар 1325 за 1911 год.

# Рамёствы не згінуць!

**Не перапічыць свят, фестываляў, у якіх удзельнічалі члены народнага аб'яднання майстроў "Скарбніца" Валожынскага раённага цэнтра культуры. Бо яны заўсёды славіліся сваёй самабытнасцю і непаўторнасцю, здавён праслаўлялі родны край цудоўнымі творамі з саломкі, лазы, дрэва, гліны і паперы.**



*Кіраўнік аб'яднання "Скарбніца" Наталія Клімёнак дэманструе гарлачык, выраблены майстрам з Івянца Алегам Капустай.*

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

"Скарбніца" была створана ў 1998 годзе, але мінула ўсяго тры гады, а аб'яднанню было ўжо нададзена ганаровае званне "народнае". Цяпер творчы саюз налічвае амаль 50 чалавек. Што паслужыла падставай для яго ўзнікнення?

— Былі майстры, вельмі цікавыя творчыя людзі, і ў іх з'явілася жаданне аб'яднацца, каб дзяліцца сваімі сакрэтамі, перадаваць майстэрства моладзі, вучыцца адзін у аднаго, — распавяла кіраўнік "Скарбніцы" Наталія Клімёнак. — Сустракаемся даволі часта, іншы раз збіраем майстроў — па канкрэтным відзе творчасці. Штомесяц ладзім выстаўкі, а на іх адкрыццё абавязкова запрашаем усіх сваіх майстроў — нават тых, хто не ўваходзіць у аб'яднанне. Стараемся знайсці новых творцаў. Здараецца, людзі самі прыходзяць да нас з прапановамі, каб паўдзельнічаць у выстаўках, паказаць свае работы.

Многім майстрам знаёма ткацтва пояса на дошчачках, бердзечку. А вось на Валожыншчыне паспяхова развіваецца старажытны від рамяства — ткацтва "на ніту". Пры гэтай тэхналогіі майстар накладвае аснову на нагу. Ткацтва "на ніту" крыху падобна да ткацтва на кроснах. Гэтую мясцовую традыцыю адрадзіла, падтрымлівае і зберагае народны майстар Беларусі Марыя Стасяловіч з вёскі Сакаўшчына. Нягледзячы на ўзрост — а ёй ужо мінула 85 гадоў, — кіруе гуртком і перадае сваё майстэрства дарослым і дзецям. Марыя Мікалаеўна ўдзельнічае ў розных мерапрыемствах. Яе вучаніцы — Наталля Хаванская і Хрысціна Лямбовіч — таксама кіруюць гурткамі ў Сакаўшчынскім СДК і Ракаўскім ЦФ адпаведна.

— У "Скарбніцы" я працую дзесяць гадоў, — зазначыла метадыст народнага аб'яднання Таццяна Ланько. — За гэты час у нас з'явіліся новыя майстры, новыя напрамкі ў творчасці. У вёсцы Камень ёсць хата-майстэрня, дзе ў сваім доме вучыць майстэрству ткацтва Вітольд Малютка. Што цікава, ходзяць да яго пераважна хлопчыкі. Разам з вучнямі ён неаднойчы ўдзельнічаў у абласных і рэгіянальных конкурсах. Супрацоўнікі Гарадзечанскага Дома майстроў вучаць хлопчыкаў і дзяўчынак вырабляць прыгожыя рэчы з саломкі, лазы, шыць мяккія цацкі. У маленькай вёсцы Гарадзечна старэйшыя яе жыхары аб'яднаіся ў клуб "Аднадумцы", нават сваімі сіламі стварылі ў Доме майстроў этнаграфічны куток, дзе дастойнае месца занялі і адмысловыя тканыя посцілкі, і старыя вышыванкі, і прадметы сялянскага побыту.

— Дарэчы, на Валожыншчыне амаль пры кожнай клубнай установе створаны пакоі сялянскага побыту, дзе прадстаўлены рэчы, якімі карысталіся нашы дзяды і прадзеды, — паведаміла Наталія Клімёнак. — Зроблена гэта для таго, каб людзі не забывалі пра свае карані. Многія вяскоўцы прыносяць тое, што захавалася ў іх доме. Бывае, нашчадкі прадаюць бацькоўскі дом, а рэчы, вырабленыя рукамі бацькоў, не выкідваюць на сметнік, як гэта здараецца, а нясуць у клуб як каштоўны экспанат.



*Пано з лазы, інкруставанае саломкай. Работа Людмілы Кацуры.*

Народныя рамёствы не згінуць — лічаць у Валожыне. Тут працуе шмат гурткоў, дзе дзеці і моладзь ахвотна пераймаюць веды ў настаўнікаў-майстроў. Юныя ўмельцы часта ўдзельнічаюць у розных конкурсах, і даволі паспяхова. Гэта абласное свята-конкурс "Беларускі пояс", рэгіянальныя святы-конкурсы "Лазовыя карункі", "Матчыны кросны" і "Калыска талентаў", а таксама нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне.

— Наогул жа розныммі відамі рамёстваў на Валожыншчыне займаецца каля 190 чалавек! — заўважае Наталія Міхайлаўна. — Але не абавязкова быць народным майстрам. Радуе, што моладзь шмат чаму навучылася і ўжо не забудзецца пра гэта, зможа перадаць майстэрства дзецям. Прыемна, што для некаторых членаў "Скарбніцы" ранейшае захапленне стала справай жыцця. Некалькі чалавек закончылі аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага і вярнуліся на працу дамоў. Сярод іх майстры па выцінанцы Вольга Харлінская, Наталля Рэут — прызёры розных конкурсаў, першыя месцы звычайна за імі.

Падчас майго наведвання "Скарбніцы" тут працавала выстаўка вырабаў Таісы Кацуры, яе сына Аляксандра і нявесткі Людмілы з вёскі Гарадзечна. Усе трое — вядомыя ў акрузе майстры, займаюцца лоза- і саломапляценнем, аплікацыяй з саломкі, працуюць пры Гарадзечанскім Доме майстроў.

У хуткім часе раённыя ўлады абяцаюць вылучыць "Скарбніцы" новае памяшканне, бо гэтая праблема наспела ўжо даўно. Пакуль жа майстры збіраюцца ў невялікім пакоі, дзе і выстаўкі ладзяцца, і заняткі праводзяцца. Калі будзе больш плошчы, змогуць працаваць на месцы і праводзіць майстар-класы. І не абавязкова за грошы. Ёсць нямала тых, хто настолькі любіць сваю справу, што хацеў бы ў вольны час займацца з дзецьмі. Галоўнае, каб майстэрства продкаў не згінула.

*З глыбінкі*

## У салаўіным спеўным краі

"Паэзія — стан думак, творчасць — лад жыцця" — такую ацэнку творчай сустрэчы уздзенскіх і дзяржынскіх паэтаў і аматараў паэтычнага радка дала галоўны рэдактар дзяржынскай раённай газеты "Узвышша" Алена Стэльмах.

Паэты Уздзеншчыны і Дзяржыншчыны спаткаліся не ўпершыя раз. Першая іх сустрэча адбылася ў сакавіку ў дзяржынскай бібліятэцы. А ў чэрвені дзяржынская дэлегацыя наведала Уздзеншчыну — наш "салаўіны спеўны край", дзе сустрэлася з членамі літаб'яднання "Нёманец". Сярод гасцей, што завіталі ў літаратурную гасцёўню Паўлюка Труса, былі дырэктар Дзяржынскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Валянціна Клімовіч, галоўны рэдактар "Узвышша" Алена Стэльмах, кіраўнік літаратурнага клуба "Вытокі" Ірына Міхалевіч і мясцовыя паэты.

Падчас экскурсіі ў раённым гісторыка-краязнаўчым музеі літаратары завочна пабывалі ў маёнтку Якуба Наркевіча-Ёдкі і прайшліся дарогамі вайны. З цікавасцю разглядалі карціны Міхася Рагалевіча, літаратурную спадчыну ўраджэнцаў уздзенскага краю і вырабы з фарфору. Шчырае захапленне выклікала наведванне беларускай хаткі XIX стагоддзя і магчымасць зазірнуць у калодзеж надзей і жаданняў.

Пасля госці і гаспадары сабраліся ў чытальнай зале бібліятэкі, дзе уздзенскія і дзяржынскія аматары мілагучнага слова па чарзе прадоўжылі разгойдваць "паэтычныя арэлі", дэкламуючы свае лепшыя вершы пра каханне, сэнс жыцця, сумленне, выконваючы душэўныя аўтарскія песні.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ, г. Узда**

## Тандэм музыкі і паэзіі

Імя Аляксея Нежаўца добра вядомае аматарам бардаўскай песні. Кампазітар, аранжыроўшчык і выканаўца, ён неаднаразова станавіўся лаўрэатам і дыпламантам шматлікіх фестываляў і конкурсаў аўтарскай песні ў Беларусі і па-за яе межамі, часта гастралюе па гарадах Расіі, Украіны, Польшчы.

Нядаўна беларускі бард завітаў у г.п. Радашковічы, дзе выступіў перад вучнямі ды настаўнікамі мясцовай школы і ў санаторыі "Сасновы бор". З асаблівай цеплынёй адпачываючыя, сярод якіх аказалася большасць расіян, слухалі ў яго выкананні песні, напісаныя на вершы беларускіх паэтаў Ф. Багушэвіча, Я. Янішчыц, В. Жуковіча, А. Пісьмянкова, Н. Гальпяровіча. А вось вершы і літаратурныя пароды Анатоля Зэкава прысутныя на абедзвюх сустрэчах змаглі пачуць у выкананні самога аўтара. Такім музычна-паэтычным тандэмам А. Нежавец і А. Зэкаў выступалі ўпершыню, але спадзяюцца, што іх супрацоўніцтва працягнецца, у тым ліку і ў выглядзе сумесна напісаных песень.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ, Маладзечанскі раён**

*Афарызм*

*Не пагасіць вам праўды яснай:*
*Жыў беларус і будзе жыць!*

**Янка КУПАЛА**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2752
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 05.07.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3003
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686